● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

12 лістапада 1998 г. чацвер, № 220—221 (23571—23572)



# ЗВЯЗДА

## Вада з тэрыторыі Украіны нам не пагражае

**У выніку моцных дажджоў, што ішлі апошнім часам у Закарпацці, там утварылася складаная і небяспечная абстаноўка на шэрагу горных рэк. У многіх мясцовасцях адзначаюцца моцныя паводкі, якія, на жаль, ужо забралі жыцці 9 чалавек.**

— Беларусі надзвычайная сітуацыя ў Закарпацці нічым не пагражае, — паведаміў у адказ на наш запыт начальнік аддзела гідралогіі і гідрапрагнозу Дзяржкамгідрамета Рыгор Чэкан. — Уся вада там пайшла ў раку Цісу і далей, у басейн Дуная. Іншымі словамі, зусім у процілеглы ад нас бок. Пра нейкую небяспеку можна было б гаварыць хіба толькі тады, калі б дажджы прайшлі ў Прыкарпацці — у Львоўскай, Ровенскай, Луцкай, Жытомірскай, Валынскай ці Хмяльніцкай абласцях. Тады была б рызыка, што вада пойдзе ў адну з нашых рэк — Гарынь, Прыпяць ці Буг. Таму супакойце чытачоў: тыя паводкі, якія адбываюцца на тэрыторыі Закарпацця, на нашых рэках не адаб'юцца.

Дарэчы, сёлета ў нас высокі ўзровень вады да гэтага часу захоўваецца практычна на ўсіх рэках, шмат дзе вада па-ранейшаму стаіць на поймах. Найперш гэта датычыць Сожа, Бярэзіны, Дняпра. Праўда, апошнім часам дзякуючы марознаму надвор'ю працэс пачаў спыняцца — узровень вады пачаў падаць.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

Нарачанскія яблыкі

## БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ ЗВЕРЫЛІ СТРАТЭГІЮ БЯСПЕКІ

**Аднадзённы візіт у нашу краіну сакратара Савета бяспекі Расіі Мікалая Бардзюжы пачаўся з яго сустрэчы з прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам. Яна адбылася 11 лістапада ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы ў Вайсковым завулку за зачыненымі дзвярамі.**

На сустрэчы былі абмеркаваны пытанні, што датычаць далейшага супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў у сферы забеспячэння эканамічнай, ваеннай, грамадскай, экалагічнай, інфармацыйнай і іншых відаў бяспекі, а таксама ў справе падтрымання міру на рэгіянальным і міжнародным узроўнях.

Аб тым, што расійскі бок удзяляе гэтым пытанням вялікае значэнне, сведчаць і словы, сказаныя Мікалаем Бардзюжам перад адлётам у Мінск. Ён заявіў аб тым, што Беларусь з'яўляецца натуральным стратэгічным партнёрам Расіі. Гэта партнёрства дзвюх дзяржаў заснавана на трывалым фундаменце шматвяковай дружбы і брацтва нашых народаў, якія разам пераадолелі нямала суровых выпрабаванняў. Ён выказаў упэўненасць, што расійска-беларускае супрацоўніцтва ў сферы забеспячэння бяспекі паслужыць агульнай справе ўмацавання і развіцця брацкіх саюзніцкіх адносінаў паміж дзяржавамі.

У гэты ж дзень Мікалай Бардзюжа сустрэўся з дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі нашай краіны, памочнікам прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Віктарам Шэйманам.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРЭС-СЛУЖБЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**11 лістапада 1998 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка правёў нараду аб сітуацыі на спажывецкім рынку рэспублікі і мерах па яго насычэнню.**

Разгледжана работа народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ў цяперашніх умовах. Заслуханы справаздачы прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь і іншых кіраўнікоў дзяржаўных органаў. Дадзены жорсткія ацэнкі недахопаў у рабоце па насычэнню спажывецкага рынку.

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь пастаўлена задача да 1 снежня 1998 г. цалкам нармалізаваць работу ўсіх галін эканомікі, насыціць спажывецкі рынак, забяспечыць выкананне патрабаванняў прэзідэнта ў галіне цэнавай палітыкі, наладзіць функцыянаванне фінансавага рынку.

У мэтах забеспячэння выканання пастаўленай задачы і каардынацыі дзейнасці дзяржаўных органаў утвораны Рэспубліканскі штаб пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М. У. Мясніковіча — кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Акрамя яго, у састаў штаба ўвайшлі і іншыя вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы.

На штаб ускладзены:

падрыхтоўка і ўнясенне на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прапаноў па вызначэнню і рэалізацыі асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі; кантроль за выкананнем рашэнняў кіраўніка дзяржавы;

прыняцце абавязковых для ўсіх дзяржаўных органаў рашэнняў па рэалізацыі мераў, вызначаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

выкананне іншых даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — выпрацоўка і ўнясенне прапаноў прэзідэнту.

Наваствoранаму штабу даручана да 13 лістапада 1998 г. разгледзець перш за ўсё пытанні па забеспячэнню стабільнай работы прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю і іншых сфераў. У цэнтры ўвагі яго дзейнасці будуць знаходзіцца праблемы:

цэнаўтварэння;

заработнай платы і сацыяльнай абароны насельніцтва;

валютнага і фінансавага рэгулявання;

палітыкі абменнага курса беларускага рубля.

Кіраўнік дзяржавы назначыў сваіх упаўнаважаных па абласцях і г. Мінску:

Брэсцкая вобласць — І. І. Цыцянкоў, кіраўнік спраў прэзідэнта;

Віцебская вобласць — М. Ф. Дамашкевіч, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю;

Гродзенская вобласць — Л. П. Козік, намеснік прэм'ер-міністра;

Гомельская вобласць — У. І. Ганчарэнка, міністр сувязі;

Мінская вобласць — С. С. Лінг, прэм'ер-міністр;

Магілёўская вобласць — А. А. Папкоў, намеснік прэм'ер-міністра;

г. Мінск — М. У. Мясніковіч, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь — памочніку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы В. У. Шэйману даручана забяспечыць абарону спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь, кантроль за ажыццяўленнем валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і рэалізацыю маёмасці, канфіскаванай за парушэнне заканадаўства.

На намеснікаў прэм'ер-міністра А. А. Папкова і Л. П. Козіка ўскладзены адпаведна забеспячэнне грамадзян Рэспублікі Беларусь харчовымі таварамі і навядзенне парадку ў гандлі.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне аб змяненні свайго графіка работы. Галоўная ўвага будзе ўдзелена вывучэнню становішча спраў на месцах: у рэгіёнах, на прадпрыемствах, установах, арганізацыях.

Кіраўніком дзяржавы пастаўлена задача ўнесці прапановы па кадраваму ўмацаванню рэспубліканскіх і мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання. На дзяржаўныя пасады павінны прыйсці адказныя, ініцыятыўныя маладыя людзі.

Прэзідэнт запатрабаваў ад міністра фінансаў М. П. Корбута зрабіць больш жорсткімі патрабаванні па расходаванню бюджэтных сродкаў, скараціць расходы на набыццё аўтамабіляў, мэблі, камандзіроўкі, неапершачарговае будаўніцтва, рамонт будынкаў і да т. п.

А. Р. Лукашэнка будзе жорстка патрабаваць за ажыццяўленне мераў па эканоміі энергарэсурсаў, матэрыяльных і фінансавых сродкаў, выкананне працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны ўсімі — ад радавога работніка да вышэйшых службовых асоб. Будуць сурова спыняцца факты п'янак, расхлябанасці на вытворчасці.

Прэзідэнтам было адзначана, што ў краіне ёсць усе неабходныя ўмовы для таго, каб забяспечыць уздым эканомікі і жыццёвага ўзроўню людзей, абараніць іх ад знешніх і ўнутраных неспрыяльных фактараў.

## Святочныя падарункі — па безнаяўнаму разліку

Міністэрства гандлю накіравала сваім органам кіравання на месцах даручэнне забяспечыць бесперашкодны водпуск арганізацыям за безнаяўны разлік кандытарскіх вырабаў і інш. для фарміравання навагодніх дзіцячых падарункаў. З гэтай мэтай павінны фарміравацца адпаведныя таварныя рэсурсы.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## КОЖНЫ ПЯТЫ РУБЕЛЬ «ТОНЕ» Ў ШКЛЯНЦЫ

Амаль пятая частка «харчовага бюджэту» сярэдняй беларускай сям'і прыпадае на алкагольныя напіткі. Паводле даных Міністэрства гандлю, спажыванне гарэлкі на душу насельніцтва дасягнула катастрафічнага ўзроўню — 50 бутэлек у год. Па выніках апошніх 9 месяцаў на гэтыя мэты затрачана 11 трыльёнаў рублёў.

Начальнік упраўлення арганізацыі гандлю гэтага міністэрства Генадзь Мельнік паведаміў таксама карэспандэнту БЕЛТА, што алкагольная інтаксікацыя стала асноўнай прычынай гібелі беларусаў. Сёлета па гэтай прычыне памерлі 2226 чалавек. Для параўнання: у аўтакатастрофах загінулі 1966 грамадзян рэспублікі.

Поўная дзяржаўная манаполія на вытворчасць, захоўванне і гандаль спіртным замацавана заканадаўча. Больш таго, у спіс відаў дзейнасці, якія падлягаюць ліцэнзаванню, трапілі вытворчасць коркаў, этыкетак і шкляной тары. Да таго ж у бліжэйшы час будзе зменена ахоўная маркіроўка на лікёра-гарэлачных вырабах. Спецыяльны кропельна-струменны малюнак на корках будзе мяняцца кожныя два гады.

**БЕЛТА.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 11 ЛІСТАПАДА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 79900 | 80000 | 47290 | 47350 | 5020 | 5220 | 216-23-91 |
| Тэхнабанк | 79000 | 80000 | 46800 | 47300 | 5020 | 5220 | 283-15-00 |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 79700 | 80000 | 46000 | 47350 | 4900 | 5200 | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 63000,00 | | 37442,05 | | 4050,00 | | Курс на 12.11.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 15,5800 | | 9,2705 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваць ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***



*Усміхнемся!*

Усё ляжу і ляжу, а грошай усё няма і няма...



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

У вас, грамадзянін, дзеці ёсць?
— Не і не будзе!
— Чаму?
— Хацеў у мятро бясплатна праскочыць.
— І што ж?
— Не атрымалася.

●

Бледны як смерць мужчына расказвае прыяцелям:

— Я сеў у таксі і адразу зразумеў, што за рулём — ас. Ён лавіраваў паміж машын, увільваў ад грузавікоў, праскокваў прама пад носам у прахожых! Але па-сапраўднаму я спужаўся потым, калі мы прыехалі. Ён дастаў лупу, каб паглядзець на лічыльнік.

*Крымінал*

## Жудаснае забойства мінскай школьніцы

**Мінскай міжрайпракуратурай сумесна з работнікамі крымінальнага вышуку раскрыта жудаснае забойства вучаніцы 10 класа адной са сталічных школ Веры Н.**

Дзяўчынка бясследна знікла яшчэ 10 верасня гэтага года. Днямі труп Веры з 280 колата-рэзанымі ранамі быў знойдзены ў лесе паблізу вёскі Гарадзішча. Арыштаваны і двое падазраваемых у гэтым жудасным забойстве, адзін з якіх — непаўналетні.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**начальнік прэс-цэнтра Пракуратуры Беларусі.**

## БЕЛАРУСЬ І ТУРЦЫЯ ГАТОВЫ ДА АКТЫЎНАГА ДЫЯЛОГА

Візіт у Беларусь віцэ-прэм'ера, міністра нацыянальнай абароны Турцыі Ісмета Сезгіна ўспрыняты ў нашай рэспубліцы з асаблівай радасцю, адзначыў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, сустракаючы 10 лістапада высокага госця ў сваёй рэзідэнцыі ў Вайсковым завулку. Такія адносіны, паводле слоў кіраўніка дзяржавы, выкліканы тым, што Турцыя праводзіць апошнім часам палітыку, арыентаваную на збліжэнне з Беларуссю. Прычым датычыць гэта не толькі ваенна-тэхнічнага, але і эканамічнага, гандлёвага супрацоўніцтва, а таксама ўстанаўлення больш цесных кантактаў у такіх галінах, як культура, адукацыя, навука. «Мы гатовы да актыўнага дыялога ва ўсіх сферах дзейнасці», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

Такую ж пазіцыю выказаў на сустрэчы з беларускім прэзідэнтам і Ісмет Сезгін. Ён з задавальненнем адзначыў цёплую атмасферу ўзаемаразумення, у якой праходзіць візіт турэцкай дэлегацыі ў нашай краіне.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ І ТУРЦЫЯ ДАМОВІЛІСЯ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ Ў ГАЛІНЕ АБАРОННАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

**Падпісаннем міжурадавага пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Турэцкай Рэспублікай аб супрацоўніцтве ў галіне абароннай прамысловасці завяршыўся трохдзённы візіт у нашу краіну віцэ-прэм'ера турэцкага ўрада і міністра нацыянальнай абароны гэтай краіны Ісмета Сезгіна. Разам з госцем гэтае пагадненне падпісаў беларускі міністр абароны Аляксандр Чумакоў.**

— Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь удзяляе вялікую ўвагу пытанням развіцця беларуска-турэцкага абароннага і ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва, — падкрэсліў на падагульняючай прэс-канферэнцыі беларускі міністр абароны А. Чумакоў.

Ягоны калега Ісмет Сезгін выказаў перакананне, што «супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі робіць вялікі ўклад у развіццё міжнароднай і нацыянальнай бяспекі».

— Мы лічым, што ў будучым нам неабходна развіваць адносіны ў ваенна-тэхнічнай галіне. Але на сёння размовы пра набыццё ў Беларусі ваеннай тэхнікі няма, — падкрэсліў І. Сезгін. У прыватнасці ж ён прапанаваў беларускім прадпрыемствам удзельнічаць у тэндэрах, якія праводзяцца ягоным міністэрствам у Турцыі. А. Чумакоў лічыць, што ў ваенна-тэхнічнай галіне Беларусь і Турцыя маюць «над чым падумаць і папрацаваць». У будучым гэтым зоймуцца эксперты.

Акрамя ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва ў ходзе візіту шырока абмяркоўваліся пытанні ўзаемадзеяння па праграме «Партнёрства дзеля міру», пашырэння НАТО на Усход. Беларусь неаднаразова выказвала сваю негатыўную ацэнку гэтага працэсу, у той час як Турцыя, якая з'яўляецца членам НАТО, была яго гарачай прыхільніцай. Як можна разумець, на цяперашні момант гэта супярэчнасць знята.

— Расшырэнне НАТО на Усход — гэта ўжо сённяшняя рэальнасць. Рэспубліка Беларусь і НАТО будуць мець агульную граніцу. І мы праводзім палітыку, каб краіны, якія далучаюцца да НАТО, у прыватнасці Польшча, не размяшчалі на сваёй тэрыторыі сродкі ядзернага нападу, не ўтваралі новыя вайсковыя фарміраванні і ваенную інфраструктуру. Наша ж дактрына — гэта палітыка адкрытасці, даверу, міралюбства і неўмяшання ва ўнутраныя справы, — падкрэсліў Аляксандр Чумакоў на прэс-канферэнцыі па выніках візіту турэцкага госця 11 лістапада.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ТУРЭЦКАЯ ВАЕННАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ НАВЕДАЛА БАРАНАВІЧЫ

У ходзе візіту ў Беларусь адбылася сустрэча кіраўнікоў ваенных ведамстваў Беларусі і Турцыі сам-насам, а таксама пленарнае пасяджэнне прадстаўнікоў ваенных дэлегацый. У першы дзень візіту турэцкая дэлегацыя наведала Ваенную акадэмію РБ.

Затым высокія госці накіраваліся ў Баранавічы, дзе наведалі 61-ю знішчальна-авіяцыйную базу і Баранавіцкі авіярамонтны завод. Фігурамі вышэйшага пілатажу ў выкананні беларускіх ваенных лётчыкаў былі ўражаны не толькі міністр абароны Турцыі Ісмет Сезгін і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турэцкай Рэспублікі ў Беларусі спадарыня Сойсал, але і экіпаж самалёта турэцкіх ВПС, які даставіў дэлегацыю.

Напрыканцы візіту паміж турэцкім і беларускім бакамі былі падпісаны шэраг пагадненняў.

**Сяргей ПРОТАС.**

*АФІЦЫЙНА*

## БЕЛАРУСЬ І АБСЕ ЗВЯРАЮЦЬ СВАЕ ПАЗІЦЫІ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 10 лістапада сустрэўся з кіраўніком кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ ў нашай краіне, паслом Хансам-Георгам Вікам.

У ходзе перагавораў, якія прайшлі за зачыненымі дзвярамі, абмяркоўваліся пытанні, што датычаць асаблівасцяў функцыянавання місіі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе на тэрыторыі Беларусі. Закраналіся праблемы, якія, на думку бакоў, перашкаджаюць комплекснай нармалізацыі адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і шэрагам еўрапейскіх міждзяржаўных структур.

Аляксандр Лукашэнка і Ханс-Георг Вік абмяняліся таксама думкамі адносна існуючай сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 537 АБ НАЗНАЧЭННІ А. А. ПАПКОВА НАМЕСНІКАМ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1. Назначыць Папкова Аляксандра Андрэевіча намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

2. Дадатак да Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 студзеня 1997 г. № 57 «Аб зацвярджэнні саставу Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 2, арт. 62; № 14, арт. 496) пасля слоў: «Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь — Навіцкі Генадзь Васільевіч» дапоўніць словамі: «Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь — Папкоў Аляксандр Андрэевіч».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

10 лістапада 1998 г., г.Мінск.

*Папкоў Аляксандр Андрэевіч нарадзіўся ў 1948 годзе, беларус, адукацыя вышэйшая. У 1975 годзе закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці вучоны аграном, а ў 1986 годзе — Мінскую ВПШ.*

*Працоўную дзейнасць пачаў у 1967 годзе галоўным аграномам калгаса «Іскра» Круглянскага раёна.*

*З 1983 па 1990 гг. — старшыня Шклоўскага райвыканкама.*

*З 1990 па 1991 гг. — першы сакратар Шклоўскага райкама КПБ.*

*З 1991 па 1996 г. з'яўляўся Генеральным дырэктарам гандлёвага прадпрыемства «Шклоўскае».*

*З ліпеня 1996 года — старшыня Круглянскага райвыканкама.*

*Узнагароджаны медалём «За працоўную доблесць».*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 538 АБ НАЗНАЧЭННІ В. Р. РАХМАНЬКО НАЧАЛЬНІКАМ БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНКІ

Назначыць Рахманько Віктара Рыгоравіча начальнікам Беларускай чыгункі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

10 лістапада 1998 г., г.Мінск.

*Рахманько Віктар Рыгоравіч нарадзіўся ў 1953 годзе, беларус. У 1980 годзе закончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Працоўную дзейнасць пачаў з пасады памочніка машыніста цеплавоза, затым працаваў дзяжурным па станцыі Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі. Працаваў пазнным дыспетчарам, галоўным інжынерам, а затым начальнікам станцыі Баранавічы — Цэнтральныя. З 1994 г. — начальнік Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі.*

*З'яўляецца заслужаным работнікам транспарту Рэспублікі Беларусь. Са студзеня 1997 г. — член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 540 АБ СТВАРЭННІ ГАСПАДАРЧАГА СУДА г. МІНСКА

У мэтах павышэння эфектыўнасці правасуддзя ў сферы эканомікі пастанаўляю:

1. Стварыць з 1 студзеня 1999 г. гаспадарчы суд г. Мінска шляхам выдзялення яго з гаспадарчага суда Мінскай вобласці.

2. Устанавіць колькасць суддзяў гаспадарчых судоў г. Мінска і Мінскай вобласці згодна з дадаткамі 1 і 2.

3. Гаспадарчым судам Гомельскай і Гродзенскай абласцей перадаць вакантныя пасады суддзяў (па 1 адзінцы) гаспадарчаму суду г. Мінска для яго ўкамплектавання.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь пры фарміраванні бюджэту на 1999 год вырашыць пытанні матэрыяльна-тэхнічнага, фінансавага і іншага забеспячэння гаспадарчага суда г. Мінска.

5. Вышэйшаму гаспадарчаму суду ў трохмесячны тэрмін прыняць меры па прывядзенню заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам.

6. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*10 лістапада 1998 г., г. Мінск.*

## УРАД УЗЯЎ ПАД СВОЙ КАНТРОЛЬ ПРОМЫСЛАВУЮ НАРЫХТОЎКУ ДЗІКАРОСЛАЙ ПРАДУКЦЫІ

**Савет Міністраў Беларусі прыняў Пастанову «Аб мерах па ўзмацненню кантролю за промысловай нарыхтоўкай, закупкамі і рэалізацыяй дзікарослай прадукцыі і ўпарадкаванню гэтых відаў дзейнасці».**

У дакуменце гаворыцца, што набыццё ў насельніцтва юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, прадпрымальнікамі без утварэння юрыдычнай асобы дзікарослых ягад у аб'ёмах звыш 30 кілаграмаў, грыбоў — 20 кілаграмаў у дзень з'яўляецца промысловай нарыхтоўкай у мэтах іх прамысловай перапрацоўкі або рэалізацыі і адносіцца да віду дзейнасці, які падлягае ліцэнзаванню.

Пастанова забараняе суб'ектам гаспадарання набыццё ў насельніцтва дзікарослых ягад брусніц з утрыманнем недаспелых ягад больш як 1 працэнт ад сабранай масы, а журавін — больш як 5 працэнтаў і грыбоў лісічак з утрыманнем больш як 5 працэнтаў ад сабранай масы пладовых целаў з памерам шапачкі менш за 1,5 сантыметра ў дыяметры.

Згодна з гэтым дакументам, аблвыканкамы ў месячны тэрмін павінны ўнесці прапановы ў абласныя Саветы дэпутатаў аб увядзенні мясцовых мэтавых збораў з юрыдычных і фізічных асоб, якія ажыццяўляюць промысловую нарыхтоўку дзікарослых раслін, грыбоў, тэхнічнай і лекавай сыравіны. Пры гэтым названыя зборы паступаюць у мясцовы бюджэт і часткова могуць расходавацца на ахову і ўзнаўленне дзікарослых раслінных рэсурсаў.

Зборы не бяруцца ў выпадках, калі нарыхтоўка дзікарослай прадукцыі ажыццяўляецца юрыдычнымі і фізічнымі асобамі на замацаваных за імі ўчастках лесу, калі выплачана за лясны даход і атрыманы лясныя білеты, а таксама пры закупцы названай прадукцыі ў іншых юрыдычных і фізічных асоб, якія выплацілі мясцовыя мэтавыя зборы ці за лясны даход. Акрамя таго, ад выплаты збораў вызваляюцца асобы, якія закупілі дзікарослую прадукцыю за межамі Рэспублікі Беларусь (пры наяўнасці адпаведных дакументаў).

Аблвыканкамам рэкамендавана ўстанаўліваць таксы даходу на асобныя віды пабочных лясных карыстанняў (промысловая нарыхтоўка дзікарослых пладоў, арэхаў, ягад, грыбоў і тэхнічнай сыравіны), адэкватныя памерам мясцовых мэтавых збораў за закупку названай дзікарослай прадукцыі.

**БЕЛТА.**

## ВЫКАРЫСТАННЕ ЗЯМЕЛЬ — ПАД КАНТРОЛЕМ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА

**Практычная работа кіруючых кадраў Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай абласцей па выкананню ўказанняў кіраўніка дзяржавы, што датычаць наводзення парадку ў выкарыстанні зямель, была разгледжана 10 лістапада на чарговым пасяджэнні калегіі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Яно прайшло пад старшынствам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча.**

У якасці дакладчыка па гэтаму пытанню выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Георгій Кузняцоў. Паводле яго слоў, ведамства, якое ён узначальвае, уважліва адсочвае сітуацыю, звязаную з выкарыстаннем зямель па мэтаваму прызначэнню. За дзевяць месяцаў камітэтам выяўлена каля 5000 парушэнняў зямельнага заканадаўства, у выніку чаго больш за 2000 чалавек былі аштрафаваны. Агульная сума штрафаў склала каля 1,5 мільярда рублёў.

Георгій Кузняцоў адзначыў таксама станоўчыя і негатыўныя моманты ў рабоце Віцебскага аблвыканкама па наводзенню парадку ў выкарыстанні зямель, прааналізаваў адпаведную сітуацыю ў іншых абласцях рэспублікі.

Другім пытаннем парадку дня пасяджэння калегіі стала абмеркаванне арганізацыі работы Нацыянальнага цэнтра законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛТА.**

## У ГВАРДЗЕЙСКАЙ МОТАСТРАЛКОВАЙ — НОВЫ КАМАНДЗІР

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь сваім Указам ад 10 лістапада назначыў палкоўніка Юрыя Іванавіча Меранцова камандзірам 120-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛТА.**

## ШВЕЙЦАРСКАЯ ПАДТРЫМКА БЕЛАРУСКІХ АХВЯР НАЦЫЗМУ

**У 520-м філіяле «Беларусбанка» ў Мінску адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння гуманітарнай дапамогі былым вязням фашысцкіх канцлагераў з Беларусі з удзелам кіраўніцтва Швейцарскага фонду дапамогі ахвярам Халакоста.**

— Дапамога часам прыходзіць надта позна. З ліку 609 чалавек, якія былі ў спісах, зацверджаных на атрыманне дапамогі, да пачатку кастрычніка памерлі 173 асобы,— з сумам зазначыў старшыня праўлення Беларускага рэспубліканскага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» Валянцін Герасімаў.

У Беларусі гэты дабрачынны фонд выдзяляе па 400 долараў толькі вязням канцлагераў міжнароднай класіфікацыі, вязням гета і яўрэям, якія хаваліся на акупіраванай тэрыторыі і якія нарадзіліся ў перыяд з 1898 па 1921 год. Такіх асоб 609.

— Гэта не проста грашовая дапамога, але і выказванне нашых пачуццяў і адносінаў да людзей, якія пацярпелі ад нацызму,— зазначыў прэзідэнт Швейцарскага фонду дапамогі ахвярам Халакоста Рольф Блох.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ВЕТЭРАНЫ — НЕ ПАРТЫЯ, АЛЕ ПАЛІТЫКАЙ ЗАЙМАЮЦЦА НЕ МЕНШ

**Скарочаны рабочы дзень можа хутка стаць традыцыяй у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Учора яе дэпутатам зноў спатрэбілася не больш за гадзіну, каб разабрацца з пытаннямі, якія значыліся ў парадку дня.**

Такім чынам, 11 лістапада былі прыняты тры дакументы: Закон «Аб свабодных эканамічных зонах», папраўкі ў Закон «Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб кіруючага і радавога саставу органаў унутраных спраў» і Гаспадарчы працэсуальны кодэкс. Усе законапраекты разглядаліся ў другім чытанні. У сераду ў чарговы раз было адкладзена паўторнае абмеркаванне праекта Закона «Аб геадэзічнай і картаграфічнай дзейнасці».

Напомнім ад учарашняга, папярэдні дзень работы парламентарыяў быў куды больш насычаным. Не абышлося нават без своеасаблівых сюрпрызаў. У прыватнасці, зусім нечаканым для прадстаўнікоў Цэнтрвыбаркама стала адхіленне ў першым чытанні законапраекта «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў Рэспублікі Беларусь»: за яго прагаласавалі толькі 46 чалавек. А трэба сказаць, што гэты дакумент быў адным з галоўных у парадку дня. Прынамсі, большая частка дыскусіі датычылася палажэнняў менавіта гэтага законапраекта, але, як высветлілася, закончылася размова без станоўчага выніку.

Нагадаю, што першапачатковы варыянт законапраекта з'явіўся ў парламенце яшчэ ў чэрвені сёлетняга года. За гэты час прапанаваныя нормы абмяркоўваліся на самых розных узроўнях. З тэкстам дакумента пазнаёміліся літаральна ўсе жадаючыя, многія даслалі свае заўвагі і прапановы.

Намеснік старшыні камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту Мікалай Лазавік сцвярджае, што ў камісію паступіла больш як 200 заўваг. З часткай прапаноў дэпутаты пагадзіліся. Яшчэ да вынясення дакумента на разгляд сесіі адбылася сумесная нарада дэпутатаў і распрацоўшчыкаў, дзе прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта згадзіліся крыху ўдасканаліць праект.

Але нягледзячы на гэта, заўваг менш не стала, што і высветлілася на пленарным пасяджэнні. Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ўсяляк імкнулася адстаяць нормы законапраекта. Яна адзначыла, што ён распрацаваны ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, адпавядае міжнародным стандартам. Але дэпутаты таксама спасылаліся на Канстытуцыю, асабліва калі заходзіла гутарка пра арт. 10, у якім пералічваюцца суб'екты, што маюць права вылучаць кандыдатаў у дэпутаты.

Распрацоўшчыкі ўключылі ў законапраект з шэрагу грамадскіх аб'яднанняў толькі палітычныя партыі. Л. Ярмошына патлумачыла гэта тым, што толькі партыі ставяць мэтай палітычную барацьбу. Такім чынам, усе астатнія грамадскія аб'яднанні, згодна з праектам, не атрымліваюць такога права. Гэтая акалічнасць і не спадабалася дэпутатам. У прыватнасці, шмат было прапаноў дазволіць магчымасць вылучэння кандыдатаў у дэпутаты ветэранскім арганізацыям. Парламентарыі нават спасылаліся на практыку, якая існавала ў Вярхоўным Савеце XII склікання, калі ветэранскія арганізацыі мелі сваіх дэпутатаў у вышэйшым прадстаўнічым органе.

Сутнасць усіх спрэчак знайшла адлюстраванне ў заключэнні Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту, дзе гаворыцца, што дэпутаты лічаць мэтазгодным удакладніць рэдакцыю арт. 10. Камісія таксама прапанавала дапрацаваць палажэнні аб праве і абгрунтаванні абмежавання на вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты. Гэта тлумачыцца тым, што ў законапраекце забаронена балаціравацца на дэпутацкія пасады асобам, якія маюць судзімасць. Але парламентарыі палічылі гэтую норму спрэчнай.

Гэткім жа спрэчным падалося ім і палажэнне аб планцы ўдзелу выбаршчыкаў у галасаванні для таго, каб выбары былі прызнаны адбыўшыміся. Частка парламентарыяў, успамінаючы бясконцае галасаванне 1995-1996 гадоў, палічыла неразумнай лічбу ў 50 працэнтаў. Але Л. Ярмошына адразу ж спаслалася на асабістае меркаванне прэзідэнта і адказала на сумненні дэпутатаў наступным чынам: «Аляксандр Рыгоравіч мяркуе, што легітымнай можа лічыцца толькі тая ўлада, якая падтрымана большасцю выбаршчыкаў. Прэзідэнт лічыць, што ўсе выбары павінны праводзіцца па адзіных нормах».

Акрамя таго, парламенцкая камісія лічыць недастаткова дэмакратычным парадак стварэння выбарчых камісій, паколькі праект закона аддае гэтую справу цалкам на водкуп выканкамам. Парламентарыі прапануюць падключыць да гэтага працэсу і прэзідыумы мясцовых Саветаў.

У аўторак Палата прадстаўнікоў «зарэзала» яшчэ адзін законапраект: «Аб унясенні змяненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь і прызнанні страціўшымі сілу некаторых заканадаўчых актаў». Гэты дакумент ставіў мэтай прывядзенне заканадаўства ў адпаведнасць з сакавіцкім указам прэзідэнта, які ўстанавіў пералік дзяржаўных святаў і святочных дзён. Так, прапаноўвалася вызначыць працягласць рабочых дзён напярэдадні святаў і скасаваць састарэлы Закон «Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь», паколькі з сакавіка гэтага года ў Беларусі ўжо дзейнічаў памянёны прэзідэнцкі ўказ, а не гэты закон. Але дэпутаты нечакана заўпарціліся і адправілі законапраект назад у камісію.

У першым чытанні быў прыняты праект Закона «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці». Гэты дакумент з'яўляецца новай рэдакцыяй аналагічнага дзеючага закона і мае некалькі новых прынцыповых адрозненняў. У прыватнасці, згодна з законапраектам, устанаўліваецца ажно сем суб'ектаў, якія атрымліваюць права аператыўна-вышуковай дзейнасці: МУС, КДБ, дзяржаўная ахова, органы фінансавых расследаванняў, Пагранічныя войскі, Мытны камітэт і органы знешняй разведкі Міністэрства абароны.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

АНДРЭЙ ТУР:

# «МЫ ЖЫВЁМ НЕ ПА СРОДКАХ І АД ГЭТАЙ ЗВЫЧКІ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПАЗБАЎЛЯЦЦА»

## На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае намеснік міністра эканомікі, прафесар, доктар эканамічных навук Андрэй Тур

**Нас часта папракаюць за каласальны вектар з Расіяй. А што загадаеце нам рабіць? Калі мы яго абарвём, то Беларусь можа апынуцца ў жудаснай эканамічнай сітуацыі. Хаця разам з тым лічу: нам трэба больш інтэнсіўна шукаць новыя рынкі збыту прадукцыі, развіваць і нарошчваць экспарт па іншых накіруяках. Але трэба цвяроза ацэньваць свае магчымасці.**

***— Андрэй Мікалаевіч, ужо хутка тры месяцы, як Беларусь адчайна вырываецца з жалезных абдымкаў жорсткага фінансавага крызісу. Быццам бы і не застаў ён нас знянацку, рыхтаваліся да яго, калі верыць афіцыйным заявам, але, тым не менш, уражанне, што яму было аказана недастатковае супраціўленне. Якое ваша меркаванне наконт прыроды крызісу?***

— Увогуле, праблемы грашова-крэдытнай палітыкі, фінансаў існуюць у любой нацыянальнай эканоміцы. Без іх вырашэння немагчыма забяспечыць эканамічны рост, да чаго імкнецца кожная дзяржава. Што датычыцца Беларусі, то тут трэба мець на ўвазе, што яе эканоміка вельмі адкрытая. У нас знешні гандаль складае прыкладна 116—118 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту. Гэта ў пэўным сэнсе парадаксальная лічба, якая паказвае, што мы ўвозім і вывозім больш, чым вырабляем. Усё яшчэ сведчыць і аб вялікай адкрытасці нашай эканомікі.

У сувязі з гэтым праблемы фінансаў, выдачы крэдытаў, валютнага курса, велічыні грашовай масы ў краіне, бюджэту, яго дэфіцыту адлюстроўваюць і стан эканомікі, як жывога арганізма, і тыя тэндэнцыі, якія існуюць у ёй.

Для адкрытай эканомікі роля знешніх фактараў надзвычай важная. Бо ўсё, што адбываецца ў сусветнай гаспадарцы, уплывае на яе тым ці іншым чынам. А зараз, напярэдадні трэцяга тысячагоддзя, свет паступова ўваходзіць у паласу адносна працяглага глабальнага эканамічнага крызісу. Яго характэрная рыса заключаецца ў тым, што большасць індустрыяльных краін стаяць перад пачаткам пераходу да так званага «пятага тэхналагічнага ўкладу». Ці, інакш кажучы да ўкаранення выключна новых сістэм тэхналогій, якія будуць задзейнічаны на выкарыстанні звышмагутных камп'ютэраў, новых матэрыялаў, апошніх дасягненняў у розных галінах навукі і тэхнікі. Усё гэта дазволіць істотна павысіць энергазберажэнне, значна знізіць затраты матэрыяльных рэсурсаў. Пераход да пятага ўкладу будзе суправаджацца каласальным ростам прыцягнення інтэлектуальнага капіталу.

***— У якой ступені гэта закране нас? Беларусь, як вядома, лічыцца краінай з пераходнай эканомікай. Некаторыя замежныя эксперты ўвогуле ставяць нас у разрад развіццёвых краін. Дарэчы, гэты статус Беларусь мае і ў ААН, а таму і плаціць у адпаведнасці з ім больш нізкі ўзнос у рэгулярны бюджэт гэтай арганізацыі.***

— Па-першае, мы не развіццёвая краіна ні па якіх крытэрыях. Па сутнасці і якасці структуры эканомікі мы індустрыяльная краіна. Доля УВП канечнага прадукту, імпарту-экспарту ў УВП, кваліфікацыя працоўнай сілы, узровень інфраструктуры, доля УВП, якая ідзе на накапленне сведчаць на карысць гэтага.

Па-другое, у сувязі з набліжэннем вышэйназванага пятага ўкладу развітыя краіны аб'ектыўна стрымліваюць інвестыцыйныя працэсы. У свеце сёння назіраецца ўсеагульнае запавольванне інвестыцыйнай актыўнасці. І гэта зразумела. Каб рэалізаваць свае канкурэнтныя амбіцыі, у недалёкай будучыні развітым краінам спатрэбяцца каласальныя фінансавыя рэсурсы на тэхналагічнае пераабсталяванне і г. д. Зараз пачаўся этап іх накаплення. Адсюль і скарачэнне прапаноў інвестыцый на сусветным рынку капіталу.

Вынікі гэтага ў першую чаргу адчулі на сабе новыя індустрыяльныя краіны, якія за апошні час дасягнулі найбольшых тэмпаў эканамічнага развіцця. Не выпадкова сусветны крызіс найбольш востра ўдарыў па Паўднёва-Усходняй Азіі і Лацінскай Амерыцы. Небяспека гэтага крызісу ў тым, што ён рознымі шляхамі, у тым ліку і фінансава-валютным перакідваецца ад «моцнай» краіны да «слабай» у эканамічным сэнсе. Як гэта ні дзіўна, найбольш востра, нароўні з некаторымі іншымі рэгіёнамі, ён праявіўся ў Расіі. А праз яе прыйшоў і да нас.

***— Яго наступствы, відаць, былі б меншымі, калі б наша эканоміка была не толькі адкрытай, але і не вельмі залежнай ад Расіі?***

— Спецыфіка нашай эканомікі, якая дасталася Беларусі ў спадчыну пасля развалу СССР, у тым, што яе знешняя арыентацыя мае монахарактар. Як вядома, 70 працэнтаў нашага таваараабароту завязана на Расію. Беларусь толькі на 4 працэнты забяспечвае сябе рэсурсамі, астатнія 96 мы завозім. Прычым 92-93 працэнты з іх мы набываем у Расіі. Таму тое негатыўнае, што адбылося і адбываецца ў яе эканоміцы, непасрэдна закранае Беларусь праз пэўны перыяд часу, прыкладна, праз тры тыдні—месяц. Гэта звязана з тым, што крызіс моцна ўдарыў па плацежаздольнасці расійскіх прадпрыемстваў, у выніку чаго скараціўся іх імпарт беларускай прадукцыі.

Так, нас часта папракаюць за каласальны вектар з Расіяй. А што загадаеце нам рабіць? Калі мы яго абарвём, то Беларусь можа апынуцца ў жудаснай эканамічнай сітуацыі. Хаця разам з тым лічу: нам трэба больш інтэнсіўна шукаць новыя рынкі збыту прадукцыі, развіваць і нарошчваць экспарт па іншых накірунках. Але трэба цвяроза ацэньваць свае магчымасці. Напрыклад, на Захад мы можам ісці толькі з высокатэхналагічнымі элементамі, а іх у нас зусім няшмат. Неабходна шукаць рэальных гандлёвых партнёраў.

***— Бадай, самай відавочнай праявай крызісу стаў нябывалы скачок курса долара да беларускага рубля. Мы ўсе сталі ахвярамі інфляцыі. Ці можна было нейкім чынам прадухіліць «абвал» апошняга і чаму гэта здарылася?***

— Праблемы валютнага курса, інфляцыі, безумоўна, адны з важнейшых у ажыццяўленні грашова-фінансавай палітыкі дзяржавы. Яны адбываюцца незалежна ад таго, хочам мы ці не хочам адлюстроўваць тыя працэсы, якія адбываюцца на ўнутраным рынку краіны. Дарэчы, інфляцыя ва ўсіх індустрыяльных краінах — важнейшы паказчык эфектыўнасці ці неэфектыўнасці эканомікі, а не толькі стану грашовага рынку. Наша праблема тут у тым, што мы, як гэта ні дзіўна, жывём не па сродках. Прычым мы ўсе жывём не па сродках. Бо на сённяшні дзень спажываем больш, чым здольныя вырабіць. На першы погляд гэта гучыць як нонсенс. Але пры больш дэталёвым разглядзе даволі хутка пераконваешся ў справядлівасці дадзенага тэзісу. Інфляцыя тут выступае ўраўнаважваючым фактарам, у пэўным сэнсе мосцікам паміж нашымі спажываннем і вытворчасцю. Яе ўзровень і паказвае, што мы жывём не па сродках.

Наша эканоміка ў многім параненейшаму з'яўляецца затратнай. Мы прывыклі празмерна спажываць рэсурсы, не думаем пра іх эканомнае расходаванне, энергазберажэнне і г. д. Я гэта, напрыклад, бачу па паводзінах нашага дырэктарскага корпуса. Тая структура затрат на вытворчасць той ці іншай прадукцыі, якая існуе на нашых прадпрыемствах, па сутнасці з'яўляецца структурай расходаў. Вось мы прывыклі такім чынам расходаваць — і ўсё тут. І чамусьці называем гэта сабекоштам. А гэта далёка не сабекошт, а структура расходаў. Мы ў ёй фіксуем затраты. А сітуацыя патрабуе іх дакладнага вывучэння, ліквідацыі тых, якіх можна і трэба пазбегнуць.

Акрамя іншых прычын, у выніку якіх сёння надзвычай цяжка набыць цвёрдую валюту ў абменных пунктах, не апошняе месца займае нябывалы рост у апошнія тры гады бартэрных здзелак. У сувязі з гэтым рэзка ўпала доля валютнай выручкі ў агульных аб'ёмах імпартна-экспартных аперацый. Вось і атрымалася, што ў нашых знешнеэканамічных адносінах працэнт «жывой» валюты паступова і няўхільна зніжаўся. Адсюль і скарачэнне рэальных валютных рэзерваў.

***— Нельга абысці ў нашай размове і славутыя «два працэнты», якія ў шчырых размовах клянуць усе без выключэння дырэктары. Па іх логіцы, калі б адмяніць гэтыя абмежаванні, дык прадпрыемствы адразу пачнуць працвітаць. І сапраўды, чаму б не скасаваць?***

— Ведаю, многія кіраўнікі незадаволены. А чаму? Бо прывыклі жыць і працаваць у былым затратным рэжыме. А гэтыя «два працэнты» вымушаюць іх не займацца павышэннем цэн на сваю прадукцыю, а пастаянна думаць над зніжэннем затрат на яе вытворчасць.

Два працэнты былі вызначаны не выпадкова і не ўзяты са столі. Гэта лічба разлічвалася з наступнага стратэгічнага меркавання. Нам вельмі не хапае знешніх інвестыцый. Інвестар у нас пераважна свой, унутраны. У яго ролі выступае рэальны сектар эканомікі. А каб ён меў магчымасць займацца інвестыцыямі, яго рэнтабельнасць павінна складаць 10—11 працэнтаў.

Увядзенне 2-працэнтнага абмежавання на штомесячны рост цэн якраз і дазваляе забяспечваць прадпрыемствам неабходную рэнтабельнасць і магчымасць мець сродкі для інвестыцый. Тут трэба памятаць тое, што калі нейкае асобнае прадпрыемства «прабіла» павышэнне цэн і нешта выйграла для сябе, то ўсе мы, як сукупны спажывец, нешта страцім праз рост інфляцыі. Але гэта, на жаль, дырэктарскі корпус у большасці сваёй не хоча разумець. Згодзен, павышэнне цэн дапамагло б часова палепшыць справы на многіх прадпрыемствах. Але ў будучым становішча там абавязкова пагоршыцца, бо не будзе эфектыўных інвестыцый у вытворчасць.

Наперадзе нас чакае велізарная карпатлівая работа. На мой погляд, мы пакуль знаходзімся ў адносна пачатковай стадыі фарміравання нашай нацыянальнай гаспадаркі як самастойнага суб'екта гаспадарання сусветнай эканомікі. І вельмі хутка гэта надзвычай складаная праблема не вырашаецца. Адсюль і наша неэфектыўнасць, валютны курс, інфляцыя, нізкія даходы.

У гэтай сітуацыі надзвычай вялікай можа быць цана памылкі.

Тое, што можа дазволіць сабе Расія з яе магутнымі рэзервамі сыравіны і энерганосьбітаў у правядзенні эксперыментаў, рэформаў, то нам падобных нагрузак не вытрымаць. Таму мы павінны быць вельмі абачлівымі і асцярожнымі на сваім шляху да развітой, эфектыўнай эканомікі.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## Шанцаў на тое, што лётчыкі жывыя, няма...

**Хаця ў Дзяржкамітэце па авіяцыі дагэтуль прытрымліваюцца адзінай афіцыйнай версіі, што гомельскія лётчыкі на Цэйлоне прапалі без вестак, відавочна, што яе падтрымлівае толькі адсутнасць матэрыяльных доказаў авіякатастрофы. Прынамсі, менавіта на адсутнасць апошніх спасылаюцца спецыялісты, калі тлумачаць афіцыйную версію.**

Нядаўна са Шры-Ланкі вярнуўся кіраўнік аддзела расследаванняў Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта Георгій Ячнеў. Па яго інфармацыі, самалёт упаў непадалёку ад пабярэжжа, побач з адным з маленькіх астравоў. Але прамых доказаў зноў жа не выяўлена.

Дарэчы, колькі часу таму з намі звязалася жонка бортмеханіка Сяргея Анапрыенкі Алена Міхайлаўна. Па яе словах, у Інтэрнэце знаёмыя ўжо даўно адшукалі матэрыялы з мясцовай ланкійскай прэсы, дзе гаворыцца аб падзенні самалёта. Нібыта былі знойдзены і рэшткі паветранага судна, і целы загінуўшых, дарэчы, і сведкі нейкія таму таксама былі. У Дзяржкамітэце па авіяцыі пра гэта ўсё ведаюць, аднак зноў жа спасылаюцца на адсутнасць рэчавых доказаў. Пра выніку расследавання камісіі Міждзяржаўнага камітэта тут таксама адмаўляюцца гаварыць больш падрабязна, спасылаючыся на тое, што хутка павінен прыйсці афіцыйны адказ ад урада Шры-Ланкі па гэтым пытанні. Зрэшты, ніхто не адмаўляе, што ён можа ўтрымліваць усё тую ж афіцыйную версію — прапалі без вестак...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## З нажом супраць паравоза не папрэшся

**«Што мы можам з маленькім ножыкам зрабіць супраць цягніка?!» Менавіта такім выразам ахарактарызаваў настаўнік мінскага СКА Спартак Мірановіч гульню сваіх пітомцаў супраць еўрапейскага суперклуба — іспанскай «Барселоны».**

Як вядома, сустрэча ў сталічным спорткомплексе «Уручча» завяршылася ўпэўненай перамогай гасцей — 30:17. У дадатак Спартак Пятровіч сказаў, што асабіста ён ведае трох ігракоў «Барсы», якія змаглі б абыграць сённяшнюю моладзь СКА. Аднак гэта ні ў якім разе не павінна прыніжаць прафесійнай годнасці армейцаў. Яны гулялі як маглі. Асабліва абарона. А вось атака магла згуляць і больш вынікова. І тады не было б разрыву ў мінус 13. Сам мэтр айчыннага гандбола разлічваў па максімуму на мінус 10. У цэлым Мірановіч расцаніў гульню ў гандбольнай Лізе чэмпіёнаў як вельмі карысную для сваёй каманды. Ён не сумняваецца, што цяперашняе зорнае пакаленне «Барселоны» выдатна памятае 1990 год, калі тагачасны мінскі СКА, за які гулялі Тучкін, Шараваў, Парашчанка, Якімовіч, Каршакевіч, у выдатным стылі абыгралі «Барсу» па суме двух матчаў і сталі ўладальнікамі Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў. Дарэчы, Аляксандр Каршакевіч, цяперашні галоўны трэнер нацыянальнай зборнай, таксама не асудзіў гульню маладых армейцаў, зазначыўшы, што ў гульнях такога ўзроўню і адбываецца загартоўка ігракоў.

Цяпер мінскі СКА 14 лістапада чакае выязная сустрэча супраць швейцарскага «Вінтэртура», які нечакана прайграў у гасцях запарожскай камандзе ЗТР — 22:28. Як вядома, у наступны этап гандбольнай Лігі чэмпіёнаў выходзяць дзве каманды. А значыць, у нашых яшчэ не ўсё страчана.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## У СТАЛІЦЫ — СВОЙ СТАТУС

**Мінгарвыканкам падрыхтаваў праект Закона «Аб статусе сталіцы Рэспублікі Беларусь», які будзе прадстаўлены на разгляд у парламент**

Згодна з дакументам, які «ўстанаўлівае статус сталіцы Рэспублікі Беларусь, вырашае прававыя эканамічныя і сацыяльныя ўмовы ажыццяўлення горадам Мінскам функцый сталіцы Рэспублікі Беларусь, арганічнага аб'яднання інтарэсаў жыхароў горада і насельніцтва Рэспублікі Беларусь», Мінск павінен мець свае герб, сцяг, гімн і заканадаўчы орган у асобе Мінгарсавета.

Апошні зацвярджае ў адпаведнасці з агульнадзяржаўнымі інтарэсамі і напрамкамі развіцця Рэспублікі Беларусь рэгіянальныя, галіновыя, комплексныя праграмы развіцця горада Мінска, генеральныя планы развіцця сталіцы і яе прыгараднай зоны, зацвярджае бюджэт горада ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, самастойна ўстанаўлівае віды і памеры мясцовых падаткаў і збораў, фарміруе пазабюджэтныя фонды, гаворыцца ў законапраекце.

Акрамя таго, прымае рашэнне аб выпуску мясцовых пазык, зацвярджае Статут горада Мінска, зацвярджае структуру Савета і прызначае правядзенне мясцовых рэферэндумаў. У функцыі гэтага органа з улікам дзеючага заканадаўства, як гаворыцца ў праекце закона, уваходзіць і ўстанаўленне парадку кіравання і распараджэння камунальнай уласнасцю, а таксама прыняцце іншых дакументаў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У БЕСПРАЦОЎЯ ЖАНОЧЫ ТВАР?

**Паводле даных Камітэта па занятасці насельніцтва, за 9 месяцаў гэтага года колькасць беспрацоўных у краіне зменшылася на 20 тысяч чалавек.**

Такім чынам, паводле афіцыйных зводак, у кастрычніку ў Беларусі было зарэгістравана 105.787 беспрацоўных. Разам з тым з пачатку года ў службы занятасці звярнуліся 226.463 грамадзяніны.

За гэты час службы занятасці працаўладкавалі 57.680 жыхароў краіны, з якіх 22.114 чалавек прайшлі прафесійнае навучанне. Дапамогу па беспрацоўю атрымлівае 41 тысяча чалавек.

На жаль, больш за 50 тысяч беспрацоўных складаюць маладыя людзі ва ўзросце да 29 гадоў. Як і раней, вялікі працэнт беспрацоўя назіраецца ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

У асноўным без працы застаюцца жанчыны. Сёння яны складаюць 65 працэнтаў ад агульнай колькасці беспрацоўных. Менавіта жанчынам на рынку працы нічога добрага не свеціць. Справа ў тым, што наймальнікі прапануюць толькі нізкакваліфікаваную і даволі цяжкую працу.

**Сяргей КУРКАЧ.**



## БОЛЬШ ЗА ПАЛОВУ АПЫТАНЫХ «ЛІКВІДАТАРАЎ» ЛІЧАЦЬ, ШТО ДЗЕЙНАСЦЬ РЭСПУБЛІКАНСКІХ І МЯСЦОВЫХ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ ПА ВЫРАШЭННЮ ІХ ПРАБЛЕМ ПАГОРШЫЛАСЯ

У верасні-кастрычніку Інстытутам сацыялогіі нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі сярод грамадзян Мінскай і Магілёўскай абласцей, якія ўдзельнічалі ў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, праведзена чарговае сацыялагічнае даследаванне. Прыблізна 450 рэспандэнтам было прапанавана адказаць на пытанне «ЯК, НА ВАШ ПОГЛЯД, ЗА АПОШНІЯ 5 ГАДОЎ ЗМЯНІЛАСЯ СТАЎЛЕННЕ З БОКУ ДЗЯРЖАВЫ ДА ВЫРАШЭННЯ МЕДЫЦЫНСКІХ, ЖЫЛЛЁВЫХ, ПРАЦОЎНЫХ І ІНШЫХ ПРАБЛЕМ ДЛЯ АСОБ, ЯКІЯ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛІ Ў ЛІКВІДАЦЫІ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС?». Больш за палову рэспандэнтаў, ацаніўшых дзейнасць рэспубліканскіх (62 працэнты) і мясцовых (58 працэнтаў) органаў дзяржаўнага кіравання, сказалі, што гэтая дзейнасць «пагоршылася». Кожны другі з апытаных аналагічна ацэньвае стаўленне да «ліквідатараў» адміністрацый прадпрыемстваў (49 працэнтаў) і дабрачынных фондаў (48 працэнтаў).

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік даследавання, доктар сацыялагічных навук Мікалай Бараноўскі, на паляпшэнне стаўлення да вырашэння праблем асоб, якія ўдзельнічалі ў ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, указалі ад 1 да 2 працэнтаў рэспандэнтаў. Астатнія апытаныя не адчулі зменененняў з боку дзяржавы да вырашэння комплексу праблем удзельнікаў ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

# ДЭСАНТ
## беларускіх прадпрыемстваў на Смаленшчыну

**У першых чыслах гэтага месяца больш як 60 беларускіх гаспадарчых суб'ектаў — пераважна буйных і добра вядомых у рэспубліцы прадпрыемстваў — прадстаўлялі сваю прадукцыю на выстаўцы-кірмашы тавараў народнага спажывання «Рэспубліка Беларусь — ваш партнёр» у Смаленску. Беларускія вытворцы, якія прынялі ўдзел у гэтай выстаўцы, у першую чаргу былі зацікаўлены ў прасоўванні сваіх тавараў на расійскі рынак, рынак адной з найбольш блізкіх да нас расійскіх абласцей; у сваю чаргу і смаляне, імкнучыся не дапусціць збяднення сваіх паліц у сувязі з расійскім фінансавым крызісам і істотным змяншэннем колькасці імпартных тавараў, мелі на ўвазе адпаведны ж інтарэс, тым больш, што многія беларускія тавары былі нікольکі не горшыя за імпартныя. Карацей, эканамічныя інтарэсы ў дадзеным выпадку супадалі.**

РАЗАМ З ТЫМ гэта мерапрыемства мела і пэўны палітычны падтэкст. У прыватнасці, прэзідэнт Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, якая выступіла адным з асноўных арганізатараў выстаўкі, Уладзімір Лясун зазначыў: «Мы за тое, каб беларускія тавары заўсёды прысутнічалі тут (г. зн. у Смаленску). Гэта выстаўка арганізавана па асабістаму распараджэнню прэзідэнта Беларусі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ў адказ на адпаведную просьбу кіраўніка адміністрацыі Смаленскай вобласці, з'яўляецца прэлюдыяй да дзён святкавання юбілею ўтварэння БССР...» Дарэчы, у канцы снежня масавы заезд беларускіх вытворцаў са сваімі таварамі ў Смаленск намечана паўтарыць.

— Ужо адразу смаляне выказалі вялікую цікавасць да беларускіх тавараў, — расказвае кіраўнік Мінскага аддзялення Беларускай гандлёва-прамысловай палаты Пётр Юшкевіч, — і асабліва да прадукцыі Мінскага гадзіннікавага завода «Прамень», Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання, «Тэрмапласта», «Кераміна», Барысаўскага завода пластмасавых вырабаў, Брэсцкага панчошнага камбіната і іншых прадпрыемстваў, пры гэтым падчас выставы імі быў арганізаваны рознічны гандаль, і кожны з наведвальнікаў без праблем мог набыць усё, што яму спадабалася... І, вядома ж, не пуставала месца перад стойкамі нашых трох піваварных заводаў — Лідскага, Полацкага і Віцебскага, якія таксама ўдзельнічалі ў гэтай выставе і, зразумела, прывезлі беларускае піва. І нават частавалі ім у першы дзень усіх жадаючых бясплатна... Варта таксама падкрэсліць: як зазначыў наконт выставы намеснік кіраўніка адміністрацыі Смаленскай вобласці, нічога падобнага раней у іх не было. Карацей, гэта быў самы сур'ёзны дэсант беларускіх прадпрыемстваў на Смаленшчыну. І яшчэ хачу дадаць: кіраўніцтва вобласці было вельмі зацікаўленае ў гэтым мерапрыемстве, яно ўвогуле зацікаўленае ў пастаяннай прысутнасці беларускіх тавараў на сваім рынку. Аб гэтым, напрыклад, яскрава сведчыць наступны факт: як вядома, пры перасячэнні граніцы Смаленшчыны тут збіраюць з аўтатранспарту так званы экалагічны збор — беларускі аўтатранспарт, які рухаўся на выстаўку, ад гэтага збору быў вызвалены.

Што мелі беларускія прадпрыемствы ў выніку, акрамя рэалізацыі сваіх тавараў у розніцу, што, вядома ж, нельга лічыць асноўнай мэтай іх выезду на Смаленскі кірмаш, і чаму, нягледзячы на фінансавы крызіс у Расіі, на «завіслыя» даўгі і іншыя непрыемнасці, звязаныя з крызісам, яны ўсё ж імкнуцца на расійскі рынак?

Гэтым вынікам стала заключэнне больш чым ста пагадненняў аб супрацоўніцтве і аптовых пастаўках прадукцыі. Асобныя прадпрыемствы (Брэсцкі панчошны камбінат, гомельскі «Камінтэрн», мазырская фірма «Надэкс» і іншыя) дамовіліся аб адкрыцці ў Смаленску гандлёвых дамоў або стварэнні сумесных прадпрыемстваў... Дарэчы тут жа зазначыць: на сярэдзіну года ў Смаленскай вобласці было зарэгістравана больш як сто прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі, заснавальнікамі якіх выступілі беларускія юрыдычныя і фізічныя асобы і асноўнымі відамі дзейнасці якіх з'яўляюцца гандлёва-закупачная дзейнасць і будаўніцтва, вытворчасць і рамонт тавараў народнага спажывання і бытавой тэхнікі, выдавецкая дзейнасць, рэкламныя паслугі і вытворчасць рэкламнай прадукцыі, рамонт, продаж і тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў і іншых транспартных сродкаў... Між іншым, гэта актыўнасць мае пад сабой і адпаведную базу — адносна спрыяльныя ўмовы для развіцця бізнесу на Смаленшчыне.

Як можна меркаваць, не стаў асаблівай перашкодай для гандлю і супрацоўніцтва з расійскімі рэгіёнамі і фінансавы крызіс, што можна растлумачыць традыцыйнасцю расійскага рынку і вялікімі аб'ёмамі сустрэчных паставак (з той жа Смаленшчыны — у першую чаргу пастаўкамі электраэнергіі з атамнай электрастанцыі). Больш таго, нямала якія прадпрыемствы выкарыстоўваюць гэты крызіс для новых заваёў расійскага рынку. Аб гэтым, у прыватнасці, сказала прадстаўнік Брэсцкага панчошнага камбіната: маўляў, у сувязі з крызісам аналагічная і нярэдка больш танная прадукцыя з далёкага замежжа перастала быць таннай, яе імпарт рэзка скараціўся, не надта ўтульна адчуваюць сябе цяпер і расійскія прадпрыемствы, і гэтыя ўмовы проста падштурхоўваюць на расійскі рынак...

Гэтаму ж садзейнічаюць і адпаведныя крокі расійскіх рэгіёнаў, той жа смаленскай адміністрацыі. У прыватнасці, прадстаўнікі беларускіх прадпрыемстваў мелі магчымасць пазнаёміцца з прынцыпамі дзейнасці Смаленскага міжрэгіянальнага аптовага рынку, які заклікаяы наладзіць больш упарадкаваныя і больш надзейныя пастаўкі ў рэгіён тавараў народнага спажывання, адпаведнае інфармацыйнае забеспячэнне суб'ектаў гандлю. Карацей кажучы, Смаленскі аптовы рынак выступае як сучаснае, добра арганізаванае і тэхнічна аснашчанае звяно паміж таваравытворцамі і спажыўцамі прадукцыі. Пры гэтым ён заклікаяы выконваць і больш спецыфічныя задачы, якія паўстаюць у сувязі з неплацяжамі, даўгамі суб'ектаў адзін аднаму і даўгамі бюджэту, і развязваць гэтыя неплацяжы (у тым ліку і нерэзідэнтаў) шляхам узаемазалікаў і праз бартэр. Апошняя акалічнасць, бясспрэчна, павінна выклікаць пэўны інтарэс і ў многіх беларускіх суб'ектаў, якія, напрыклад, не могуць атрымаць грошы ад аднаго смаленскага суб'екта і ўжо самі завінаваціліся іншаму. Зразумела, усе гэтыя схемы — не ад лёгкага жыцця, яны ідуць найперш ад адсутнасці ў дастатковай колькасці грашовых сродкаў, але на пэўны час з'яўляюцца свайго роду выратавальным кругам. Дарэчы, праз Смаленскі аптовы рынак можна выйсці і на многія іншыя расійскія рэгіёны.

Што пагражае развіццю гандлёвых адносінаў паміж беларускімі прадпрыемствамі і тым жа Смаленскім рэгіёнам (а магчыма, і іншымі рэгіёнамі)?

Цэны, якія ў нярэдкіх выпадках ужо падцягнуліся да расійскіх, а часам нават і перавышаюць іх, што, напрыклад, характэрна для цэн на піва. У сувязі з гэтым варта ўдакладніць: смаляне вельмі любяць беларускае піва, у горадзе адкрыты спецыяльныя кропкі, дзе прадаецца толькі яно (напрыклад, выдатнага полацкага піва тут разыходзіцца каля 4 тысяч літраў у дзень). Аднак асобныя маркі беларускага піва ўжо даражэйшыя за мясцовыя і, адпаведна, часам затрымліваюцца на паліцах, нават нягледзячы на вышэйшую якасць. Страту канкурэнтаздольнасці ў немалой ступені варта аднесці на большыя айчынныя акцызы, а таксама на валютны курс, ці дакладней — існаванне ў нас розных валютных курсаў і ў сувязі з гэтым — спецыфічную, даволі складаную бухгалтэрыю, бухгалтэрыю, якая ўвогуле не схіляе да экспарту. Дарэчы, на множнасць курсаў, абавязак прадпрыемстваў прадаваць 40 працэнтаў валютнай выручкі па яўна заніжанаму нацбанкаўскаму курсу і ў той жа час на неабходнасць купляць валюту па рыначнаму, значна вышэйшаму курсу, пры гэтым адносіць курсавую розніцу не на сабекошт прадукцыі, а на прыбытак, — даўно ўжо наракаюць на айчынных прадпрыемствах, усё гэта даўно ўжо стала сур'ёзнай перашкодай для развіцця іх экспартных магчымасцяў і, адпаведна, нарошчвання экспарту.

Аднак усе гэтыя праблемы — чыста нашы праблемы, і яны вядома ж, мала датычаць патэнцыяльных расійскіх спажыўцоў, тых жа смалян... Як паведаміў Пётр Юшкевіч, яны падрыхтавалі спіс беларускіх прадпрыемстваў, прадукцыя якіх мае ў іх неабмежаваны попыт. У гэтым спісе — Мінскі лакафарбавы завод, акцыянернае таварыства «Мінскмэбля», Мінская шпалерная фабрыка, Барысаўскі папярова-лесахімічны завод, Асіповіцкі кардонна-руберойдны завод, магілёўская «Строммашына», а ўсяго каля 50 прадпрыемстваў.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

**Віктар МАРОЗАЎ:**

# «НЕКАТОРЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ СТРУКТУРЫ ЧАСАМ САМІ СТВАРАЮЦЬ ІДЭАЛЬНЫЯ ЎМОВЫ ДЛЯ РОСКВІТУ КАРУПЦЫІ»

**Нягледзячы на тое, што апошнім часам на барацьбу з карупцыяй у нашай краіне мабілізаваны значныя сілы праваахоўных органаў, якія атрымалі своеасаблівы «карт-бланш» з рук самога прэзідэнта, некаторыя беларускія чыноўнікі і іншыя службовыя асобы не перасталі пакуль браць хабар, прысвойваць і красці дзяржаўныя грошы. І гэта вельмі трывожыць кіраўніцтва Беларусі. Бо ніякае іншае злачынства не наносіць такой велізарнай шкоды аўтарытэту ўлады, як карупцыя. Нават самы невялічкі хабар дзяржаўнаму чыноўніку падрывае асновы ўлады — давер грамадскасці да дзяржавы і веру ў справядлівасць і сілу Закона. Таму заканамерна, што ачышчэнне дзяржаўнага апарату ад «карупцыйнай іржы» з'яўляецца ў нашай краіне справай дзяржаўнай важнасці. Дзеля гэтага па ўказу прэзідэнта створаны каардынацыйны савет па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, у састаў якога ўваходзяць усе кіраўнікі праваахоўных органаў і іншыя высокапастаўленыя дзяржаўныя службовыя асобы.**

*Шостага лістапада пад старшынствам Генеральнага пракурора Беларусі Алега Бажэлкі адбылася чарговая нарада гэтага каардынацыйнага савета, на якой абмяркоўваліся меры па павышэнню эфектыўнасці праваахоўных і іншых органаў у барацьбе з карупцыяй. З асноўным дакладам па гэтай праблеме выступіў* ***начальнік упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Пракуратуры краіны Віктар МАРОЗАЎ.*** *З ім гутарыць карэспандэнт «Звязды».*

**— Віктар Іванавіч, сама нагода, з якой сабраўся каардынацыйны савет, відавочна, сведчыць аб не вельмі высокай эфектыўнасці працы праваахоўных органаў па выкараненню карупцыі?**

— Сапраўды, зроблены намі аналіз антыкарупцыйнай дзейнасці праваахоўных органаў не дае падстаў для «галавакружэння ад поспехаў». За 9 месяцаў гэтага года ў суды былі накіраваны 22 крымінальныя справы ў адносінах да 30 службовых асоб, якія злоўжывалі сваім становішчам, а таксама 2200 крымінальных спраў па фактах крадзяжоў, растрат і прысваення маёмасці ці грашовых сродкаў. Апроч таго, за гэты ж перыяд было завершана і перададзена ў судовыя інстанцыі 168 крымінальных спраў па хабарніцтву.

**— Вы лічыце, што гэта вельмі мала? Ці вас не задавальняе, скажам так, якасць расследавання антыкарупцыйных спраў?**

— І тое і другое.

Адносна колькасці выяўленых фактаў карупцыі, вядома ж, нельга вызначаць нейкія планавыя паказчыкі. Але практыка сведчыць, што маштабы карупцыі апошнім часам набылі даволі трывожны размах. Вядома, не трэба забываць, што гэтыя злачынствы вельмі складана выяўляць і расследаваць, бо здзяйсняюцца яны, як правіла, у абстаноўцы строгай сакрэтнасці. Таму далёка не ўсе нават выяўленыя факты хабарніцтва даводзяцца да лагічнага завяршэння. Напрыклад, за 9 месяцаў гэтага года было выяўлена 700 выпадкаў хабарніцтва, але ў суды было накіравана, як ужо адзначалася, усяго 168 крымінальных спраў супраць 215 асоб.

**— І ўсё ж, на мой погляд, 215 чыноўнікаў-хабарнікаў, выведзеных на чыстую ваду, не так ужо і мала.**

— Справа ў тым, што нашы праваахоўныя органы апошнім часам у асноўным займаліся выяўленнем дробных хабарнікаў і амаль не закранулі фундамент карупцыі. У прыватнасці, вельмі рэдка выяўляліся факты хабарніцтва ў буйным ці асабліва буйным памеры. Нячаста трапляюць у рукі правасуддзя высокапастаўленыя чыноўнікі, якія злоўжываюць службовым становішчам. Затое ў барацьбе з дробязнымі фактамі хабарніцтва некаторыя вартавыя правапарадку дзейнічаюць зусім неадэкватна сітуацыі.

**— На якія міністэрствы ці ведамствы, а таксама сферы эканомікі, на вашу думку, зараз неабходна звярнуць больш пільную ўвагу супрацоўнікам антыкарупцыйных падраздзяленняў?**

— Як сведчыць практыка, карупцыянераў вельмі прыцягваюць сферы эканомікі, дзе круцяцца вялікія грошы, пераважна дзяржаўныя. Традыцыйна вялікае поле для злоўжыванняў адкрыта перад чыноўнікамі, якія маюць дачыненне да прыватызацыі, знешнеэканамічнай дзейнасці, выдачы крэдытаў. У прыватнасці, на нашу думку, найбольш карумпіраваныя фінансавая і банкаўская сферы. Варта нагадаць, што па звестках, прадастаўленых нам 19 буйнейшымі банкамі краіны, сума няверңутых крэдытаў складае 120 мільёнаў долараў і 17 мільёнаў нямецкіх марак. Ні для кога не сакрэт, што фактычна за кожным выпадкам невяртання крэдыту, як правіла, хаваецца хабарніцтва з боку службовых асоб таго ці іншага банка. Інакш атрымаць крэдыт ці, тым больш, падмануць банк было проста немагчыма.

**— А наколькі «чыстыя» шэрагі саміх праваахоўных органаў?**

— На жаль, і ў праваахоўныя структуры трапляюць людзі, якія паддаюцца спакусам карупцыі. Напрыклад, у І паўгоддзі гэтага года па фактах хабарніцтва і ўчынення іншых службовых злачынстваў узбуджаны 63 крымінальныя справы супраць супрацоўнікаў міліцыі, 23 — супраць мытнікаў, 2 — супраць работнікаў пракуратуры, 1 — супраць работніка КДБ і 2 — супраць суддзяў.

Дарэчы, нас вельмі насцярожваюць паблажлівыя адносіны некаторых суддзяў да нячыстых на руку чыноўнікаў. Нават тыя карупцыянеры, якія трапляюць на лаву падсудных, у рэшце рэшт, выходзяць сухімі з вады. У прыватнасці, за І паўгоддзе гэтага года да пазбаўлення волі судамі былі пакараны толькі 24 карупцыянеры.

Вельмі складана змагацца з карупцыяй і ў самім судзейскім корпусе. Дзеючае заканадаўства фактычна ператварыла суддзяў у «касту недатыкальных» і перашкаджае выявіць і зафіксаваць злачынную дзейнасць служыцеляў Феміды. Нагадаю, што такіх прывілеяў не маюць нават дэпутаты, і, магчыма, парламентарыям варта было б выраўнаваць статус прадстаўнікоў заканадаўчай і судовай уладаў.

**— Карупцыя звычайна спадарожнічае з арганізаванай злачыннасцю. Ці выяўлены ў Беларусі факты супрацоўніцтва пэўных службовых асоб з арганізаванымі злачыннымі групамі?**

— Такія факты праваахоўнымі органамі выяўляюцца, але не вельмі часта. Напрыклад, сёлета на лаву падсудных адпраўлены 4 арганізаваныя злачынныя групы, якія цесна супрацоўнічалі з некаторымі чыноўнікамі. Так, на Мінскім аўтазаводзе была выяўлена злачынная група, якая займалася крадзяжом ліставога металу. У састаў гэтай групы ўваходзілі і некаторыя службовыя асобы прадпрыемства. За перыяд сваёй дзейнасці злачынцы ўкралі з прадпрыемства каля 0,5 мільёна тон металу.

А вось выпадкаў «партнёрства» беларускай арганізаванай злачыннасці з дзяржаўнымі чыноўнікамі пакуль не зафіксавана. Хоць пэўная аператыўная інфармацыя часам з'яўляецца.

Наогул, сусветны вопыт сведчыць, што да 1\3 злачынных даходаў накіроўваецца на подкуп чыноўнікаў. У Расіі, як сцвярджаюць тамтэйшыя спецыялісты, на гэтыя мэты арганізаваная злачыннасць траціць каля 50 працэнтаў сваіх грошай. Мяркую, што і ў нашай краіне адбываецца нешта падобнае.

**— Віктар Іванавіч, агульнавядома, што перамагчы карупцыю толькі карнымі мерамі немагчыма. Неабходна найперш ліквідаваць умовы для дзейнасці нячыстых на руку чыноўнікаў. На вашу думку, што зараз спрыяе захаванню карупцыі ў Беларусі?**

Дарэчы, ці з усімі праявамі карупцыі, на вашу думку, варта змагацца. Здараюцца ж, напрыклад, выпадкі, калі некаторыя прадпрымальнікі самі прапануюць чыноўнікам хабар і гатовы добраахвотна аддаваць свае ўласныя грошы.

— Я згодзен з тым, што карупцыя не ўзнікае сама па сабе. У нашай краіне некаторыя дзяржаўныя структуры часам самі ствараюць ідэальныя ўмовы для карупцыі.

Напрыклад, сёння ў Беларусі больш за 700 відаў прадпрымальніцкай дзейнасці, на ажыццяўленне якіх патрэбны ліцэнзіі. Выдаюць гэтыя спецыяльныя дазволы 35 міністэрстваў і ведамстваў, а таксама 70 іншых дзяржаўных і недзяржаўных структур. Як сведчаць апытанні прадпрымальнікаў, даволі часта за атрыманне ліцэнзій чыноўнікі патрабуюць хабар. Разам з тым варта перайсці ад дазвольна-забароннай практыкі да рэгістрацыйнай, і чыноўнік страціў бы пад сабой карупцыйную глебу.

Вялікія магчымасці для карупцыйнай дзейнасці дае чыноўнікам і існуючая сістэма арганізацыі тэндэраў. Тут перамогу атрымліваюць часам фірмы, якія здолелі знайсці «падыход» да ўплывовага чыноўніка. Адметна, што, як правіла, падкупленыя чыноўнікі аддаюць перавагу не самым выгадным для дзяржавы прапановам. Вельмі спадзяёмся, што распрацоўваемы закон аб дзяржаўных закупках істотна зменшыць уплыў карупцыянераў пры правядзенні тэндэраў.

Сапраўдным раем для карупцыянераў з'яўляюцца і некаторыя сферы знешнеэканамічнай дзейнасці. Асабліва калі чыноўнік мае манапольнае права фарміраваць цэны на імпартуемыя тавары і сыравіну.

А наконт мэтазгоднасці барацьбы з тым ці іншым відам карупцыі, дык не можа быць і гаворкі пра тое, каб заплюшчваць вочы на якія-небудзь асобныя выпадкі. Усялякія праявы карупцыі наносяць велізарную шкоду інтарэсам дзяржавы. І калі зараз не паставіць на шляху карупцыянераў заслону, то з цягам часу гэтая злачынная з'ява можа ператварыць інстытуты ўлады ў кармушку для чыноўнікаў. Людзям давядзецца даваць хабар за любую, самую дробязную паслугу чыноўніка.

Так што нават самае бяскрыўднае, дробнае хабарніцтва — гэта міна запаволенага дзеяння пад фундаментам нашай дзяржаўнасці.

**— Апроч сацыяльна-эканамічных фактараў і пэўных недапрацовак работнікаў праваахоўных органаў, што яшчэ перашкаджае больш эфектыўнаму процідзеянню карупцыі?**

— Зараз у арсенале праваахоўных органаў дастаткова паўнамоцтваў для барацьбы з карупцыяй. Аднак жыццё не стаіць на месцы, і карупцыянеры хутка адаптуюцца да існуючых рэалій, прыдумваючы новыя спосабы парушэння законаў. Нават уведзеная не так даўно ў нашай краіне практыка дэкларавання даходаў, на жаль, не стала дзейсным сродкам барацьбы з карупцыяй. Дэклараванне даходаў вельмі часта праводзіцца фармальна і не дазваляе дакладна фіксаваць змяненне матэрыяльнага становішча чыноўнікаў.

Наогул, на нашу думку, неабходна скласці адзіны рэестр уладальнікаў маёмасці, якая падлягае падаткаабкладанню.

Дзеля папярэджання карупцыі варта таксама праводзіць абавязковую крыміналагічную экспертызу законапраектаў, каб у будучых законах не з'яўляліся «пралазы» для карупцыянераў.

**Мікола ДЗЯБЕЛА.**

**Міжнародны семінар на тэму «Бяспечнасць харчовых прадуктаў і палітыка ў галіне харчавання: апошнія дасягненні ў ацэнцы бяспечнасці і навуковых даследаваннях па праблемах харчавання», арганізаваны еўрапейскім аддзяленнем Міжнароднага інстытута навук аб жыцці сумесна з Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтрам па экспертнай ацэнцы якасці і бяспечнасці прадуктаў харчавання, прайшоў днямі ў Мінску.**

# БЯСПЕЧНАСЦЬ ПРАДУКТАЎ ХАРЧАВАННЯ — НЕДАСЯГАЛЬНАЯ ДЛЯ ЧАЛАВЕЦТВА ВЫШЫНЯ?

### КІШЭЧНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І ЧАЛАВЕК ЗАЎСЁДЫ ПОБАЧ

Мала каму з сучасных спажыўцоў вядома, што якаснае і бяспечнае харчаванне хвалявала нашых продкаў яшчэ некалькі тысячагоддзяў таму. Першыя ж законы, накіраваныя засцерагаць людзей ад ужывання ў ежу недабраякасных прадуктаў, прымаў сам прарок Маісей, які ўвёў забарону на «рэалізацыю» мяса нячыстых жывёл, загінуўшых, а не забітых пад спецыяльным наглядам. А вось Радзімай першай добра арганізаванай сістэмы дзяржаўнага кантролю за харчовымі прадуктамі для абароны спажыўца ад махлярства ці продажу яму няякаснага тавару стаў Старажытны Рым.

Шмат увагі пытанню бяспечнасці харчавання ўдзялялася ў Еўропе і ў сярэднявечча, калі адзін за адным пачалі з'яўляцца на свет законы аб якасці і бяспецы каўбас, сыру, яек, хлеба, піва, віна, некаторыя з якіх і па сённяшні дзень працягваюць дзейнічаць у асобных еўрапейскіх краінах.

Характэрны той факт, што, нягледзячы на ўсе апошнія дасягненні ў медыцыне, гігіене і тэхналогіі вытворчасці прадуктаў харчавання, праблема масавых харчовых атручэнняў і захворванняў харчовага паходжання па-ранейшаму застаецца для сучаснай сістэмы аховы здароўя адной з найбольш актуальных. Зараз рост захворванняў харчовага паходжання (такіх, напрыклад, як сальманелёз і бактэрыёз) рэгіструецца практычна ва ўсіх рэгіёнах свету. Калі ў 1990 годзе ў 11 краінах Еўропы на 100 тысяч насельніцтва было зарэгістравана 120 выпадкаў харчовых захворванн, то, згодна з апошнімі даследаваннямі, на 100 тысяч насельніцтва прыпадае штогод ужо не менш як 30.000 выпадкаў вострага гастраэнтэрыту. А, скажам, агульная эканамічная шкода ад 23000 выпадкаў захворвання на сальманелёз ва Уэльсе (Вялікабрытанія) у 1991 г. склала, згодна з ацэнкамі, 40—50 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

Такое сур'ёзнае абвастрэнне сітуацыі самі спецыялісты тлумачаць цэлым шэрагам прычын, пачынаючы ад урбанізацыі насельніцтва, якое прыводзіць да ўскладнення харчовага ланцужка і павелічэння верагоднасці заражэння прадуктаў харчавання да неспрыяльнай экалагічнай абстаноўкі і ўсталявання ў грамадстве новага стылю жыцця, калі ўсё большая колькасць людзей аддае перавагу харчаванню па-за домам. Павелічэнню колькасці пацярпелых спрыяе таксама і масавая вытворчасць прадуктаў, якая правакуе адпаведна масавыя ўспышкі тых ці іншых кішэчных захворванняў.

### ДАСКАНАЛАЯ ЗАНАДАЎЧАЯ БАЗА — СТРАХОЎКА ДЛЯ СПАЖЫЎЦА

Нягледзячы на той факт, што забеспячэнне адказнасці вытворцаў і прадаўцоў харчовых тавараў за іх якасць і бяспеку закранаецца ў Беларусі ў некалькіх законах (у Законе «Аб санітарна-эпідэмічным дабрабыце насельніцтва», «Аб ахове правоў спажыўцоў», «Аб стандартызацыі», «Аб сертыфікацыі»), усё ж такі праблемы здаровай і бяспечнай ежы так і не знайшлі ў іх свайго поўнага адлюстравання. Менавіта таму па ініцыятыве Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра па экспертнай ацэнцы якасці і бяспечнасці прадуктаў харчавання пры Міністэрстве аховы здароўя РБ некалькі гадоў таму ў рэспубліцы была пачата работа па стварэнню зусім новага для Беларусі закона — «Аб ежы», накіраванага не толькі на забеспячэнне насельніцтва бяспечнай, якаснай і канкурэнтаздольнай ежай, але і на ўстанаўленне на тэрыторыі нашай краіны і на яе межах адзінай сістэмы кантролю і нагляду за прадуктамі харчавання.

У праекце новага закона ўпершыню рэгламентуецца і класіфікуецца састаў ежы. Асаблівая ўвага ўдзяляецца ў ім прымяненню харчовых дабавак, якія будуць дапускацца да вытворчасці толькі пасля ўважлівай іх праверкі і гігіенічнай рэгістрацыі, колькасць жа харчовых дабавак, якія ўносяцца ў прадукт, будзе строга абмяжоўвацца іх бяспечнай для здароўя чалавека сутачнай дозай з улікам магчымага ўзаемадзеяння з іншымі рэчывамі ў чалавечым арганізме.

Асобны артыкул новага закона будзе прысвечаны праблемам распрацоўкі і вытворчасці новай ежы. Таксама ў ім будуць устаноўлены патрабаванні да расфасоўкі, упакоўкі, этыкетавання, тэрмінаў рэалізацыі, захоўвання і транспарціроўкі ежы, давацца дакладная і адназначная трактоўка гэтых паняццяў.

У новым законе таксама рэгламентуюцца дазволеныя і забароненыя маніпуляцыі з ежай, якія могуць нанесці чалавеку ці навакольнаму асяроддзю шкоду. Пры гэтым устанаўліваецца, што асобы, вінаватыя ў невыкананні ці парушэнні патрабаванняў па забеспячэнню бяспекі і якасці ежы, нясуць адміністрацыйную, грамадзянска-прававую і крымінальную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а службовыя асобы ў сваю чаргу — дысцыплінарную, адміністрацыйную, грамадзянска-прававую і крымінальную адказнасць.

Мяркуецца, што закон «Аб ежы» дазволіць нарэшце пастаўшчыкам, вытворцам, прадаўцам, дзяржаўным кантралюючым органам аб'яднаць свае намаганні, каб забяспечыць насельніцтва Беларусі сапраўды бяспечным і высакаякасным харчаваннем.

### У ЕЖЫ БЕЛАРУСАЎ — ДЭФІЦЫТ МІНЕРАЛАЎ

Фундамент айчыннай нутрыцыялогіі — навукі аб фактычным харчаванні і статусе харчавання насельніцтва — быў закладзены ў Беларусі толькі ў пачатку 90-х гадоў нашага стагоддзя. Менавіта да гэтага часу адносяцца першыя навуковыя даследаванні, праведзеныя Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтрам па экспертнай ацэнцы якасці і бяспечнасці прадуктаў харчавання сумесна з Беларускім навукова-даследчым санітарна-гігіенічным інстытутам і Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытутам, якія, у прыватнасці, устанавілі, што нягледзячы на зніжэнне спажывання ў нашай краіне ў параўнанні з 1985 годам на душу насельніцтва асноўных прадуктаў харчавання, 10 асноўных відаў прадуктаў пакуль уваходзяць у наш рацыён. Аснову ж рацыёну сярэднестатыстычнага беларуса (42 працэнты ад усіх ужываемых у ежу прадуктаў) складаюць на сённяшні дзень малако і малочныя прадукты, 16 працэнтаў займаюць у рацыёне хлеб, хлебапрадукты і бульба, 10 працэнтаў — агародніна і бахчавыя культуры, 6 працэнтаў — мяса і мясапрадукты, 4 працэнты — садавіна і ягады, 3 працэнты — цукар і кандытарскія вырабы, па аднаму працэнту — яйкі, рыба, масла, маргарын і іншыя тлушчы. Праўда, у сельскай мясцовасці гэтыя паказчыкі істотна адрозніваюцца ад гарадскіх, бо спажыванне бульбы на вёсцы большае, чым у горадзе, у 2 разы, хлеба і хлебабулачных вырабаў — у 1,5 раза, а вось садавіны і ягад у рацыён сельскіх жыхароў уключаецца ў 1,8 разы менш, чым у горадзе.

Нізкае ўтрыманне жалеза, цынку і медзі было ўстаноўлена ў такіх беларускіх прадуктах, як хлеб, свіное і ялавічнае мяса, морква, бульба, капуста, што звязана, у першую чаргу, з нізкім утрыманнем гэтых мінералаў у глебах. Такім чынам, штодня кожны працаздольны жыхар нашай рэспублікі недаатрымлівае 19 працэнтаў сутачнай нормы спажывання жалеза, 25 працэнтаў цынку і 20 працэнтаў медзі.

У недастатковай колькасці атрымліваем мы з вамі селену, бо па ўтрыманню ў глебах Se і I Беларусь адносіцца да біяхімічных правінцый. Дадаткова сітуацыя ўскладняецца яшчэ і такімі фактарамі, як экалагічныя наступствы чарнобыльскай аварыі і цяжкі эканамічны стан краіны.

Паводле даных спецыялістаў, частата сустракальнасці валляка ў Мінскай вобласці складае 43,4 працэнта, Гомельскай — 25,0 працэнта, Брэсцкай — 31,7 працэнта. Пры гэтым спажыванне ёдаванай солі адзначана толькі ў 57 працэнтаў абследаваных у Мінскай вобласці, у 67 працэнтаў — у Гомельскай вобласці і 52 працэнтаў у Брэсцкай вобласці.

Пры актыўнай падтрымцы ЮНІСЭФ у рэспубліцы падрыхтавана Дзяржаўная праграма па ліквідацыі ёдавага дэфіцыту і прафілактыцы валляковай эндэміі ў Рэспубліцы Беларусь на 1998—2003 гады, адным з прыярытэтных напрамкаў якой з'яўляецца забеспячэнне ўсіх беларусаў высакаякаснай ёдаванай соллю для ўжывання яе ў ежу.

У стадыі распрацоўкі знаходзіцца таксама зараз праект па ўзбагачэнню прадуктаў харчавання селенам. У 2000—2001 гадах у Беларусі плануецца арганізаваць выпуск біяселенавых дражджэй для прамысловай вытворчасці хлебабулачных вырабаў. Магчымасць выкарыстання хлеба, узбагачанага біяселенам, вывучалася ў Інстытуце харчавання Расійскай акадэміі навук, дзе эксперты прыйшлі да высновы, што выпуск хлеба, які ўтрымлівае 1/4 фізіялагічнай нормы сутачнага спажывання селену, павінен складаць ад 20 да 30 працэнтаў ад агульнай колькасці хлебапрадуктаў.

Яшчэ адна праблема для беларусаў — дэфіцыт фоліевай кіслаты. Даныя аб неабходнасці ўзбагачэння хлебабулачных прадуктаў фоліевай кіслатой былі агучаны вядучымі беларускімі генетыкамі яшчэ ў 1997 годзе, таму не выключана, што вырашэнне пытання аб ліквідацыі селенавага і фоліевага дэфіцыту будзе разглядацца адначасова.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...«ПАТАКСАВАЦЬ»

## Аднак кар'ера прыватніка пацярпела фіяска і каштавала журналісту бутэлькі піва

**Адзінае, бадай, што ўскладняла ў дадзенай сітуацыі своеасаблівую магчымасць падзарабіць — адсутнасць уласнага аўтамабіля і правоў на ваджэнне. Аднак гэтую праблему вырашыць было нескладана: мой знаёмы не першы год «замужам» і ў вольны час падзарабляе прыватным возніцтвам. Атрымаць «дабро» ад Уладзі на сумесны «ваяж» па вуліцах сталіцы аказалася вельмі лёгка: таксаваць удвух куды весялей, ды і больш бяспечна. Хоць, забягаючы наперад, заўважу, што апошняе сцвярджэнне аказалася далёкім ад ісціны: некалькі непрыемных хвілін перажыць давялося. Праўда, гэты факт хутчэй выключэнне, чым правіла. Тым больш, што падвёў «пад манастыр» сябра я сам...**



Фота Ігара ПЯТРОВА.

### «ЗАЛЁТ» ПЕРШЫ І САМЫ НЕПРЫЕМНЫ

Трэба сказаць, што ва Уладзі ёсць некалькі «залатых» правілаў, якіх ён прытрымліваецца ў вячэрнім Мінску. Па-першае, ніколі не спыняе машыну, калі галасуе натоўп або некалькі хлопцаў. Па-другое, ніколі не выязджае за межы горада і бярэ плату папярэдне. Па-трэцяе, пазбаўляе ініцыятывы пасажыра і пачынае патрабаваць плату з самай высокай планкі (у выніку, у адрозненне ад таксіста, усё роўна застаецца ў выйгрышы). Што датычыцца апошняга правіла, то мы з сябрам яго сціпла не чапалі, а вось ад двух першых вырашылі адмовіцца. Мусіць, дарэмна...

Пачатак быў абнадзейлівы. На «Пушкінскай» наш «Жыгуль» яшчэ здалёк пачала тармазіць жанчына. Калі мы спыніліся побач, яна нетаропка адчыніла пярэднія дзверцы машыны, адарыла нас з Уладзем усмешкай і, расцягваючы словы, запытала:

— Хлопчыкі, не жадаеце павесяліцца?

З самым раўнадушным выглядам, каб не выдаць міжвольную зацікаўленасць, пытаюся: «А ў чым, уласна кажучы, справа?»

Дзяўчына, нікольки не разгубіўшыся, прасвяціла нас наконт таго, што аказвае інтымныя паслугі ў салоне аўтамабіля, і назвала «таксу» за гадзіну — 30 «баксаў».

Сябар, які, дарэчы, ужо не ўпершыню сутыкаецца са сталічнымі «штучкамі», цалкам сур'ёзна спрабуе збіць цану на паслугу: маўляў, скінуць «баксаў» пятнаццаць не шкодзіла б.

Путана, напэўна, спачатку ніяк не магла рашыць: ці прыняць выгляд пакрыўджанай дзяўчыны, ці пагадзіцца. Выбрала апошняе.

— Аднак грошы ўперад.

Спаслаўшыся на сваё пралетарскае паходжанне і адсутнасць валюты, мы, каб не «апухлі вушы», ад сумніўных кампліментаў, хуценька зрываемся з месца і едзем да чыгуначнага вакзала. Нягледзячы на вірлівае тамтэйшае жыццё, кліенты знайшліся не хутка: крэйсіравалі мы хвілін трыццаць. А калі ў машыну забраліся трое — дык Божа барані ад такой кліентуры. Шкада, што зразумелі мы гэта пазней, калі адзін са спадарожнікаў кінуў: «Да «Беларусі», а расплаціцеся з намі пазней».

Шчыра кажучы, нават не ведаю, хто «ашчасліві» нас у той вечар — звычайныя бандзюгі або «кантралёры» рынку прыватных паслуг. Адрэкамендаваліся яны менавіта людзьмі, якія курыруюць прыватнікаў. Прычым асіплы голас аднаго з субяседнікаў і своеасаблівы слэнг ужо на пачатку маршруту прымусіў нас прыкусіць языкі (як бы не ляпнуць чаго лішняга). Самае запамінальнае, што вынеслі мы з гэтай паездкі, дык гэта пачуццё безабароннасці, якое не адпускала да таго моманту, пакуль пасажыры нетаропка не пакінулі салон аўтамабіля. Апустошыўшы кішэні Уладзі (тысяч сто трыццаць узялі), яны напрыканцы параілі больш не трапляцца ім на вочы. Добра, што хоць не пабілі...

### «ЗАЛЁТ» ДРУГІ. ФІНАНСАВЫ

Уладзя пасля непрыемнай прыгоды ачуняў хутчэй: мабыць, нервы больш моцныя. Ужо праз пяць хвілін на Партызанскім праспекце мы падабралі двух добра апранутых хлопцаў, якія былі ўшчэнт п'яныя. У руках аднаго з іх які, перавальваўся злева направа, красавалася ёмістасць з імпартным півам літраў гэтак на дзесяць, другі трымаў пакеты з замежнай гарэлкай і ежай. «Заламаў» Уладзя, каб падкінуць загуляўшых мужыкоў да Сурганава, 600 тысяч рублёў. Аднак ніхто спрачацца з ім не стаў. Выцягнуўшы пачак стотысячных купюр, адзін з дзецюкоў разлічыўся. Самае цікавае пачалося потым, калі хлопцы пачалі спрачацца, колькі ў іх засталося грошай. У СКВ. Абзываючы адзін аднаго дурнямі, яны называлі лічбы ў тры тысячы долараў і тры з паловай. Кансенсусу ім не ўдалося дасягнуць і тады, калі мы апынуліся на месцы.

— Шэф, пакуль мы пералічым «баксы», калі ласка, пастой. За прастой — дадатковая плата.

Праз хвілін сорак стала вядома, што меў рацыю той, які гаварыў пра 3500. Ды і то, пасля таго, як некалькі разоў запар на вачах у сябрукоў мы пералічылі USD. У рэшце рэшт, Уладзя атрымаў ад расчуленых кліентаў дадаткова яшчэ трыста тысяч.

Уражаны ўдачай на праспекце Скарыны, Уладзя падабраў яшчэ аднаго асалавелага ад гарэлкі кліента. Ён, аднак, надзей прыватніка не апраўдаў. Акрылены папярэднім поспехам, мой знаёмы забыўся на адно сваё правіла — грошы ўперад. Калі мы даставілі кліента па адрасу, выявілася, што грошы ў яго адсутнічаюць. Далейшыя перагаворы так сама плёну не далі. Кліент пасля выпітай гарэлкі хутчэй быў мёртвы, чым жывы. Вось такое зменлівае шчасце...

### «ЗАЛЁТ» АПОШНІ. ПРЫПЛЫЛІ

Як падзяліўся са мной інфармацыяй Уладзя, у тыя дні, калі ён таксуе, чысты даход складае ў сярэднім ад 700 да 900 тысяч. Іншая справа, што не кожны дзень удаецца вырвацца і заняцца неабходным бізнесам. Нашы сумесныя намаганні «навару» не прынеслі. У той момант, калі было вырашана дачакацца апошняга кліента на прыпынку па вуліцы Няміга, як снег на галаву на нас зваліліся даішнікі. Апускаючы ўсе непрыемныя для майго знаёмага фармальнасці, магу толькі канстатаваць: дзень сапраўды выдаўся няўдалы. Апошнюю кропку, што і даканала Уладзю, паставілі супрацоўнікі міліцыі, якія аштрафавалі «нас». Паколькі дазволу на прыватны бізнес не было, што з'яўляецца правапарушэннем (для недасведчаных: штраф ад 0,3 да двух «мінімалак»), яму адлічылі па поўнай праграме — 700 тысяч рублёў. Карацей, пасля напружанай працы піва прыйшлося прастаўляць мне...

**Рэпартаж «з колаў» правёў Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# У ВЕДАХ — СІЛА СПАЖЫЎЦА

Страх разбіць, рассыпаць, скінуць на падлогу магазінны тавар вядомы, напэўна, многім. Сапраўды, крыўдна аплачваць прадукт, які застаецца ў магазіннай урне для смецця, а не адпраўляецца ў гаспадарчай сумцы дамоў. Але разбітая бутэлька малака — гэта яшчэ паўбяды, сапраўдная ж бяда — гэта разбітая бутэлька, скажам, імпартнага віна, бо наўрад ці ў каго з пакупнікоў знойдуцца ў кашальку «лішнія» грошы, каб пакрыць магазіну нанесеныя страты, хіба што можна трапіць да яго ў «даўжнікі».

І усё ж большасць з нас не жадае прыцягваць да сабе залішнюю ўвагу, а таму імкнецца як мага хутчэй расплаціцца з раз'юшаным прадаўцом, які на ўвесь магазін сараманіць «віноўніка».

Між тым, мала каму з пакупнікоў вядома, што за сваю неасцярожнасць пакупнік зусім не абавязаны несці матэрыяльную адказнасць, бо ў гэтым выпадку на яго абарону паўстае артыкул 141 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Рызыка выпадковай гібелі», у якім запісана, што «рызыка выпадковай гібелі ці выпадковага пашкоджання адчужальных рэчаў пераходзіць на пакупніка адначасова з узнікненнем у яго права ўласнасці, калі іншае не ўстаноўлена дагаворам». У адносінах да вышэйапісанай сітуацыі гэта азначае, што да моманту аплаты любы тавар належыць не пакупніку, а магазіну, уласнікам жа пакупнік становіцца толькі пасля перадачы магазіну грошай. А таму, калі пакупнік пашкодзіў ( разбіў, рассыпаў і г.д.) тавар да таго моманту, як паспеў за яго расплаціцца, ён аплочваць пашкоджаную рэч не павінен, паколькі не паспеў стаць яе ўласнікам. Усе ж фінансавыя выдаткі нясе ў гэтым выпадку ўладальнік тавару.

Аднак злоўжываць гэтым артыкулам Грамадзянскага кодэкса мы нашым чытачам не раім, бо любыя наўмысныя дзеянні, накіраваныя на пашкоджанне магазіннага тавару, будуць кваліфікаваныя ўжо як хуліганства. А вось ведаць свае правы нікому не нашкодзіць...

**Надзея НІКАЛАЕВА**

***Чатырнаццаць гадоў для прадпрыемства — не ўзрост, а тым больш для металургічнага. У Расіі дзейнічаюць яшчэ дзямідаўскія заводы, якім пад дзве сотні гадоў. Сённяшні БМЗ, што ў горадзе Жлобіне, выгадна адрозніваецца не толькі ад буйных прадпрыемстваў падобнага профілю на ўсёй постсавецкай тэрыторыі, але роўнага яму, бадай, не знайсці і ў Еўропе. Пабудаваны з улікам найноўшых сусветных дасягненняў у галіне металургічнай вытворчасці, ён выдзяляецца найперш перадавымі тэхналогіямі. Ці не таму яго прадукцыю ахвотна набываюць у Германіі, Швецыі, Нарвегіі, Аўстрыі, Італіі, ЗША, Францыі, Бельгіі — гэтых прызнаных грандах металургічнай справы. Добра ведаюць вырабы Беларускага металургічнага завода і ў Кітаі, Сінгапуры, Егіпце, Тайвані, Алжыры, Тунісе, Марока... Усяго***
***закранае больш як сор***
***А ўсё таму, што прадук***
***металургічнага завода***
***прызнанне. Яшчэ з 199***
***прадпрыемстве дзейні***
***стандарту ІСО 9002. У***
***гэтая сістэма якасці бы***
***адпаведнай службай Ге***
***Брандэнбург. Апрача т***
***прызнана сертыфікацы***
***Швецыі і Нарвегіі. Што***
***таварнай прадукцыі, то***
***падвяргаецца аўдытар***
***вядомымі фірмамі-спах***
***«Кантыненталь», SLV Д***
***«Гудзіер» (Люксембург)***
***яшчэ трэба? Ёсць сусв***
***рынкі збыту... І тым не***

# ДРУГОЕ НАРАДЖЭНН

ПРАЗ даволі вялікую адтуліну ў чэраве печы бачна, як там кіпіць і пеніцца метал. Адтуль, з глыбіні, узнімаецца нясцерпная гарачыня — здаецца, зазірнуў у самае пекла.

А тым часам у вышыні павольна праплывае важкі металічны кош. Вось ён застыў над вялізнай пашчай печы. У тое ж імгненне расчыняецца днішча каша — і шасцідзесяцітонная маса шыхты з грукатам ляціць уніз. А насустрач узлятае вогненны феерверк. Усё, печ загружана. Падаецца назад накрыўка разам з трыма электродамі, якія нагадваюць ярка-чырвоныя тэлеграфныя слупы. Сталёвае цела печы аж здрыганулася ад мноства выбухаў — там, унутры, пачалася плаўка. Гул стаіць такі, што калі б нават зайшоўся крыкам — нічагуткі не чуваць.

Разам са старшым дыспетчарам БМЗ Яўгенам Ігнатушам заходзім на пульт кіравання сталеплавільнай печы № 3. Тут крыху цішэй, ва ўсякім разе, не трэба напружваць галасавыя звязкі. Ад яго і даведаўся, што праводзяцца апошнія плаўкі, бо ўжо праз дзень печ спыняюць на рэканструкцыю.

Пазнаёміліся са сталяварам Алегам Садоўскім. Ён вельмі заняты, кожная хвіліна на ўліку, таму перакінуліся ўсяго некалькімі словамі. Як і многія металургі, Алег Канстанцінавіч з ліку ветэранаў. Працуе тут каля дванаццаці гадоў. Прыехаў з горада Кулябакі, што пад Ніжнім Ноўгарадам, прайшоў усе ступенькі сталяварскага майстэрства: быў трэцім, другім, першым памочнікам сталявара. І вось ужо каторы год — самастойна ля печы. Вядома, наслухаўся пра рэканструкцыю завода, у тым ліку і іх печы № 3. Пасля завяршэння ўсіх работ, а гэта зойме роўна месяц, яна зноў пачне выдаваць сталь, толькі ў значна большых аб'ёмах. Намнога палепшыцца і якасць, а гэта дабратворна адаб'ецца і на зарплаце. А што яшчэ трэба рабочаму чалавеку?

Паколькі мы вырашылі прайсці па ўсяму тэхналагічнаму ланцужку, пачынаючы ад сталеплавільнай печы і да выхаду гатовай прадукцыі — пракату і металакорду, то наступны маршрут — участак так званай пазапечнай апрацоўкі сталі. Пагутарылі са сталяварам Уладзімірам Шчукіным і старшым майстрам Віктарам Паршыным. У іх таксама вельмі складаная гаспадарка. Перш чым сталь трапіць на разліў, яна праходзіць неабходную дапрацоўку, даводку ў спецыяльным прыстасаванні — печы-каўшы. Там у сталь уносяцца ферасплавы і іншыя неабходныя дабаўкі. Гэта ўсё роўна, як вопытны кулінар дабаўляе неабходныя спецыі на заключным этапе гатавання стравы.

Далей сталь ідзе на машыну бесперапыннага разліву загатовак. Як зачараваныя, глядзім на дзівосную стужку, падобную на вялізную чырвоную анаконду, якая выпаўзае са сваёй нары. Потым з дапамогай спецыяльных газавых разакоў сталёвую паласу 400х300 метраў дзеляць на брусы-загатоўкі, якія затым паступаюць або на склад, або часцей, — на пракатныя станы...

Калі глядзіш на сінхронна адладжаны працэс, дзе ўсё дасканальна прадумана і даведзена дзеля аднаго — атрымання прадукцыі найвышэйшай якасці, міжволі ў галаве нараджаецца пытанне: а якога яшчэ ражна трэба,калі прадукцыя сертыфікавана па міжнародных стандартах, калі яна і без таго — нарасхват, ідзе, што называецца, з колаў? Гэта колькі ж спатрэбіцца на ўсё часу і сродкаў!

— Ой як няпроста працаваць, калі пастаянна адчуваеш за спіной гарачае дыханне канкурэнтаў, — зазначае дырэктар па знешніх эканамічных сувязях БМЗ Генадзь Шыленка. — Сёння мы на кані, лёгка іх абыходзім. А заўтра? Навуковая думка не стаіць на месцы: нараджаюцца новыя ідэі, больш прагрэсіўныя тэхналогіі. Варта хоць крыху прамарудзіць, як іншыя абыдуць. А даганяць, як вядома, заўсёды цяжэй. Вырашылі праводзіць рэканструкцыю, што называецца, на маршы, без спынення вытворчасці. Асноўны партнёр — вядомая аўстрыйская фірма «Фёст-Альпіне». Тым больш, што аўстрыйцы ў свой час з'яўляліся падрадчыкамі пры ўзвядзенні БМЗ. Ім, як кажуць, і карты ў рукі. І калі прадстаўнічая дэлегацыя гасцей пабывала на прадпрыемстве, яны па-добраму здзівіліся: гэта ж трэба, на ўсёй постсавецкай прасторы металургія перажывае не лепшыя часы, а тут няспынна нарошчваюць выпуск прадукцыі, летась нават пераўзышлі праектную магутнасць. І культура вытворчасці адметная. Словам, госці згадзіліся пастаўляць абсталяванне, ажыццяўляць шэфкантроль за мантажом. Цяпер важна знайсці сродкі. І немалыя — дзесяткі мільёнаў долараў. Такіх грошай на заводзе няма. Трэба было шукаць за мяжой. Да таго часу ў нас ужо быў пэўны вопыт работы з некаторымі аўстрыйскімі і германскімі банкамі.Мы атрымлівалі крэдыты, а разлічваліся прадукцыяй. І вось дабіліся доўгатэрміновага кансалідаванага крэдыту. Але пра фінансавы бок справы лепей пагаварыць з дырэктарам БМЗ па эканоміцы Людмілай Аксёнавай.



*Генеральны дырэктар Юрый ФЕАКЦІСТАЎ.*

— Аб'ём крэдытнай лініі складае 454 мільёны аўстрыйскіх шылінгаў, што роўна прыкладна 41 мільёну долараў ЗША, — зазначае Людміла Ягораўна. — Ужо сама па сабе сума вялікая. Ды і форма крэдытавання новая, бо ўпершыню ў фінансаванні ўдзельнічалі ажно тры краіны: Аўстрыя, Германія і Польшча. Доўгатэрміновы кансалідаваны крэдыт выдзелілі Польская страхавая кампанія «Кука», страхавая кампанія «Гермес» (Германія) і Кантрольны банк Аўстрыі. А ўвогуле пасля расійскага крызісу ніхто на Захадзе не жадае рызыкаваць сваім капіталам. А тут выдалі такую вялікую суму тэрмінам на сем гадоў, да таго ж па самай нізкай працэнтнай стаўцы. Значыць, паверылі ў перспектывы прадпрыемства. А яшчэ чатыры гады тамуставілася пытанне калі не аб закрыцці БМЗ, то, ва ўсякім разе аб значным згортванні вытворчасці. У тыя часы, адразу пасля развалу СССР (а наша прадукцыя ў першую чаргу зарыентавана на саюзны рынак), стала катастрафічна не хапаць абаротных сродкаў. Вырашылі звярнуцца па крэдыты ў банк. Але тагачаснае кіраўніцтва Нацыянальнага банка з абурэннем адмовіла: маўляў, якія крэдыты,калі вы — банкруты! Трэба неадкладна згортваць вытворчасць, асабліва металакорду, попыт на які рэзка падае, неабходна пераходзіць на дробнасартавы пракат. Што і казаць, становішча патавае. І ўсё ж удалося пераламаць сітуацыю, даказаць усім, што металакордавую вытворчасць нельга згортваць. Аўтамабілебудаванне развіваецца ўстойлівымі тэмпамі, а таму і попыт на металакорд будзе. Даявялося звяртацца да заходніх банкаў. У лік пагашэння даўгоў мы прапанавалі ім сваю прадукцыю, і металакорд таксама. Спярша гэта былі невялікія сумы. А потым аб'ёмы крэдытаў пачалі ўзрастаць. Пакуль банкіры ўрэшце не пераканаліся, што з намі можна мець справу. Немалаважную ролю тут адыграў і генеральны дырэктар БМЗ Юрый Феакцістаў — прызнаны спецыяліст па корду не толькі ў былым Саюзе, але і ў Еўропе, да таго ж вучоны, кандыдат тэхнічных навук. Мне пашчаціла ўдзельнічаць у міжнародных перагаворах. Толькі дзіву давалася, які высокі яго імідж! Вось і апошні крэдыт нам прадаставілі ў многім дзякуючы намаганням генеральнага дырэктара, даверу да яго. Як у нас кажуць, гэтыя грошы выдзелілі «пад Феакціства». Так што аўтарытэт кіраўніка — далёка не апошні фактар пры дзелавых перагаворах. Асаблівую ўдзячнасць замежныя банкіры выказалі ў адрас старшыні праўлення Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча, які прымаў самы актыўны ўдзел у распрацоўцы крэдытнага пакета, прадастаўленні дзяржаўных гарантый пад гэты праект.А ўвогуле значны аб'ём работ, звязаных з рэканструкцыяй, праводзіцца за ўласныя сродкі, у першую чаргу за кошт амартызацыйных адлічэнняў. Гадавы аб'ём іх складае каля 30 мільёнаў долараў...



*Сталявар Уладзімір ШЧУКІН і старшы майстар Віктар П... ШЫН на пульце кіравання пазапечнай апрацоўкі сталі.*

Гордасцю металургаў з'яўляецца пракатная вытворчасць. У яе ўваходзіць 20-клецевы стан 320/150 з лініяй вырабаў гарачакатанага і тэрмаўзмоцненага сартавога пракату, 10-клецевы блок Моргана з сістэмай ахаладжэння Стэльмара для вытворчасці катанкі, комплекс абсталявання па ўпакоўцы і абвязцы пра-



*Спецыялісты БМЗ сумесна з аўстрыйскімі калегамі абмяркоўваюць ход рэканструкцыі аб'ектаў.*



*Аператар устаноўкі па вытворчасці катанкі Іван МАРОЗАЎ.*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 9 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

**Артыкул 1.** Унесці ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, прынятым Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 6 снежня 1984 года (ЗЗ БССР, 1984 г., № 35, арт. 505; 1985 г., № 7, арт. 96; 1986 г., № 28, арт. 362; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 15, арт. 253, № 34, арт. 537; 1993 г., № 7, арт. 39; 1994 г., № 13, арт. 181; 1995 г., № 18, арт. 194; 1996 г., № 16, арт. 208, № 23, арт. 420), наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Дапоўніць Кодэкс артыкуламі $58^1$ і $58^2$ наступнага зместу:

**«Артыкул $58^1$. Пашкоджанне або знішчэнне пастаянных геадэзічных пунктаў**

Пашкоджанне або знішчэнне пастаянных геадэзічных пунктаў, уключаючы размешчаныя на будынках і збудаваннях, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $58^2$. Невыкананне прадпісанняў органаў па зямельных рэсурсах, землеўпарадкаванню, геадэзіі і картаграфіі**

Невыкананне прадпісанняў органаў па зямельных рэсурсах, землеўпарадкаванню, геадэзіі і картаграфіі па ўстараненню выяўленых парушэнняў устаноўленага парадку правядзення тапографа-геадэзічных і картаграфічных работ, а таксама збору, уліку, захоўвання, размнажэння і выкарыстання матэрыялаў і даных, атрыманых у выніку правядзення гэтых работ, —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у памеры да дзесяці мінімальных заработных плат».

2. Назву главы 11 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«ГЛАВА 11. Адміністрацыйныя правапарушэнні ў галіне жыллёвых правоў грамадзян, будаўніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і добраўпарадкавання».**

3. Артыкул 142 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**Артыкул 142. Самавольнае будаўніцтва**

Самавольнае будаўніцтва грамадзянамі жылых дамоў, гаспадарчых, бытавых і іншых пабудоў і збудаванняў —

цягне накладанне штрафу ў памеры ад адной да сарака мінімальных заработных плат.

Самавольнае будаўніцтва прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі жылых, вытворчых, культурна-бытавых і іншых пабудоў і збудаванняў —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад пяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат.

Выдача дазволаў на будаўніцтва або заняцце зямельнага ўчастка да атрымання дакументаў, якія засведчваюць права валодання, карыстання гэтым участкам або ўласнасці на зямлю, —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад пяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

4. Дапоўніць Кодэкс артыкуламі $142^2$-$142^{10}$, $143^1$ наступнага зместу:

**«Артыкул $142^2$. Парушэнне абавязковых патрабаванняў праекта або нарматыўнай дакументацыі ў выкананых будаўніча-мантажных работах**

Парушэнне абавязковых патрабаванняў праекта або нарматыўнай дакументацыі, што забяспечваюць бяспеку жыцця і здароўя людзей, ахову навакольнага асяроддзя, трываласць, устойлівасць і эксплуатацыйную надзейнасць будынкаў, збудаванняў і іх частак, у выкананых будаўніча-мантажных работах —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры ад пяці да дваццаці мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання, —

цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад трох да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры ад дзесяці да сарака мінімальных заработных плат.

*Заўвага.* Нарматыўная дакументацыя — гэта дзеючыя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь стандарты, будаўнічыя нормы, тэхнічныя ўмовы і іншыя дакументы, якія ўстанаўліваюць патрабаванні да якасці прадукцыі і будаўніча-мантажных работ.

**Артыкул $142^3$. Падпісанне дакументаў, якія змяшчаюць звесткі, што не адпавядаюць фактычнаму стану і якасці будаўніча-мантажных работ, будаўнічых матэрыялаў, вырабаў і канструкцый**

Падпісанне дакументаў, якія змяшчаюць па выніках вытворчага кантролю, аўтарскага, тэхнічнага нагляду, абследаванняў, выпрабаванняў, выканаўчых геадэзічных здымак звесткі, што не адпавядаюць фактычнаму стану і якасці будаўніча-мантажных работ, будаўнічых матэрыялаў, вырабаў і канструкцый, калі гэта не цягне крымінальнай адказнасці, —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад двюх да дзесяці мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання, —

цягнуць накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад пяці да дваццаці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $142^4$. Парушэнне парадку прыёмкі ў эксплуатацыю аб'ектаў будаўніцтва. Эксплуатацыя аб'ектаў без іх прыёмкі**

Парушэнне старшынёй, членамі прыёмачнай камісіі ўстаноўленага парадку прыёмкі ў эксплуатацыю аб'ектаў будаўніцтва —

цягне накладанне штрафу ў памеры да дзесяці мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання, —

цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да дваццаці мінімальных заработных плат.

Увод у дзеянне або эксплуатацыя забудоўшчыкам (інвестарам, субінвестарам) аб'екта будаўніцтва без яго прыёмкі ва ўстаноўленым парадку —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад дваццаці да сарака мінімальных заработных плат.

Незавяршэнне ва ўстаноўлены тэрмін аддзелкі фасадаў, добраўпарадкавання і іншых работ, выкананне якіх было перанесена пры прыёмцы аб'ектаў у эксплуатацыю, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры да дзесяці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $142^5$. Невыкананне прадпісанняў органаў дзяржаўнага будаўнічага нагляду**

Невыкананне прадпісанняў органаў дзяржаўнага будаўнічага нагляду па ўстараненню парушэнняў заканадаўства, праектаў, абавязковых патрабаванняў нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад адной да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання, —

цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад трох да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры ад дзесяці да дваццаці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $142^6$. Парушэнне ўстаноўленага парадку прадстаўлення данясенняў аб аварыях будынкаў і збудаванняў, а таксама расследаванні прычын гэтых аварый**

Непрадстаўленне ва ўстаноўленым парадку данясенняў аб аварыях будынкаў і збудаванняў, іх частак і элементаў канструкцый, а таксама матэрыялаў расследавання прычын аварый, парушэнне ўстаноўленага парадку расследавання або неправедзенне расследавання прычын гэтых аварый —

цягнуць накладанне штрафу на службовых асоб у памеры да дзесяці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $142^7$. Нездавальняючае ўтрыманне будаўнічай пляцоўкі, месцаў правядзення раскопак**

Парушэнне патрабаванняў нарматыўнай дакументацыі і праекта правядзення работ па арганізацыі, агароджанню або ўтрыманню будаўнічай пляцоўкі —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры да пяці мінімальных заработных плат.

Адсутнасць або нездавальняючае ўтрыманне агароджання месцаў правядзення раскопак —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры да дзесяці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $142^8$. Адступленні ад зацверджанага архітэктурнага праекта, дапушчаныя пры распрацоўцы будаўнічага праекта**

Адступленні ад зацверджанага архітэктурнага праекта, дапушчаныя пры распрацоўцы будаўнічага праекта без узгаднення з распрацоўшчыкамі архітэктурнага праекта і органам, які зацвердзіў яго, —

цягнуць накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання, —

цягнуць накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад дзесяці да дваццаці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $142^9$. Самавольнае ўнясенне змяненняў у зацверджаны будаўнічы праект і (або) адступленне ад яго, дапушчаныя ў ходзе рэалізацыі праекта**

Самавольнае ўнясенне змяненняў у зацверджаны будаўнічы праект і (або) адступленне ад яго, дапушчаныя ў ходзе рэалізацыі праекта без узгаднення з распрацоўшчыкамі архітэктурнага і будаўнічага праектаў і органам, які зацвердзіў праект, —

цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у памеры да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры да дзесяці мінімальных заработных плат.

**Артыкул $142^{10}$. Невыкананне прадпісанняў органаў дзяржаўнага кіравання архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасцю**

Невыкананне прадпісанняў органаў дзяржаўнага кіравання архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасцю па ўстараненню парушэнняў, дапушчаных у ходзе распрацоўкі або рэалізацыі архітэктурных і будаўнічых праектаў, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад адной да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання, —

цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад трох да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — у памеры ад дзесяці да дваццаці мінімальных заработных плат».

**«Артыкул $143^1$. Дзеянні, звязаныя з прадастаўленнем і адабраннем зямельных участкаў, праведзеныя без распрацоўкі і зацвярджэння адпаведнай горадабудаўнічай дакументацыі**

Дзеянні, звязаныя з прадастаўленнем і адабраннем зямельных участкаў, праведзеныя без распрацоўкі і зацвярджэння адпаведнай горадабудаўнічай дакументацыі, —

цягнуць накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання, —

цягнуць накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад дзесяці да дваццаці мінімальных заработных плат».

5. У артыкуле 199:

у частцы першай лічбы «140—147» замяніць словамі «140, 141, часткай першай артыкула 142, артыкулам $142^1$, часткай другой артыкула $142^7$, артыкуламі 143, 144—147»;

у частцы другой лічбы «140—142» замяніць словамі «140, 141, часткай першай артыкула 142, часткай другой артыкула $142^7$».

6. У частцы першай артыкула 200 лічбы «142» замяніць словамі «часткай першай артыкула 142, часткай другой артыкула $142^7$».

7. Дапоўніць Кодэкс артыкуламі $210^1$ і $210^2$ наступнага зместу:

**«Артыкул $210^1$. Органы дзяржаўнага будаўнічага нагляду**

Органы дзяржаўнага будаўнічага нагляду разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных часткай другой артыкула 142, артыкуламі $142^2$, $142^6$, часткай першай артыкула $142^7$ гэтага Кодэкса.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў дзяржаўнага будаўнічага нагляду мае права старшыня Камітэта па нагляду за вядзеннем работ у будаўніцтве пры Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь і яго намеснікі, начальнікі органаў дзяржаўнага будаўнічага нагляду абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў і іх намеснікі.

**«Артыкул $210^2$. Органы дзяржаўнага кіравання архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасцю**

Органы дзяржаўнага кіравання архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасцю разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных часткай першай артыкула 142, артыкулам $142^1$, часткай другой артыкула $142^7$, артыкуламі $142^8$—$142^{10}$, $143^1$ гэтага Кодэкса.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў дзяржаўнага кіравання архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасцю маюць права міністр архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь і яго намеснікі, начальнікі (старшыні) галоўных упраўленняў (камітэтаў) архітэктуры, горадабудаўніцтва і тэрытарыяльнага планавання абласных выканаўчых камітэтаў і іх намеснікі, старшыня Камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта і яго намеснікі, галоўныя архітэктары гарадоў і раёнаў».

8. У частцы першай артыкула 218 лічбы «47 — 49, $50^1$, 52, 53, 54 — $56^3$, 57 — 89, $167^6$, 189, 190» замяніць лічбамі «48, 49, $50^1$, 52, 53, $56^1$, $56^3$, 57, 58, 59 — 89, 189, 190».

9. Артыкул $224^5$ выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул $224^5$. Органы па зямельных рэсурсах, землеўпарадкаванню, геадэзіі і картаграфіі**

Органы па зямельных рэсурсах, землеўпарадкаванню, геадэзіі і картаграфіі разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкуламі 47, 52, 53, 54 — $56^2$, $58^1$, $58^2$, часткай трэцяй артыкула 142, артыкулам $167^8$ гэтага Кодэкса.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў па зямельных рэсурсах, землеўпарадкаванню, геадэзіі і картаграфіі маюць права:

Старшыня Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь і яго намеснікі — штраф на грамадзян у памеры да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да пяцідзесяці мінімальных заработных плат;

загадчыкі аддзелаў па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню абласных выканаўчых камітэтаў і іх намеснікі, намеснік старшыні Камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, начальнікі аддзелаў Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь — штраф на грамадзян у памеры да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да дваццаці пяці мінімальных заработных плат;

загадчыкі аддзелаў (начальнікі ўпраўленняў) па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню раённых, гарадскіх выканаўчых камітэтаў і іх намеснікі — штраф на грамадзян у памеры да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да дзесяці мінімальных заработных плат».

10. У артыкуле $234^1$:

у пункце 1 часткі першай:

у абзацы другім лічбы «142» замяніць словамі «частка першая артыкула 142, частка другая артыкула $142^7$, артыкул»;

у абзацы трэцім лічбы «140—143» замяніць словамі «140, 141, частка першая артыкула 142, артыкул $142^1$, частка другая артыкула $142^7$, артыкулы 143», лічбы «$167^5$—$167^8$» замяніць лічбамі «$167^5$—$167^7$»;

у абзацы семнаццатым лічбы «140—142» замяніць словамі «140, 141, частка першая артыкула 142, частка другая артыкула $142^7$, артыкулы»;

абзац дваццаты выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«органаў Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь (частка першая артыкула 142, артыкул $142^1$, частка другая артыкула $142^7$)»;

у частцы другой:

у абзацы восьмым пункта 1 словы «Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» замяніць словамі «Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь»;

пункт 2 дапоўніць абзацам наступнага зместу:

«пазаштатны інспектар органаў дзяржаўнага будаўнічага нагляду (частка другая артыкула 142, артыкулы $142^2$—$142^6$, частка першая артыкула $142^7$)».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*4 лістапада 1998г., г.Мінск, №198-З.*

# ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Латвійскай Рэспублікі аб садзейнічанні ажыццяўленню і абароне інвестыцый

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Латвійскай Рэспублікі аб садзейнічанні ажыццяўленню і абароне інвестыцый, падпісанае ў г. Рыга 3 сакавіка 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 200-З*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Сірыйскай Арабскай Рэспублікі аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў у дачыненні да падаткаў на даходы

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 7 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Сірыйскай Арабскай Рэспублікі аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў у дачыненні да падаткаў на даходы, падпісанае ў горадзе Дамаску 11 сакавіка 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 201-З*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення аб супрацоўніцтве і спыненню правапарушэнняў у галіне інтэлектуальнай уласнасці

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Артыкул 1. Ратыфікаваць Пагадненне аб супрацоўніцтве па спыненню правапарушэнняў у галіне інтэлектуальнай уласнасці, падпісанае 6 сакавіка 1998 года ў г. Маскве.

Артыкул 2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з ратыфікацыяй Пагаднення аб супрацоўніцтве па спыненню правапарушэнняў у галіне інтэлектуальнай уласнасці.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 202-З*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Рэспублікі Казахстан аб свабодным гандлі

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Рэспублікі Казахстан аб свабодным гандлі, падпісанае ў г. Алматы 23 верасня 1997 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 203-З*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Саюзным урадам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання ў дачыненні да падаткаў на даходы і маёмасць

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Саюзным урадам Саюзнай Рэспублікі Югаславія аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання ў дачыненні да падаткаў на даходы і маёмасць, падпісанае ў г. Бялградзе 30 студзеня 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 204-З*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Арабскай Рэспублікі Егіпет аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў у дачыненні падаткаў на даходы

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 14 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Арабскай Рэспублікі Егіпет аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў у дачыненні да падаткаў на даходы, падпісанае ў г. Каіры 16 чэрвеня 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 205-З*

## Аб ратыфікацыі Дагавора аб прававым статусе грамадзян адной дзяржавы, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі другой дзяржавы — удзельніцы Дагавора ад 29 сакавіка 1996 года

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Дагавор аб прававым статусе грамадзян адной дзяржавы, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі другой дзяржавы — удзельніцы Дагавора ад 29 сакавіка 1996 года, падпісаны ў г. Маскве 28 красавіка 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 206-З*

## Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Саюзным урадам Саюзнай Рэспублікі Югаславія аб паветраных зносінах

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Саюзным урадам Саюзнай Рэспублікі Югаславія аб паветраных зносінах, падпісанае ў г. Бялградзе 30 студзеня 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 207-З*

## Аб ратыфікацыі Канвенцыі аб транснацыянальных карпарацыях

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 2 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Артыкул 1. Ратыфікаваць Канвенцыю аб транснацыянальных карпарацыях, падпісаную ў г. Маскве 6 сакавіка 1998 года.

Артыкул 2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясені змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з ратыфікацыяй Канвенцыі аб транснацыянальных карпарацыях.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 208-З*

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ*

# НЕ ЗДРАДЗЬ САБЕ

**У творчасці гэтага журналіста ёсць усё, што робіць гонар і прыносіць шырокую вядомасць чалавеку такой вельмі нялёгкай прафесіі. Ён глыбока і прафесійна выступае па тых праблемах жыцця, якія найбольш хвалююць наша грамадства, кожнага з нас. Кажу так, бо ведаю Міхаіла Шыманскага яшчэ з 1960 года, калі мы разам працавалі ў «Звяздзе». Каля 10 гадоў «Звязда», амаль чвэрць стагоддзя — уласны карэспандэнт «Известий» па Беларусі, хутка 5 гадоў як у «Рэспубліцы». 40 гадоў актыўнай працы ў журналістыцы, а ўвесь творчы стаж М. Шыманскага — 48 гадоў.**

ЁН ВЕЛЬМІ ГОДНА прадстаўляў нашу рэспубліку ў «Известиях», самай папулярнай газеце былога Савецкага Саюза. Сведчанне таму — яго шматлікія матэрыялы на самыя розныя тэмы, якія друкаваліся з Беларусі на старонках «Известий» і атрымлівалі шырокі рэзананс у нашых чытачоў. Уласны карэспандэнт — як бы рэдакцыя ў адной асобе, менавіта такі размах яго творчых інтарэсаў, задумак, праблем. Гэта патрабуе ад уласнага карэспандэнта, тым больш такой газеты, як «Известия», высокай дысцыплінаванасці, выключнай адказнасці перад самім сабой, газетай і чытачамі за кожнае сказанае слова, факт, за кожную ацэнку той ці іншай падзеі. Інакш ён проста не зможа працаваць.

Мы, журналісты старэйшага пакалення, вельмі ўважліва сачылі тады за тым, што і як піша Міхаіл Шыманскі пра Беларусь. Асабіста ў мяне быў яшчэ інтарэс і такі: рыхтуючы змену журналістаў у Белдзяржуніверсітэце, я глядзеў — а што могуць узяць будучыя газетчыкі ў свайго старэйшага калегі ў чыста прафесійным плане? Які ж галоўны вывад з работы М. Шыманскага ў «Известиях» можна зрабіць? Для яго заўсёды на першым месцы сталі гонар і аўтарытэт нашай роднай Беларусі. Так, ён шмат пісаў пра беларускую эканоміку. Але ж тэма гераізму нашага народа ў вайне, незвычайны лёс многіх людзей, якія нарадзіліся на беларускай зямлі, пераемнасць пакаленняў, самаадданая праца і рабочага, і калгасніка, і вучонага, і настаўніка былі тады ў творчасці Шыманскага прыярытэтнымі. Менавіта пра гэта былі яго шматлікія нарысы. Не так проста выдаць беларускаму журналісту свае нарысы і публіцыстыку ў Маскве асобнай кнігай. Між тым, дзве такія кнігі М. Шыманскага выйшлі ў тыя гады ў Маскве: «Слышим ваши шаги» і «Три березки у огня». Ды яшчэ больш дзесятка кніжак выдадзена ў Мінску. І ў кнігах гэтых — усё тая ж бязмежная любоў М. Шыманскага да Бацькаўшчыны, услаўленне і яе, і яе сыноў і дачок. Яе цудоўнай прыроды і шмат чаго яшчэ — што і ёсць наша Радзіма.

Я палічыў неабходным зрабіць гэты кароткі ўступ да творчасці М. Шыманскага, перш чым разгледзець цыкл яго праблемна-аналітычных публікацый, вылучаных сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі ў галіне журналістыкі. Гэта матэрыялы, змешчаныя ў газеце «Рэспубліка» ў 1994—1997 гадах. Трэба адзначыць вельмі ўдалую і трапную назву шматпланавай работы: «Дакрануцца сэрцам. Час і людзі ў роздуме журналіста». Па-першае, яна арганічна звязвае галоўныя і вельмі розныя накірункі творчасці М. Шыманскага за апошні перыяд. Па-другое, і гэта, безумоўна, галоўнае, тут сапраўды роздум журналіста пра тое, які наш час і якія ў ім жывуць людзі. Пра наша стаўленне да сваёй справы, пра вечныя маральныя каштоўнасці, пра дабро і зло вакол нас.

Па-трэцяе, усё, пра што расказвае ў гэтых матэрыялах М. Шыманскі, ён стараецца ўспрымаць і прапускаць праз сваё сэрца. Асабісты боль і глыбокая трывога ад таго, скажам, адкрыта страшнага, што, на жаль, часта адбываецца цяпер у нашым жыцці. І барацьба з усім, чаго не прымае чалавечы розум і сумленне, нястомная барацьба сілай друкаванага слова, сваёй актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, сваім багатым жыццёвым вопытам, сваім творчым неспакоем і гарэннем.

Публікацыі М. Шыманскага, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі, складаюць амаль 90 газетных палос фармату «Рэспублікі». Перакладзіце гэта на машынапісныя лісты — атрымаецца нешта каля паўтысячы! Тут сем галоўных накірункаў творчасці за час працы ў «Рэспубліцы». Праблемы нашых дзяцей. Злачыннасць і карупцыя ў нашай краіне ў самых розных, часам жудасных, формах і праявах і праблемы барацьбы з гэтым злом. Чалавек і экалогія. Нацыянальныя меншасці ў Беларусі. Некалькі цыклаў нарысаў — гістарычных даследаванняў з «біяграфіі» нашай рэспублікі на тэмы: беларусы ў Асвенціме; гераічнае і трагічнае ў абароне Магілёва; невядомыя старонкі нараджэння і жыцця ў Беларусі нашага славутага земляка, геніяльнага авіяканструктара П. Сухога; паводзіны немцаў у Брэсцкай крэпасці ў першыя гадзіны пасля яе захопу і іншыя.

Многія матэрыялы М. Шыманскага ідуць у газеце пад рубрыкай «Рэспубліка» даследуе праблему». Так, ён смела бярэцца за такія выключна важныя тэмы, калі напісаць проста сумленна і праўдзіва далёка недастаткова. Тут менавіта і патрабуецца даследаванне, неабходны глыбокае асэнсаванне і ўсебаковы аналіз тых жыццёвых працэсаў, якія зараз вельмі непакояць нашу грамадскасць — з улікам свайго прафесійнага вопыту, ведання жыцця, з умелым выкарыстаннем дакументальных матэрыялаў, з самастойнай ацэнкай падзей і фактаў. А такое журналісту даецца толькі тады, калі ён добра разумее, якая зброя яму даручана, калі з асаблівай адказнасцю ставіцца да сваёй ролі ў канкрэтнай творчай сітуацыі — як ролі своеасаблівага грамадскага суддзі.

Біць ва ўсе званы! Менавіта такі трывожны зварот М. Шыманскага да сваіх калег па пяру ў цыкле праблемна-крытычных, надзвычай вострых матэрыялаў аб карупцыі, цяжкіх злачынствах, у тым ліку і заказных забойствах, крадзяжах — такога ўсяго страшнага і небяспечнага для кожнага з нас, для ўсяго нашага грамадства. Пятнаццаць газетных палос — і ў кожнай фразе, думцы пытанні: што здарылася, да чаго мы дайшлі, чаму шмат у чым такі незразумелы наш час? Рынак з яго жорсткімі законамі выцясняе з многіх душ такія вечныя маральныя каштоўнасці, як дабро, спагада, чуласць... А што маем узамен? Вялікія крадзяжы ў эканоміцы, заказныя забойствы. Многія дзесяткі тысяч злачынстваў. Дзедаўшчыну ў арміі. Турмы і калоніі, перапоўненыя зняволенымі, у тым ліку і падлеткамі.

У гэтым цыкле М. Шыманскі ўпершыню ў беларускай журналістыцы распрацаваў амаль некранутыя раней сацыяльны пласт — жыццё ў зоне, дзе адбываюць свае тэрміны дзесяткі тысяч асуджаных. («Турэмныя пакуты», цыкл з 7 матэрыялаў). Раней гэта тэма была закрытай для друку. І вось мы разам з журналістам прыйшлі ў турмы і калоніі, заглянулі за краты, пагаварылі з іх насельнікамі і ўбачылі, хто і за што сядзіць. Колькі іх — тых, з-за каго боязна ўвечары ісці па вуліцы, хто забівае, гвалтуе, крадзе. Што рабіць нашаму грамадству, каб іх было менш?

Не менш трывожны, я нават сказаў бы, пранізліва-трывожны цыкл матэрыялаў пад назвай «Нашы дзеці: правы і лёс». Памеры газетнай рэцэнзіі не дазваляюць падрабязна прааналізаваць гэтыя выключна актуальныя публікацыі. Тым больш, што яны атрымалі шырокі рэзананс і высока ацэнены. У прыватнасці, на міжнародным фестывалі журналістыкі «Вера. Надзея. Любоў» у 1997 г. М. Шыманскі за высокі прафесіяналізм прызнаны журналістам года па намінацыі «Прэса» у катэгорыі маральна-этычных матэрыялаў па дзіцячай праблематыцы. Самі назвы публікацый гэтага цыкла гавораць за сябе. Паслухайце: «Людзі, вам не страшна за нашых дзяцей», «Дзядзя, забярыце маю маму ў турму», «Мы, дарослыя, не маем права быць спакойнымі, калі побач плача хоць адна сірата»... І тут М. Шыманскі свайго роду адкрывальнік і наватар. Ён упершыню падрабязна вывучыў і асвоіў у беларускім друку многія тэмы гэтай сферы, якія раней былі закрытымі для шырокай грамадскасці: падлеткі-злачынцы, падлеткі-безнаглядныя, падлеткі ў месцах пазбаўлення волі... Яны атрымалі шырокі грамадскі рэзананс, прадметнае рэагаванне рэспубліканскай пракуратуры, Міністэрства ўнутраных спраў, выканкамаў і іншых уладных і выхаваўчых структур. Ніхто больш з журналістаў Беларусі не займаецца так прафесійна, глыбока, настойліва і мэтанакіравана даследаваннем праблем дзяцей і падлеткаў.

Заўсёдная і самая душэўная адданасць М. Шыманскага тэме гераічнага і трагічнага ў гісторыі Беларусі. Яна — у яго кнігах нарысаў і публіцыстыкі. Яна, канешне, і ў матэрыялах, якія мы разглядаем. «І памяць, і слава, і боль» — такая назва гэтага цыкла (17 газетных палос). Тут перш за ўсё вылучаецца нарыс «Вяртанне да родных бяроз» — невядомыя дагэтуль старонкі жыцця геніяльнага авіяканструктара П. Сухога. Сваім даследаваннем журналіст аднавіў гістарычную справядлівасць адносна нашага славутага земляка — дзе і калі ён нарадзіўся. Чаму так позна быў адкрыты помнік П. Сухому на яго радзіме — у горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці? — пытаецца М. Шыманскі. І дае адказ, поўны болю і крыўды, і сваім нарысам даказвае, як нам сёння бясконца дорага ўсё, што датычыцца жыцця П. Сухога.

Можна шмат гаварыць і пра астатнія матэрыялы М. Шыманскага. Яны таксама па-свойму актуальныя і значныя. Тыя ж вострыя публікацыі па ахове Нарачы. На аснове раней невядомых дакументаў пра роднасць і еднасць нацыянальных меншасцяў Беларусі. Пра людзей, для якіх адданасць сваёй рабоце — сэнс іх жыцця.

У чым перш-наперш каэфіцыент карыснага дзеяння журналіста? Зыходзячы са свайго шматгадовага практычнага вопыту, адкажу. Тут павінны быць тры галоўныя фактары. Актуальнасць і грамадская значнасць тэмы, якую журналіст распрацоўвае. Дакладнасць і глыбіня аналізу. Высокае літаратурнае выкананне. Менавіта гэта і ўласціва ў самай поўнай меры Міхаілу Шыманскаму. Ён ніколі не здраджвае журналістыцы, якая стала ладам яго жыцця.

Справядліва гэты вялікі і вельмі змястоўны цыкл публікацый вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі ў галіне журналістыкі. Лічу, што гэты нястомны працаўнік на журналісцкай ніве варты такой высокай узнагароды.

**Барыс СТРАЛЬЦОЎ,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар, заслужаны дзеяч**
**культуры Рэспублікі**
**Беларусь.**

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

# Пятніца, 13-га

**Не шанцуе сёлета зямлянам — зноў пятніца і зноў — трынаццатае. Дзве навіны ў сувязі з гэтым: дзве такія пятніцы сёлета мы ўжо пераўжылі. Гэта добрая навіна. А цяпер дрэнная — засталася яшчэ адна. Але давайце паспрабуем разабрацца — ці так страшная пятніца, трынаццатае, як яе малююць.**

Мы ўжо прывыклі, што панядзелак — дзень «цяжкі», але, як аказваецца, і пятніца таксама далёка не самы любімы дзень тыдня.

Лічыцца, што ўсё дрэннае, што заключае ў сабе лічба 13, у пятніцу — падвойваецца. Гэтую дату называюць днём сатаны.

Пісьменнік Габрыэле Д'Анунцыё, здавалася б салідны чалавек, у 1913 годзе датаваў свае пісьмы 1912+1. А кампазітар Арнольд Шонберг, які, дарэчы, нарадзіўся ў пятніцу, 13 ліпеня 1951 года правёў у ложку, трасучыся ад страху. За чвэрць гадзіны да паўночы яго жонка зазірнула ў пакой, каб сказаць, што баяцца яму засталося ўсяго 15 хвілін. Але ўсё закончылася раней: А. Шонберг з цяжкасцю прыўзняў галаву. Выціснуў з сябе слова «гармонія» і памёр. Гадзіннік паказваў 23.47 — без трынаццаці хвілін дванаццаць.

А што ж мы? Жывём сабе ў дамах і ў кватэрах пад нумарам трынаццаць, ляжым у трынаццатых палатах у бальніцы, ездзім на працу у тралейбусах 13-га маршрута. І не звяртаем на гэта асаблівай увагі. Для нас галоўнае — была б уласная кватэра (няважна ў якім доме), ды і своечасова падыходзіў бы трынаццаты тралейбус у «гадзіну пік». Нават салідныя сталічныя гатэлі не звяртаюць увагу на такую лухту, як прысутнасць 13 паверха, ці трынаццатага нумара, гэтак жа, як і нумары 666. Праўда, у рэспектабельным гатэлі «Планета» 666-ы нумар адсутнічае.

Давайце паглядзім, як адносяцца да гэтага нашы з вамі землякі да пятніцы, 13-га.

Гандбаліст мінскай каманды СКАФ **Валянцін Несінаў**, па яго словах, лічбу 13, мякка кажучы, не паважае. Ён катэгарычна адмаўляецца выходзіць на пляцоўку ў майцы з 13-ым нумарам «Мне проста не шанцуе з 13-ым нумарам, і я не хачу падводзіць каманду», — кажа ён.

А вось яго калега, гандбаліст мінскага СКА **Сяргей Убожанка**, наадварот, не звяртае на гэта «грымучае» спалучэнне аніякай увагі і заўсёды гуляе ў майцы пад нумарам трынаццаць: «Ні да лічбы 13, ні да пятніцы, не маю ніякіх прэтэнзій. Я лічу, што кожны чалавек павінен кіраваць сабою сам і не думаць ні пра якія забабоны і прымхлівасці». З ім салідарны і вадзіцель 13-га аўтобуснага маршрута горада Мінска, які курсіруе па мікрараёну «Уручча» Пётр М.: «У такую лухту не веру — ні ў лічбу 13, ні ў чорных катоў пад калёсамі. Ніякіх здарэнняў на маім маршруце пакуль, дзякуй Богу, не адбылося. У нас галоўнае — прафесіяналізм. Але вось адзін мой сябар страшэнна баіцца, напрыклад, чорных катоў. Быў аднойчы такі выпадак, калі ён у час выканання рэйсу заўважыў чорную кошку, якая перабегла дарогу, і спыніўся прама пасярод маршрута — пакуль не праехаў іншы аўтобус. Што ж, гэта яго справа»

Пытаю ў яго, што б ён зрабіў на месцы свайго сябра, і чую ў адказ: «Задавіў бы гэтага ката!»

**Грамадзянін К.**, які жыве на вуліцы Кісялёва ў Мінску ў доме 13, у кватэры нумар трынаццаць, таксама сказаў, што нармальна адносіцца да лічбы трынаццаць: «Вось у мяне і дачка нарадзілася 13 чысла, і працую я ў офісе № 13. І гэта мне не перашкаджае».

Праўда, не ўдалося высветліць меркаванне гаспадароў тэлефоннага нумара 13-13-13 у Мінску, па прычыне таго, што ніхто не браў трубку.

Для таго, каб высветліць і меркаванні прахожых, карэспандэнт «Звязды» апытала яшчэ некалькіх чалавек. І вось што з гэтага атрымалася.

**Вольга,** студэнтка Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта: «Нармальна, звычайны дзень. Чэсна кажучы, я раней спрабавала звярнуць увагу, як пражыву 13-е чысло. У прынцыпе ўсё ў мяне ладзілася, часам лепш, чым звычайна».

Хатняя гаспадыня **Дуганава Таццяна** (40 гадоў): «Для мяне 13 число ў нечым шчаслівы дзень — 13-га нарадзілася мая дачка».

Вось яшчэ выпадак. Знаходжу кватэру пад лічбай трынаццаць, у доме па вуліцы Хмяльніцкага, што ля лазні, націскаю на званок, адчыняюцца дзверы:

— Што вам трэба? — спытала ў мяне бабулька, паглядзеўшы на мяне так, як на нейкага злодзея.

— Бабуля, як ты адносішся да лічбы трынаццаць? — пытаю ў яе.

— Якое трынаццаць, нікога я не бачыла!

І зачыніла дзверы. Вось і так бывае...

Ну а што датычыць дзвюх ужо прайшоўшых сёлета трынаццатых пятніц — лютаўскай і сакавіцкай, то нічога экстраардынарнага з пункту гледжання міліцэйскай статыстыкі ў Беларусі не адбылося. Зводкі здарэнняў на транспарце, пажараў, крымінальных правапарушэнняў — мала чым адрозніваюцца ад іншых дзён. Пры гэтым трэба адзначыць адно «але» — крыху павялічаны кантынгент у медвыцвярэзніках і колькасць выклікаў «Хуткай дапамогі», што цалкам адпавядае звычайнаму канцу рабочага тыдня і пачатку актыўнага адпачынку працоўных.

Будзем спадзявацца, што перажывём і сённяшні дзень. Галоўнае, пераходзьце вуліцу на зялёнае святло, праверце тармазы свайго аўтамабіля, ды не мяшайце піва з гарэлкай.

**Вольга РАМАНЮК.**
**Калаж**
**Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# ГЭТА ТАЯМНІЧАЯ КАТАЛОНІЯ...



**Барселона сустрэла гарачынёй і... няветлівасцю. Праўда, да гарачыні прызвычаіліся даволі хутка, а вось што датычыцца няветлівасці... Прама ў аэрапорце ў двух чалавек з нашай нешматлікай групы «сцібрылі» кашалькі, руку няпрошанага госця злавіў у кішэні і я. Добра, што тут жа суправаджаючыя і сустракаючыя нас папярэдзілі: Барселона, маўляў, тая ж Адэса...**

А я, дарэчы, і ў Адэсе ніколі не быў, і ў Барселону трапіў упершыню. Ну, вядома ж, чуў, а цяпер вось і адчуў на ўласнай скуры: жулікаў і зладзеяў хапае ўсюды. Праўда, потым, пры больш блізкім знаёмстве з людзьмі, звычаямі і традыцыямі Каталоніі, даведаўся: кішэні прыезджым у аэрапорце Барселоны чысцяць зусім не іспанцы, а... усялякія там няпрошаныя госці. Прыпомніў: сапраўды, чалавек, руку якога я намацаў ва ўласнай кішэні, на іспанца быў зусім непадобны.

Такім чынам, Каталонія — памежная з Францыяй і Андорай гістарычная вобласць на паўночным усходзе Іспаніі. Яна займае надзвычай прыгожую мясцовасць паміж дэльтай ракі Эбро і Пірэнейскім хрыбтом. Плошча Каталоніі — 31,9 тысячы квадратных кіламетраў, яна падзелена на чатыры правінцыі: Барселона, Жэроны, Тарагона і Лерыда.

Назва «Каталонія», як сведчаць гістарычныя першакрыніцы (а гісторыю тут умеюць шанаваць!), з'явілася ў XII стагоддзі. У 1164 годзе яна ўвайшла ў састаў каралеўства Арагон, а з канца XV стагоддзя — у так званую аб'яднаную Іспанію. Да 1714 года Каталонія захоўвала большую частку феадальных вольнасцяў. Праз год пасля ўстанаўлення Іспанскай рэспублікі — у 1932-м — вобласць атрымала аўтаномію, якая фактычна была ліквідавана ўжо ў 1934-м, пасля падаўлення рэвалюцыйнага паўстання. Яшчэ праз два гады аўтаномія адноўлена ў выніку перамогі Народнага фронту, але і на гэты раз на нядоўгі час: пасля захопу Каталоніі франкістамі ў 1939 годзе яна зноў страціла сваю, няхай сабе і адносную, самастойнасць. І толькі ў 1977-м аўтаномія нарэшце стала рэальнасцю.

За апошнія 20—30 гадоў Каталонія і яе сталіца, паводле сцвярджэнняў відавочцаў, змяніліся проста непазнавальна. Практычна поўнасцю абжыта, добраўпарадкавана больш чым 120-кіламетровае ўзбярэжжа Міжземнага мора, на карце турыстычнага свету з'явіліся сотні новых пляжаў, атэляў, вілаў; сотні кіламетраў проста выдатных аўтастрад... Міжнародны турызм пачаў прыносіць Каталоніі мільярды долараў, фунтаў стэрлінгаў, марак, франкаў... А некалі трушчобная, запушчаная Барселона ўвачавідкі ператварылася ў неафіцыйную, але шмат кім прызнаную непаўторную сталіцу не толькі Пірэнейскага паўвострава, а і добрай часткі Еўрапейскага кантынента.

Трыста дзён у год — тут сонца, спякота, па сутнасці — ні кроплі дажджу. Наўрад ці ёсць яшчэ дзе-небудзь у Еўропе такія ўмовы, спрыяльныя для адпачынку, вольнага баўлення часу. Сонца і толькі сонца, былі перакананы мае новыя знаёмыя — Альберта Дамінга Фернандэс і Луіс дэ ла Пена Вальега — і зрабіла іспанцаў такімі мяккімі і добрымі, таварыскімі і шчырымі...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
Мінск — Барселона.
**(Заканчэнне будзе).**

**Атрымаць запрашэнне на такі абед можа далёка не кожны. Трэба быць чалавекам выбраным ва ўсіх адносінах. А вось каго запрасіць на абед у сталоўку, вырашаюць у царкве Аляксандра Неўскага, касцёле святых Сымона і Алены ды райсабесе. Ну як жа пры такіх апекунах не лічыць сябе выбраным?**

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*

# ЗАПРАШЭННЕ НА АБЕД У СТАЛОВУЮ № 104

## У Мінску працуе адзіная сталовая для маламаёмных

«Так і ёсць», — казалі пасля абеду людзі, сярод якіх большасць састарэлых. — Мы зараз ужо мільянеры, але хто б мог падумаць, што пры такіх грашах будзем харчавацца ў сталовай для маламаёмных...»

Сталовая як сталовая. У Мінску такіх шмат. Зайсці і падсілкавацца ўдзень сюды можа любы чалавек з вуліцы — за грошы, зразумела. Кліенты ёсць. Але самыя галоўныя кліенты (прыкладна 65 працэнтаў з усіх, хто наведвае сталовую) — людзі, якія абслугоўваюцца па дабрачынных талонах. Каля 300 чалавек у месяц атрымліваюць такія талоны. 20 — праз царкву, 100 — праз касцёл, астатніх накіроўваюць райсабесы Заводскага і Ленінскага раёнаў Мінска. Аплачваюцца талоны тымі, кім выдаюцца.

Ігар і Леакадзія Корданы харчуюцца ў сталовай гады два. Абое выраслі без бацькоў, дзяцей за жыццё не нажылі. Хоць і ўдваіх, а адзінокія. У сталовай сустракаюць такіх жа адзінокіх. Вось ужо і зносіны з людзьмі.

Часам па талонах прыходзяць харчавацца дзеці, можа, замест таты ці мамы інвалідаў. У сям'і вырашаюць, каму сёння паабедаць у сталовай, ходзяць па чарзе.

Канешне, накарміць усіх людзей з малым дастаткам такім чынам не атрымаецца. Талоны — дапамога для тых, у каго самая маленькая пенсія. Ці па старасці, ці па інваліднасці. У райсабесах такіх людзей ведаюць. Але ўсё адносна. У кагосьці пенсія на якіх 300 тысяч большая, але гэта не значыць, што ён намнога багацейшы. На самай справе тых, каму патрэбная «харчовая» дапамога, намнога больш. Вось і спрабуюць у райсабесе Заводскага раёна чаргаваць: спачатку падкінуць талонаў адным, у наступны месяц — другім. Людзі дзякуюць.

Праўда, некаторыя просяць дапамагчы лепей грашамі... А некаторыя тыя ж талоны хацелі б атаварыць прадуктамі. Але прынцып цвёрды: калі кажаце, што не хапае на ежу, ідзіце, харчуйцеся. Надзея Мікалаеўна Кудрэйка, загадчыца аддзела хатняй сацыяльнай дапамогі Заводскага раёна, упэўнена, што гэта самы нармальны падыход у нашых умовах. Бо адзінокія, зломленыя жыццём людзі могуць упасці ў спакусу і патраціць тыя ж грошы на гарэлку альбо цыгарэты. Ці на карысць пойдзе такая дапамога? Нават прадукты, выдадзеныя на пэўную суму, можна пайсці і прадаць. А грошы зноў-такі патраціць. «Прынамсі, мы ўпэўненыя, што гэтыя 20 талонаў у месяц дадуць чалавеку магчымасць выжыць».

Ніне Карпаўне Кузняцовай зараз 73 гады. Свае жыццёвыя «накапленні» жанчына носіць заўсёды з сабою ў выглядзе захворванняў. А іх — якіх толькі не называла. А былі моманты, падчас акупацыі хадзіла ў разведку. Муж у партызанах таксама багата ран зарабіў, усё астатняе жыццё пакутаваў. Доўга пакутаваў, у 72-м памёр. Ніна Карпаўна яго даглядала. Можа таму і сыну мала ласкі даставалася. Вырас — пачаў здзекавацца з маці, потым зусім пайшоў з хаты, недзе бадзяжнічае. Яна некалькі гадоў нічога пра яго не ведае. Таму асабліва цёпла гаворыць пра чужых людзей, якія «пра старых карчоў клапоцяцца».

Наязджаюць у сталовую прадстаўнікі з царквы ці касцёла. Каб упэўніцца, што ўсё ў парадку. У дзень нашага візіту людзей благаславіў айцец Пётр з царквы Аляксандра Неўскага.

Трымацца можна.

За талоны, якія аплачваюць сабесы, можна паесці на 40 тысяч. У адзін з дзён наведвальнікам прапаноўвалася такое меню: вараная капуста, пюрэ, шніцэль, памідор, хлеб, чай, булачка «Сняжынка».

А вось людзі, якім абеды аплачвае касцёл, у той жа дзень харчаваліся больш сціпла: вараная капуста, свіныя зразы і макарона. Такі абед абыходзіцца ў 20 тысяч. Дастаткова, каб пражыць дзень.

Вернікі шчыра дзякуюць за такі клопат. Бо не інакш, як з ласкі Божае маюць сёння хлеб надзённы. А пасля, абавязкова пажадаюць дырэктару сталовай доўгіх гадоў жыцця і здароўечка, абяцаючы за яго памаліцца.

Гэта якраз дарэчы. Бо, каб утрымліваць далей кухню для маламаёмных, Канстанціну Сяргеевічу Шышко прыходзіцца сёння добра-такі круціцца. Менавіта яму, дырэктару сталовай № 104, прыйшла думка накарміць тых, каму найбольш цяжка жывецца. Яшчэ ў 95-м годзе ён дамовіўся з настаяцелем касцёла Святых Сымона і Алены айцом Уладзіславам Завальнюком аб арганізацыі дабрачынных абедаў для прыхаджан, якія маюць патрэбу ў дапамозе. Адміністрацыя Заводскага раёна дала згоду на такую справу. Потым людзей стала прыходзіць больш і больш — іншыя ўстановы далучыліся. Айцец Віктар з царквы Аляксандра Неўскага прапанаваў некатoрым са сваіх прыхаджан такую дапамогу.

І непасрэдна да дырэктара звяртаюцца людзі. Падыходзіў неяк састарэлы мужчына. Яму талоны далі, а дома яшчэ хворыя жонка і сын, самі яны перасяленцы з чарнобыльскай зоны, утраіх на свае сціплыя пенсіі існуюць — ні тэлевізара, ні мэблі патрэбнай. Вось каб яшчэ жонку з сынам на такое «ўтрыманне паставіць»...

Ці яшчэ была жанчына — з'ехала з Чачні, калі пачалася вайна, зараз тут ні праліскі, ні работы. Кожны чалавек — гісторыя, лічыць Канстанцін Сяргеевіч. Пабачыш іх удзень, паслухаеш — і думкі находзяць, што ніхто з нас не застрахаваны ад немачы, ніхто не ведае, якая нас чакае старасць. Ён і сам чалавек ва ўзросце, ужо дзядуля.

Зараз, сапраўды, трэба многа сіл прыкласці, каб працягваць утрымліваць кухню для маламаёмных. Раней былі нейкія ўстановы і арганізацыі, якія дапамагалі. Можна было дамовіцца з вытворцамі, саўгасамі аб закупцы прадуктаў па добрай цане. А быў час, калі ішла гуманітарная дапамога прадуктамі харчавання з Бельгіі, Германіі, Польшчы. На пачатку 1998 года настаўнік з нямецкага горада Евера спадар Кёрперых ахвяраваў неблагую суму грошай на падтрымку кухні для маламаёмных у Мінску. Нават неяк сам прыйшоў пакаштаваць таго дабрачыннага абеду. Застаўся задаволены.

А вось інспектары з Бельгіі вельмі здзівіліся, ўбачыўшы, як супрацоўніцы сталовай у судках нешта нясуць. Куды, чаму? Усё аказалася проста: 13 чалавек не могуць прыходзіць у сталовую самі, вось і дастаўляюць ім абеды прама дадому. Бельгійскія правяральшчыкі з іхнім уяўленнем пра сервіс увогуле аказаліся ў шоку: няўжо сваёй хадой, тралейбусамі дастаўляеце такі груз?..

Але крыніцы дапамогі на ўтрыманне кухні для маламаёмных абмялелі. Аплатай за талоны сёння ўсіх выдаткаў не пагасіш, нават на рыс і грэчку закупачная цана пераваліла за сотню. А дзе зараз знойдзеш якіх «спонсараў» на такую справу?

Праўда, сталовая № 104 за сваю дзейнасць атрымала льготы ад Мінскага гарвыканкама па аплаце за арэнду. Але ёсць яшчэ іншыя выплаты. Лічыльнікі на ацяпленне і ваду дырэктар здагадаўся паставіць раней. Пра тое, што старое абсталяванне неабходна мяняць, тут імкнуцца не ўспамінаць. Дзень перажылі — і тое добра.

Дырэктар упэўнены, што кухня для маламаёмных не павінна загінуць. Зараз для ўсіх не лепшыя часы. «Маламаёмны» — адноснае паняцце. Тыя ж повары, якія працуюць у сталовай, да павышэння атрымлівалі зарплату каля двух мільёнаў. Таксама невялікія грошы. Але да сваіх «кліентаў» яны ставяцца з разуменнем.

Так, ніхто асабліва ў нашай краіне не шыкуе. Але нават у часы, якія прынята называць «лепшымі», былі адзінокія старыя, якія цярпліва дажывалі свой век, былі рады ці дапамозе піянераў, ці тых жа райсабесаў, асабліва не скардзіліся на свой век. Гэтыя людзі таксама не скардзяцца. Прымаюць жыццё такім, якое яно ёсць. Але шлях да «сваёй» сталовай ведаюць добра. Яна стала часткай іх існавання.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**



**Фота IREX/ProMedia.**

*Вам адказвае юрыст*

# ПРА КРЭДЫТ І СУБСІДЫЮ

**Алена Сяргееўна ПУШЧЫНА з Мінска знаходзіцца на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў па месцы работы.**

З улікам сярэднямесячнага сукупнага даходу яна мае права атрымаць субсідыю. Але прадпрыемства, дзе чытачка працуе, не можа яе прадаставіць. Алену цікавіць, як ёй быць у гэтым выпадку.

Чытачцы трэба звярнуцца ў выканкам па месцы знаходжання прадпрыемства. Згодна з Палажэннем аб прадастаўленні грамадзянам РБ аднаразовых бязвыплатных субсідый на будаўніцтва (рэканструкцыю) альбо куплю жылых памяшканняў (зацверджана пастановай СМ ад 11.08.98 г. № 1266) грамадзяне, якія знаходзяцца на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў толькі па месцы работы, маюць права падаць заяву ў выканкам, калі прадпрыемства не можа прадаставіць такую субсідыю. Выканкам выдзеліць субсідыю з улікам часу прыняцця на ўлік на прадпрыемстве. Аднак чытачцы могуць адмовіць, калі забяспечанасць жылой плошчай на аднаго члена яе сям'і будзе вышэй за ўзровень, вызначаны для гэтага населенага пункта. Як вядома, для г. Мінска такі ўзровень складае 6 кв. м.

**Пётр Іванавіч СЯРОЎ з Мінскага раёна цікавіцца, ці можна ўзяць крэдыт пад заклад зямельнага ўчастка і як гэта павінна афармляцца.**

Згодна з Законам «Аб праве ўласнасці на зямлю» зямельныя ўчасткі, якія знаходзяцца ва ўласнасці грамадзян, могуць быць прадметам закладу толькі ў якасці забеспячэння своечасовага вяртання банкаўскага крэдыту.

Парадак перадачы зямельных участкаў у заклад для атрымання банкаўскага крэдыту зацверджаны пастановай СМ РБ і Нацбанка РБ ад 31.12.93. Варта звярнуць увагу, што, згодна з гэтай пастановай, права ўласнасці на ўчастак павінна быць засведчана дзяржаўным актам на права прыватнай уласнасці на зямлю.

Памер, парадак выдачы і пагашэння крэдыту, спагнанне працэнтаў, адказнасць бакоў і вырашэнне пытанняў вызначаецца крэдытным дагаворам і дагаворам закладу зямельнага ўчастка, якія будуць заключаны паміж банкам і чытачом.

На працягу ўсяго тэрміну дзеяння дагавора закладу зямельны ўчастак застаецца ва ўласнасці чытача, але, калі ён не выконвае свае абавязкі па крэдытнаму дагавору, банк будзе мець права рэалізаваць зямельны ўчастак.

Крэдыт можа быць выдадзены Пятру Іванавічу для розных мэтаў: на паляпшэнне якасці гэтага ўчастка і павышэнне ўрадлівасці глебы, будаўніцтва жылога дома і вытворчых пабудоў, на набыццё тэхнікі, насення, угнаенняў і г. д.

Дагавор закладу заключаецца ў пісьмовай форме, зацвярджаецца натарыусам і затым рэгіструецца ў выканкаме па месцы знаходжання ўчастка.

**Таццяна МАТУСЕВІЧ.**

***СЁННЯ***

**МЕСЯЦ**
**Апошняя квадра**
**11 лістапада**

**ІМЯНІНЫ**
**Пр. Арцёма, Аўрамія, Зіновія, Марка, Марыі, Алены**
**К. Вітольда, Віктара, Ясафата, Рэнаты**

**НАДВОР'Е**

**Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі снег. Вецер паўднёва-усходні, 6—11 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 5—7, Магілёве — 4—6, Гомелі — 3—5, Мінску — 2—4, Гродне — 1—3 градусы марозу, у Брэсце — каля нуля.**

**У наступныя двое сутак часам невялікі снег, вецер слабы. Тэмпература ўначы — 4—9, 14-га месцамі да 14, удзень — 0—5 градусаў ніжэй нуля.**

*Анталогія беларускай песні*

# Я ВЯРНУЎСЯ ДАДОМУ

Бацькоўскі дом — святое месца для кожнага з нас: тут пачынаецца наш зямны шлях. І яго асвятляе меладычная калыханка з вуснаў маці, яе спагадлівае слова.

Адчуванне гэтай вечнай ісціны кіравала стваральнікамі песні «Я вярнуўся дадому». Паэт выказаў у вершы непадзельнасць успрымання Радзімы: «бацькоўская хата — Беларусь». Аднак спявак пераканаў спавядальна-патэтычны радок «Я вярнуўся дамоў, да сваёй Беларусі» зрабіць больш лірычным, інтымным — ён атрымаўся эмацыянальным, шчымліва-кранальным, асобасна-абагульненым («Да сасновай сцяны плечуком прыхінуся»). Кампазітар, які застаўся па-дзіцячаму ўлюбёным у свой гарадок, засяродзіў увагу на непарыўнасці духоўнай сувязі кожнай асобы з родным кутам — і давялося ўвесці прыпеў.

Песня створана восенню 1993 года. Рэдактар Белрадыё Людміла Палкоўнікава перадала верш Леаніда Пранчака «Я вярнуўся дамоў» кампазітару Валерыю Іванову і актыўна прычынілася да таго, каб новы вакальны твор як мага хутчэй прагучаў у радыёэфіры. Яго выканаў Анатоль Ярмоленка і ансамбль «Сябры».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

**Верш Леаніда ПРАНЧАКА**
**Музыка Валерыя ІВАНОВА**

*Дождж імжыць над разбітай вясковаю*
*сцежкай.*
*Я іду і шукаю з былым падабенства.*
*Я вярнуўся дамоў!*
*З вінаватай усмешкай*
*Пазнаю не адразу сялібу маленства.*
Прыпеў:
Я вярнуўся дадому, да бацькоўскае хаты,
Пасля доўгіх расстанняў і няблізкіх дарог.
Сустракай мяне, мама!
Я вярнуўся дахаты,
Я вярнуўся дахаты — на бацькоўскі парог.

*Да сасновай сцяны плечуком прыхінуся.*
*Ты пазнала мяне, наша хатка, вядома.*
*Я па свеце трывожным, як вецер, нашуся.*
*А чакаюць мяне толькі тут, толькі дома!*
Прыпеў.

*Я сустрэўся з табой, родны край, ненадоўга.*
*Хай не гасне святло у вачах тваіх ясных!*
*Зноў пакіну цябе, як пакліча дарога.*
*Ты, матуля, даруй, што я госць твой нячас-*
*ты...*
Прыпеў.

1) Дождж ім-жыць над ра-збі-тай вя- ско- ва- ю сцеж-кай.
Я і-ду і шу-ка- ю з бы-лым па-да-бен-ства. Я вяр- нуў-ся да-моў!
З ві-на-ва-тай ус-меш-кай Па-зна- ю не ад- ра- зу ся- лі- бу ма-лен-ства.
2) Я вяр-нуў-ся да-моў, да сва-ёй Бе-ла-ру- сі. На-ша хат-ка, мя-не ты па-
зна-ла, вя- до- ма. Я па све-це тры-вож-ным, як ве-цер на-шу- ся.
Прыпеў:
А ча-ка-юць мя-не толь-кі тут, толь-кі до- ма! Я вяр-нуў-ся да-до-му,
да баць-коў-ска-е ха-ты. Па-сля доў-гіх рас-стан-няў і ня- блі- зкіх да-рог.
для паўтора
Су-стра-кай мя-не, ма-ма! Я вяр-нуў-ся да-ха-ты. Я вяр-нуў-ся да-ха-ты — на баць-
для заканчэння
коў-скі па-рог. Я вяр-нуў-ся да- ха-ты — на баць- коў-скі па-рог.

*Давайце адразу настроімся на сур'ёзны лад. Бо тэма, пра якую пойдзе гаворка, займае ў нашым жыцці шмат месца. Справа ў іншым — мы саромеемся, асцерагаемся яе закранаць. Памятаеце, як падчас телемоста СССР—Вялікабрытанія прадстаўніца Савецкага Саюза выдала: «У нас сексу няма!»? Цяпер адкрытасці болей, ды набывае яна часта хутчэй анекдатычна-парнаграфічны характар. А праблем хапае, як і пытанняў. Таму яшчэ раз заклікаю да сур'ёзнасці. Тым больш, што сённяшні суразмоўца вядомы, думаю, большасці чытачоў. Менавіта ягоныя кнігі ў сааўтарстве з У. Уладзіным (У. Салаухіным) «Гармонія шлюбу», «Інтымны свет сям'і», «Гармонія сямейных адносінаў» чыталіся і перачытваліся, яны адчынялі акно ў свет сур'ёзных сексуальных адносінаў і тым, хто прагнуў, яны давалі веды тады, калі на гэту тэму было накладзена табу. Так, наша размова з Дзмітрыем Капусціным — галоўным сексапатолагам Міністэрства аховы здароўя нашай краіны, кіраўніком Мінскага гарадскога сексалагічнага цэнтра. Дарэчы, у наступным годзе цэнтр адсвяткуе сваё 10-годдзе, а Дзмітрый Зіноўевіч — 25-годдзе лячэбнай практыкі. Нядаўна ўбачыла свет ягоная новая кніга «Маладзёжны секс», таму гутарку мы пачалі менавіта з праблем сексуальнага выхавання дзяцей.*

***ГУТАРКІ ПРА ЖЫЦЦЁ***

# СЕКС: КОЖНАМУ СВАЁ



## *1. Дзеці*

**— Дзмітрый Зіноўевіч, зразумела, стаўленне да розных праяў жыцця, паводзіны чалавека выхоўваюцца з дзяцінства. Секс — не выключэнне. І якім у сексуальным плане ў будучым стане дзіця, многае залежыць ад бацькоў. А вось сістэмы паводзінаў, каб хаця б у гэтым плане не нашкодзіць свайму нашчадку, мы практычна не ведаем.**

— Скажу болей — існуе тэорыя, што будучыя паводзіны закладваюцца яшчэ ва ўнутрывантробны перыяд. Увогуле дзіця праходзіць тры этапы псіха-сексуальнага развіцця. Да 5-6 гадоў ідзе ўсведамленне таго, хто я: хлопчык ці дзяўчынка? У першую чаргу пад уплывам пэўных структур галаўнога мозгу, якія адказваюць на нашы запыты. (Вядома, калі транссексуал, дык ніякае выхаванне не дапаможа.) Пакуль маленькі чалавек не вызначыць свой пол, ён будзе нібы Маўглі. Той таксама гэтага не ведаў. Пасля ўсведамлення пачынаецца разыгрыванне палавых роляў: тата-мама, камандзір-санітарка і гэтак далей. Натуральна, першы ўзор ўзаемаадносінаў мужчыны і жанчыны дзіця бярэ ад бацькоў. Таму дзеці-сіроты, з няпоўных сем'яў пачынаюць на чыстым лісце пісаць каракулі... І што б мы пасля ні рабілі, гэта будзе перапісваннем. Па Фрэйду, дзіця павінна прайсці ідэнтыфікацыю сябе з адным з бацькоў свайго полу і захаваць любоў да маці. Псіхааналітыкі сцвярджаюць: цікавасць да бацькі ўзнікае недзе з трох гадоў. Прытым апасродкавана: хто гэта такі трэці жыве з мамаю? Усвядоміўшы свой пол, дзіця, вобразна кажучы, уключае ў галаве відэамагнітафон. Яно «запісвае» ў першую чаргу паводзіны ягонага полу, ягонага клана: як есці, як хадзіць, што апранаць і, вядома, як ставіцца да процілеглага (сяброўскага ці варожага — у залежнасці ад сітуацыі ў сям'і) лагера. На шчасце, дзеці цалкам не клануюць паводзіны бацькоў свайго полу. Бо ўмешваецца іншая вельмі важная сіла — вулічная, школьная кампаніі. Уліваючыся туды, дзіця прыносіць свой сямейны сцэнарый адносінаў мужчыны і жанчыны. Ідзе абчэсванне, абціранне хатняй канцэпцыі, засвойваюцца новыя ўзоры паводзінаў. Возьмем жывёльны свет. Як правіла, самка глядзіць за дзецьмі, а самец шукае харч і абараняе іх. У чалавечым грамадстве, хоць гэта і закамуфлявана культурнымі традыцыямі, мужчына таксама застаецца здабытчыкам. Нездарма кажуць: выйшла замуж — значыць за мужа. У любым выпадку, актыўную сексуальную ролю іграе мужчына.

**— І раней, і цяпер з-за бытавых цяжкасцяў часта дзеці жывуць з бацькамі ў адным пакоі. Побач спяць, разам распранаюцца. Гэта, напэўна, не праходзіць бясследна.**

— Лічыцца, што дзіця не павінна спаць у пасцелі з бацькамі пасля двух гадоў. Сын пачынае саромецца мамы, дачка — таты, які мые яе ў 5-6 гадоў. (Канешне, тата можа мыць дачку і ў 16 гадоў, але ў такім разе справа ўжо за псіхіятрам.) У дзіцяці ўзнікае патрэба ў інтымнасці, яно ўжо разумее: нейкія рэчы павінен рабіць без старонняга вока, напрыклад, спраўляць фізіялагічныя патрэбы. Таму непажадана, каб пасля 5 гадоў дзіця бачыла бацькоў аголенымі.

**— Але ж многія дзеці любяць прыйсці да бацькоў у ложак. Асабліва ў выхадны.**

— Калі акрамя размоў дзіця ў ложку пачынае бацькоў чапаць рукамі — значыць у яго ўзнікла сексуальная цікаўнасць. Яно павінна расці ў адпаведнасці з ягонымі запытамі. Узнікла пытанне — дайце адказ. Не пачуе яго дома, дык знойдзе на вуліцы і невядома якога кшталту. Таму такі важны наступны перыяд: 6-12 гадоў. Неабходна існаванне сацыяльна адабраемага эталона для хлопчыка і дзяўчынкі. У гэты перыяд дзіця павінна ведаць: ёсць мужчына і жанчына, ёсць дружба, клопат, павага да жанчыны. Пакрыўдзіш — у яе можа не быць сям'і, дзяцей. Неабходна ўздымаць жаночы гонар, каб хлопчык разумеў: дзяўчынку крыўдзіць нельга.

**— Тое самае, напэўна, датычыць і настаўніцы. Яна ж таксама чыясьці мама.**

— Так. Галоўнае тут: наколькі моцны аўтарытэт жанчыны, каб процістаяць мностру іншых узораў: на вуліцы, у суседзяў, у тэлевізары.

**— І аўтарытэт таты.**

— Вядома. Пасля 12 гадоў трэба казаць толькі пра сексуальнае ўстрыманне ў будучым. Замбіраваць: для хлопца жанчына павінна быць святой, будучай ягонай жонкай і маці дзяцей. Дзяўчынцы трэба даводзіць: май гонар, тваё цела недатыкальнае, ніхто не мае права цябе пакрыўдзіць, а калі зачэпяць, за цябе заступяцца.

**— А ці не можа пры культывацыі ролі жанчыны ў дзяўчынкі ўзнікнуць зняважлівае стаўленне да бацькі і да мужчын увогуле? А пасля такое ўспрыманне перарасце ў фрыгіднасць.**

— Фрыгіднасць — нармальны стан дзяўчынкі. Фрыгідны — той, хто не адчувае сексуальнай цягі. Дзяўчынка павінна разумець: нельга крыўдзіць і хлопчыка — будучага мужа і бацьку дзяцей. У 12-13 гадоў пачынаецца падлеткавы перыяд. У дзяўчатак з'яўляецца патрэба знайсці сябра менавіта процілеглага полу, патрэба чыста платанічная. Нехта вобразна сказаў: у рамане Льва Талстога «Вайна і мір» да 12 гадоў дзеці чытаюць «Вайну», а пасля — «Мір». Вядома, навокал можна ўбачыць мноства прыкладаў ранняга палавога жыцця дзяўчынак. Але гэта — насілле над сабою: не быць белаю варонаю, настойвае хлопец, якога баішся згубіць. Самога ж сексуальнага жадання няма.

**— А ў хлопчыкаў?**

— Іншае. Хлопец — заўсёды самец. У аснове мужчынскай сексуальнасці ляжыць пошук сексуальнага партнёра. Заўважце: не асобы, не сяброўкі. Перыяд з 13 да 21 года называецца перыядам юначай гіперсексуальнасці. У дзяўчынак з'яўленне менструацыі нічога, акрамя лішняга клопату, не прыносіць, у хлопцаў жа першыя палюцыі — задавальненне. І пачынаецца пошук таго, як тое прыемнае адчуванне атрымаць зноў. У сне, мастурбацыяй, чым і займаюцца большасць падлеткаў. Ёсць і іншая форма — процілеглы пол. Праблема заключаецца ў тым, каб схіліць фактычна любога партнёра для атрымання таго пачуцця. Пры запаўненні картак сваіх пацыентаў часта мы пішам: пачаў палавое жыццё ў 14-15 гадоў з жанчынай 18, 20 і нават 58 гадоў. Калі падлетак да 12 гадоў не пабудаваў плаціну перад сваімі пачуццямі, гармакальная хваля не стрымліваецца. Хлопец павінен разумець: у дзяўчыны могуць быць праблемы са здароўем, ды і ў самога таксама. Ён мусіць сябе стрымліваць, а дзяўчына не павінна стымуляваць сексуальныя пачуцці. Іх у яе проста няма. Неяк прыйшоў 18-гадовы юнак. Меў сексуальныя зрывы. Я растлумачыў: можам пра нешта гаварыць, калі ён будзе весці рэгулярнае палавое жыццё. «Няма праблем, — адказвае. — Пайду на дыскатэку, здыму колькі заўгодна». — «Дык у цябе ж ёсць дзяўчына. Лепш з ёю». — «Вы што, доктар?! Я ж яе кахаю, берагу для сябе». Вось такое пачуццё павінна пераносіцца не на адну, а на ўсіх.

**— А хто павінен займацца сексуальнай адукацыяй акрамя бацькоў? Школа? Там хто — класны кіраўнік? Нават калі ён разумее неабходнасць такіх ведаў, дык асцерагаецца — каб не нашкодзіць, бо тут ён не з'яўляецца спецыялістам.**

— Класнаму кіраўніку і не трэба гэтага рабіць. Выхавацелі ў садках і настаўнікі павінны ведаць асновы сексуальнасці дзяцей: чым цікавяцца ў 3, 5, 10, 15 гадоў, што ёсць норма і калі трэба хваляваца? Іх задача: убачыць адхіленне і пракансультавацца ў спецыяліста. Ёсць сапраўдныя адхіленні — трэба лячыць, не — супакойцеся. Школьнікам варта гаварыць не пра секс, а пра гонар, павагу, дружбу, любоў, сям'ю, здароўе. Жанчыну неабходна ўзнесці на належны п'едэстал. Бо самцы заўсёды хочуць, у адваротным выпадку яны — нашы пацыенты. Справа ў іншым: хоча, але павінен разумець: нельга. Менавіта з-за вышэйпамянёных меркаванняў.

**— Якім жа чынам душыць у сабе жаданні?**

— А гэта карысна. Нармальны ж чалавек не будзе гвалціць любую прыгожую жанчыну, якую ўбачыў на вуліцы, таму што грамадства накладвае абмежаванні. Калі дзяўчына кажа юнаку «не», пачынаюцца пацалункі, абдымкі, пецінг. У дзяўчат паступова знікае фрыгіднасць і з'яўляецца патрэба ў палавым жыцці. А ў хлопца на фоне ўстрымання ўзнікае павага да жанчыны, паколькі, што лёгка даецца, тое нецікава.

**— Сёння відэа — не навіна. Адсюль — прагляды парнафільмаў. Бацькі пакідаюць касеты, а дзеці падчас іх адсутнасці глядзяць. А там усяго і шмат, і больш. Вось і ўзнікаюць комплексы: у мяне ж іначай. Па-мойму, у такой сітуацыі патрэбен нейкі настаўнік сексалогіі.**

— Мы апыталі 40 дзевяцікласніц, спыталі: хто не бачыў парнафільмаў? Не паднялося ніводнай рукі. Пытанняў такога кшталту безліч. Таму патрэбна дзяржаўная палітыка і ў гэтай сферы. Але наўрад ці яна дапаможа. Беларусь немагчыма абнесці калючым дротам, адключыць тэлебачанне. Цяпер прапагандуецца тэорыя бяспечнага сексу, планавання сям'і. Маўляў, сучасныя дзеці і так усё ведаюць, таму давайце будзем раіць: лепш жыць з адным сексуальным партнёрам, калі не — карыстайцеся прэзерватывамі, у выпадку захворвання адразу ідзіце да доктара. Фактычна ідзе падштурхоўванне да сексу. «Плаціна» адсутнічае, патрэба — існуе. Самец усё роўна будзе шукаць «здабычу». Паўтараю: у школе работа павінна быць накіравана на стварэнне вобраза мужчыны і жанчыны.

## *2. ...І мы*

**— Дзмітрый Зіноўевіч, мне здаецца адным з самых папулярных слоў сёння стала слова «аргазм». Складваецца ўражанне, што гэта праблема вельмі хвалюе нашых мужчын і жанчын. Асабліва апошніх. Я разумею: аргазм — гэта разрадка арганізма. Значыць, ён патрэбен. Ды ці не зашмат яму ўдзяляецца ўвагі?**

— Усё гэта — наноснае. Дагэтуль невядома, ці адчуваюць аргазм жывёлы. Хутчэй за ўсё — не. Самкі прадаўжаюць род, а самец гатовы заўсёды. Тое ж і ў нас. Прырода дала магчымасць мужчыну мець заўсёды аргазм, а жанчыне — нараджаць. Нібы кампенсацыя аднаго другім. Вядома, аргазм — моцнае пачуццё, і адмовіцца ад яго складана. Ды і бессэнсоўна. Забярыце ў мужчыны аргазм — спыніцца жыццё чалавецтва. Ёсць сімптом адбітку. Умоўна кажучы, выпіў чалавек келіх добрага віна — і смак запомніць надоўга. Так і ў сексе. Дарэчы, па даследаваннях амерыканскіх спецыялістаў, аргазм перашкаджае жанчыне...зацяжарыць. Таму калі яна мае мэту зачаць у пэўны дзень, дык не павінна сябе даводзіць да такога стану. Увогуле лічыцца, што трэцяя частка жанчын атрымлівае аргазм яшчэ да зносінаў з мужчынам, у сне, шляхам мастурбацыі. Атрымаўшы аргазм, жанчына будзе яго шукаць. Унутры ідзе спаборніцтва: жыць з каханым, каб таму было добра, ці з любым, але каб дасягнуць жаданага пачуцця. Ідэальны варыянт — калі сумяшчаецца, для чаго патрэбен час. Прыкладна каля года. Бо ў аснове сексуальных адносінаў ляжыць асоба чалавека. З часам фізіялагічная фрыгіднасць павінна знікнуць. Дарэчы, жанчыны, якія хочуць і могуць адчуваць аргазм, атрымліваюць яго ў 50—70 працэнтах палавых актаў. І гэта лічыцца нормаю.

**— А калі такога не адбываецца і праз некалькі гадоў сумеснага жыцця?**

— Шукайце прычыну. Сапраўдная фрыгіднасць бывае ў 6—8 працэнтах. Але прычыну варта шукаць, калі зацікаўлены і муж, і жонка.

**— Значыць, калі жанчына адчувае задавальненне, але не мае аргазму, нічога страшнага?**

— Канешне, няхай не хвалюецца. Цяпер модны дэвіз: аргазм для ўсіх, дайце яго мне любым шляхам. І мужчыну замбіруюць. Не трэба мучыць адно аднаго. Вам добра — і хопіць.

**— Існуе меркаванне, што чым болей чалавек займаецца сексам, тым ён здаравейшы. А я ведаю тых, хто ў адзіноце дажыў да глыбокай старасці.**

— Калі ёсць партнёр, а няма задавальнення, у жанчын могуць з'явіцца псіхасаматычныя захворванні. Тыя, хто не жыве палавым жыццём, бачаць эратычныя сны, якія заканчваюцца аргазмам. Няхай у сне, але арганізм разраджаецца.

**— Значыць, адсутнасць сексу не адбіваецца шкодна на здароўі?**

— Толькі ў шэрагу выпадкаў. Напрыклад, пры мастапатыі ўрач рэкамендуе палавыя гармоны. За жанчынай права выбару: любы партнёр ці адмысловыя лекі. Тое ж і ў мужчыны, які не жыве палавым жыццём, падчас палюцый сперма выкідваецца, арганізм ачышчаецца. Іншая справа, секс — фізкультура, трэніроўка мышцаў, суставаў, пазваночніка, сасудаў. Чым часцей мужчына займаецца сексам, тым у лепшай спартыўнай форме ён знаходзіцца. Арганізм сам рэгулюе, дае знаць калі трэба. Нельга сябе гвалтаваць, перагружаць. Таму што пры секс-перагрузках для дадзенага мужчыны арганізм бунтуе, і ўзнікаюць заканамерныя зрывы.

**— Відаць, ёсць нейкія нормы колькасці палавых актаў.**

— Існуюць тры тыпы сексуальнай актыўнасці: слабы, сярэдні, моцны. Слабы — здольнасць не больш як тры разы ў суткі, сярэдні — не больш шасці, моцны — больш сямі. У кожнага гэта закладзена генетычна. Чым раней пачаліся палюцыі, тым дужэйшым сексуальным тыпам будзе мужчына. Нядаўна ў мяне быў кліент. Яму 82 гады. Ледзь ногі перастаўляе, мае мноства хвароб. Скардзіцца: «Ажаніўся з маладой, а больш як тры разы на тыдзень не магу».

**— Анекдот.**

— Ніякіх анекдотаў. Праўда. І гэта на фоне ягоных хвароб. У гэтым выпадку, напэўна, і палюцыі былі рана, і мастурбацыя, і жонка, калі была адна, плакала, бо ён пастаянна хацеў. У людзей жа слаба канстытуцыі палюцыі з'яўляюцца ў 15-16 гадоў. Цягі да мастурбацыі практычна няма. У яго палавыя акты рэдкія, а з гадамі зусім знікаюць. Уявіце сітуацыю: на ўчастку растуць тры яблыні. Адна зацвіла ў сярэдзіне мая, другая — у канцы чэрвеня, трэцяя — у пачатку жніўня. Увосень прыйшлі збіраць ураджай. Дзе яблыкаў будзе болей? Вядома ж, на першай.

**— Гэта ў яблынь. Чалавек жа і курыць, і п'е. Не праходзіць такі лад жыцця бясследна для любога асілка ў мінулым.**

— Калі вы некалі падымалі 100 кілаграмаў, а я — 60, і цяпер не трэніруемся, вы ўсё роўна падымеце больш, чым я. Шкодныя звычкі, безумоўна, уплываюць, але для «яблыні, што зацвіла рана», гэта нястрашна.

**— Усякае бывае ў жыцці...**

— Так, ён можа сесці ў астрог, стаць інвалідам. У любым выпадку ягоны ўнутраны рэактар будзе дзейнічаць. І палюцыі не перастануць з'яўляцца, як па будзільніку. А ў таго, у каго слабая канстытуцыя, нічога падобнага не будзе.

**— І што вы раіце «слабай яблыні»?**

— Тлумачым, што іншай прадукцыі не выдасць. Канстытуцыю мы не мяняем. Але ёсць мноства іншых спосабаў стымуляцыі жанчыны. Якраз такому мужчыну трэба сексам займацца часцей, каб не згубіць форму.

**— Што б вы ўвогуле параілі мужчынам і жанчынам, каб іх сямейнае (ці партнёрскае) жыццё складвалася лепш?**

— Галоўнае — не замбіраваць сябе, не напампоўваць праблемамі. Захваляваўся — паспрабуй разабрацца. Балазе, літаратуры зараз шмат. Вызначце, што вам трэба. Паразмаўляйце з партнёркай. Але найлепш звярніцеся да доктара. Самае галоўнае — не спазніцца. Сексуальная незадаволенасць стварае паміж мужам і жонкаю дыстанцыю. Маўляў, калі ты не хвалюешся пра мае сексуальныя патрэбы — значыць і я цябе не цікаўлю. Дыстанцыя часта становіцца настолькі вялікай, што не можа дапамагчы ўжо і спецыяліст. Кожны чалавек жыве сваім жыццём. Без праблем не абысціся. Але трэба імкнуцца іх вырашаць.

**Гутарыў
Міхал ТАЛОЧКА.**

### *Тры пытанні да чытача*

**Ігар ГАНЧАРУК, генеральны дырэктар радыёстанцыі «Сталіца»**

***1. Чаму вы чытаеце «Звязду»?***

— На мой погляд, цяперашняй «Звяздзе» ўдалося знайсці тую самую «залатую сярэдзіну»: гэта досыць інтэлектуальная і адначасова вельмі даступная для кожнага газета.

***2. Што падабаецца ў газеце?***

— Падабаецца, што газета ўвесь час ідзе ад жыцця, прычым імкнецца паказваць яго такім, якое яно ёсць на самай справе. Вельмі прыемна, што «Звязда» застаецца па-сапраўднаму народнай, што яна не забываецца на традыцыйную спадчыну беларусаў. Нарэшце, перакананы, што зараз «Звязда» — самая пісьменная беларускамоўная газета, культуры мовы якой трэба павучыцца іншым выданням.

***3. Што б вы маглі пажадаць «Звяздзе»?***

— Узгадаем, што форма павінна адпавядаць зместу. І наадварот. Таму хацелася б пажадаць «Звяздзе» крыху змяніць сваё аблічча. Маецца на ўвазе, што найбольш актуальныя і цікавыя матэрыялы заўсёды павінны знаходзіцца на старонках газеты на самых «кідкіх», чытаемых месцах.

### КОШТ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ЖЫЛЛЯ ЎЗРАСЦЕ

***Паважаная рэдакцыя, адкажыце, калі ласка, да якога тэрміну можна прыватызаваць кватэру за чэкі «Жыллё»?***

**Ірына СІЛЬЧАНКА,
г. Баранавічы.**

Як паведамілі «Звяздзе» ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, у адпаведнасці з Законам «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» прыватызацыі падлягаюць займаемыя жылыя памяшканні ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, незалежна ад іх фізічнага зносу. Прыватызацыя жылля грамадзянамі Рэспублікі Беларусь робіцца з абавязковым залікам жыллёвай квоты. Тая частка жылога памяшкання, якая перавышае велічыню жыллёвай квоты (сумы квот), падлягае выкупу: у дамах, што ўведзены ў эксплуатацыю да 31 снежня 1991 года, — у цэнах 1991 года; у дамах, што ўведзены пазней, — у цэнах, якія дзейнічалі на момант уводу дома ў эксплуатацыю. Кошт прыватызаваных жылых памяшканняў пасля капітальнага рамонту вызначаецца зыходзячы з таго, што абнаўленне існуючых канструкцый дома не павялічвае яго балансавы кошт. Павелічэнне кошту адбываецца ў выпадку дадатковага будаўніцтва (надбудоў, прыбудоў), усталяванне дадатковых інжынерных сістэм і г. д.

Аднак, пачынаючы з 1 ліпеня 1999 года, парадак зменіцца — жыллёвыя квоты будуць залічвацца, але тая частка памяшкання, якая перавышае велічыню жыллёвых квот, будзе падлягаць выкупу ў цэнах, якія дзейнічаюць на момант прыватызацыі.

***Аркадзя БЕСПАЛАГА,** журналіста з лёсам Марэсьева, шчыра віншуе з 60-годдзем А. Жалкоўскі з Ліды. Будзь і надалей, калега, моцны духам, доўга жыві і твары!*

*Сардэчна віншуем дарагую дачку **Ганну Мікалаеўну МІХАЛЬЦОВУ** з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя і ўсяго самага найлепшага.*

**Бацькі,**
в. Касаноўка Жлобінскага раёна.

**У нядзелю, 8 лістапада, у Магілёве адбыліся ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў фестывалю «Залаты шлягер. Магілёў-98» і заключны канцэрт. За восем фестывальных дзён прайшло больш за сорак канцэртаў — не толькі ў Магілёве і Мінску, але ва ўсіх раённых цэнтрах Магілёўскай вобласці, упершыню за мяжой — у Смаленску і Бранску. Нездарма многія ўдзельнікі і госці «Залатога шлягера» для пашырэння межаў музычнага свята раілі арганізатарам перш-наперш вырашыць транспартную праблему — напрыклад, арандаваць верталёт, бо шматгадзінныя пераезды з адной канцэртнай пляцоўкі на другую вельмі стамлялі ўжо немаладых артыстаў. Але ўсе праблемы, здаецца, адступалі перад самай галоўнай вартасцю — Магілёў у лістападзе стаў месцам сустрэчы старых сяброў і калег па сцэне, а таксама паклоннікаў іх неўвядальных талентаў, з якімі можна забыцца на ўсе нягоды дзён сённяшніх і нарэшце адвесці душу.**

# АДВЕСЦІ ДУШУ НА «ЗАЛАТЫМ ШЛЯГЕРЫ»

## Свецкая хроніка магілёўскага фестывалю

Па традыцыі гала-канцэрты «Залатога шлягера» адкрываў народны артыст СССР Юрый Багацікаў, фестывальны «доўгажыхар». Публіка традыцыйна ўзнагароджвае ягоныя выступленні шквалам апладысментаў не толькі за прыгожыя спевы, але і за шчырасць, якая падкупляла. Дзякуючы тэлевізійнай трансляцыі ўся Беларусь даведалася, што Юрый Іосіфавіч атрымлівае 49 грыўняў 86 капеек пенсіі і што асабліва яго крыўдзяць менавіта гэтыя 86 капеек. Жыццё зараз у краіне цяжкае, а таму такую падтрымку надзвычай знакаміты ў савецкія часы спявак лічыць недастойнай, пра развал былой вялікай краіны гаворыць з вялікім болем, сам з'яўляецца дзеючым членам ЦК Камуністычнай партыі Украіны і асабіста сябруе з Генадзем Зюганавым.

Іншы знакаміты «ўкраінскі салавей» — Анатоль Салаўяненка зрываў не менш, чым Багацікаў, апладысментаў і крыкаў «Брава!» Сёння Анатоль Барысавіч — «вольны мастак». Ён больш не спявае ў оперным тэатры ў Кіеве і называе яго «балаганам»; але без злосці — проста канстатуючы факт. Салаўяненка пайшоў з трупы па прынцыповых меркаваннях наконт мастацтва ўвогуле і свaім месцы ў ім — у прыватнасці. Спявак таксама не вельмі добра адгукаўся наконт узроўню жыцця ў роднай Украіне і лічыць, што адчувальна лепш стане жыццё толькі гадоў праз трыццаць. Але, нягледзячы на такі сумны прагноз, Салаўяненка поўны рашучасці нешта рабіць — для сябе і сваіх дзяцей.

Кіпучая дзейнасць Анатоля Барысавіча як спевака радавала ягоную суседку па паверху ў гасцініцы «Магілёў» Наталлю Нурмухамедаву. Аднойчы раніцай пачуўшы навокал нейкія оперныя арыі, з мэтай займець асалоду ад больш моцнага гучання спявачка пачала сутаргава націскаць усе кнопкі каналаў тэлевізара, пакуль не разабралася, што за сцяной проста «распяваецца» знакаміты Анатоль Салаўяненка.

Як вядома, гарэза і камяк энергіі Наталля Нурмухамедава заўсёды прадстаўляла на савецкай эстрадзе Узбекістан, хаця, шчыра кажучы, яе бацька быў таджыкам па нацыянальнасці, а маці — руская з Тамбова. А дачка ў Наталлі ад шлюбу з палякам. На наступны год спявачка плануе паказаць дзяўчыну на конкурсе маладых выканаўцаў і тым самым дапамагчы дачцэ вызначыцца канчаткова: ці займацца эстрадай прафесійна, ці кінуць яе адразу, і наогул.

Дарэчы, «Залаты шлягер» стаў для Нурмухамедавай чымсьці накшталт «свацці»: летась яна прыехала сюды са сваім новым маладым гукарэжысёрам, за якога потым выйшла замуж. Гэты дзевяты па ліку муж Наталлі ўнёс яшчэ большую блытаніну ў нацыянальнае пытанне сям'і спявачкі, бо ён — кабардзінец.

Роза Рымбаева — мініяцюрная чароўная жанчына, здаецца, зусім не змянілася з часоў сваёй першай перамогі на ўсесаюзным конкурсе, а знакамітая «Алія» гучыць гэтак жа, як і дваццаць гадоў таму. Яна зараз выкладае ў эстрадна-цыркавым каледжы, шмат гастралюе па Казахстану, а вось прасторы новых краін былога Саюза заваёўваць не імкнецца, сваёй мовай лічыць казахскую і склад мыслення мае адпаведны. На «Залаты шлягер» Роза прыехала са сваім мужам, дырыжорам і кампазітарам Таскынам Аканавым, а дома застаўся сямігадовы сын, якому бацькі далі арабскае імя — Алі.

Напэўна, югаслаўскае прозвішча Субота вы ўспомніце: у 70-я гады група Сашы Суботы шмат гастралявала па СССР і была вельмі папулярнай. Сам Саша зараз жыве ў Іспаніі, а ў Магілёў сёлета прыехаў ягоны родны брат Мілан, кампазітар, спявак, а таксама і вядомы ў Югаславіі тэлевядучы. Госць курыў люльку і на прыстойнай рускай мове ахвотна распавядаў журналістам, што жыццё ў Бялградзе зараз даволі ніштаватае, калі ёсць работа, а вось што датычыцца ваенных канфліктаў, то спевакі, людзі мастацтва ўвогуле не жадаюць мець дачыненне да гэтых палітычных гульняў і станавіцца ў спрэчках на нейкі бок.

Дваццацішасцігадовы суайчыннік Суботы Жалька Яксімавіч атрымаў на конкурсе маладых выканаўцаў «Залатога шлягера-98» гран-пры. Ён вядомы ў Югаславіі як таленавіты кампазітар і аранжыроўшчык, і менавіта з ягонай песняй Святлана Слаўкавіч перамагла на «Славянскім базары». А вось у іпастасі спевака Жэлька выступае толькі нядаўна, і цяпер, сказаў ён прэсе, можа лічыць сябе «асобай, якая канчаткова сфарміравалася».

Дарэчы, прэміі конкурсу маладых выканаўцаў атрымалі два прадстаўнікі Беларусі: другой прэміі ўдастоены спявак з Гродна з цыганскім голасам Аляксандр Зваровіч, першай прэміі — вядомая ў нашай краіне Ірына Дарафеева, якая вельмі спадабалася Мусліму Магамаеву, па ягонаму асабістаму прызнанню.

Муслім Магамедавіч, якога аргкамітэт прадвызначаў як старшыню журы конкурсу, такі абавязак на сябе, тым не менш, не прыняў. Ён лічыць, што залішне жаласліва ставіцца да ўдзельнікаў любых конкурсаў, а таму не ў стане падзяліць прэміі. Акрамя гэтага любімец магілёўскай публікі захварэў пасля выступлення ў халоднай зале Асіповіцкага раённага дома культуры і некалькі дзён не з'яўляўся на людзях увогуле, аддаючы перавагу кампаніі кацяняці Казановы, з якім прыехала на «Залаты шлягер» вядомая беларуская тэлевядучая Элеанора Язерская. Нягледзячы на хваробу, Муслім Магамаеў не адмовіўся ад шкоднай звычкі моцна курыць — тры пачкі ў дзень. Улічваючы ягоны хранічны бранхіт, можна толькі здзіўляцца, як фестываль не застаўся без любімых «Вяселля» і «Надзеі»...

Менавіта Муслім Магамаеў звярнуў увагу прэсы на вялікую перспектыву ідэі рэтра-фестывалю, якую ўвасобіла ў жыццё Магілёўская абласная філармонія. Ён лічыць, што падобныя канцэрты ў Амерыцы карысталіся б не меншай, а то і большай цікавасцю, чым «кампанія» Ігара Крутога. З мэтрам згодна і Ілона Бранявіцкая, якая мяркуе, што падобны фестываль за акіянам стаў бы на адну прыступку з шыкоўным «Оскарам», калі б амерыканцы дадумаліся да такой ідэі.

Ілона Бранявіцкая прыехала ў Магілёў разам са сваёй вядомай маці — Эдзітай П'ехай, неўвядальная прыгажосць якой, чароўны голас, а таксама і канцэртныя туалеты ўзбуджалі, як заўсёды, вялікую хвалю цікавасці. Нягледзячы на прастуду, Эдзіта Станіславаўна міласціва згадзілася на сустрэчу з журналістамі і расказала шмат чаго цікавага. Напрыклад, пра тое, што яна — вялікая баязліўка і таму ніколі не ўдзельнічала ў конкурсах, а тры залатыя ўзнагароды за песню «Вялізнае неба» ў 1968 годзе ў Сафіі атрымала толькі таму, што яе падманулі — сказалі, што гэта звычайны канцэрт. Ці пра тое, што ў яе чыстае біяполе, і пасля канцэртаў П'ехі нават хворыя людзі адчуваюць сябе некалькі дзён вельмі добра. Эдзіта Станіславаўна нават прызналася журналістам, адкуль на ейных канцэртах калі-нікалі чуецца свіст. Аказалася, свішча сама П'еха, для якой свіст, як і пацiранне далоняў, з'яўляецца жэстам найбольшай задаволенасці.

А вось хто не хаваў свайго насцярожанага стаўлення да вялікай колькасці прадстаўнікоў СМІ на «Залатым шлягеры», дык гэта Яраслаў Еўдакімаў. Напярэдадні запланаванай арганізатарамі прэс-канферэнцыі Еўдакімаў сабраўся і з'ехаў у сталіцу, спаслаўшыся на сустрэчы з сябрамі. Аднак нельга не адзначыць, што ягоны сольны канцэрт у Магілёве стаў адным з найбольш папулярных мерапрыемстваў «Залатога шлягера». На ім пабывала і Галіна Радзівонаўна Лукашэнка. Паклонніцы засыпалі Яраслава Еўдакімава кветкамі і запіскамі.

Спевака Уладзіміра Макарава мала хто памятаў у твар, што і зразумела: ён пакінуў сцэну пятнаццаць гадоў таму пасля двух інфарктаў і пасля папраўкі знайшоў сабе іншую працу, звязаную з гандлем нерухомасцю. Але калі Макараў заспяваў пра апошнюю электрычку, якая ад яго збегла, публіка адразу ж пазнала «ветэрана эстрады». Дарэчы, Уладзімір расказаў, што ў ягонай «Электрычцы» па ідэалагічных меркаваннях быў зменены адзін радок. Там былі словы «чырванее ўсход, заўтра зноў уставаць на работу», але з-за не вельмі добрых тады адносінаў з Кітаем іх змянілі на «вось зара няспешна пачынае чырванець...»

Кампазітар Аляксандр Колкер і ягоная жонка, спявачка Марыя Пахоменка, — таксама «доўгажыхары» магілёўскага фестывалю. Жартуюць, што без Колкера і Пахоменкі «Залаты шлягер» не можа адкрыцца: маўляў, дрэнная прымета. Марыю Пахоменка звязваюць сямейныя карані з раённым цэнтрам у Магілёўскай вобласці — Краснаполлем, і сёлета Аляксандр Колкер спецыяльна напісаў новую песню на вершы краснапольцаў пра гэты куток Беларусі. Праўда, няхай не крыўдзяцца аўтары гэтага твора і ягоная выканаўца Марыя Пахоменка, але, улічваючы сённяшняе бядотнае становішча моцна пацярпелага ад радыяцыйнай катастрофы Краснаполля, некаторыя радкі наконт «незвычайных прастораў», дзе нараджаюцца «цуда-мужыкі», усё ж такі ўспрымаюцца жыхарамі Магілёўшчыны як пародыя...

Шмат добрых слоў пачулі журналісты пра аркестр Міхаіла Фінберга, які іграў на вячэрыне джазавай музыкі і ў Мінску, і ў Магілёве. Капіталіна Лазарэнка, «жывая легенда», якая асабіста была знаёма з Элай Фіцджэральд і Армстронгам, пела з Уцёсавым і працавала з Эдзі Рознерам, сказала, што беларусы нават да канца не ўсведамляюць каштоўнасць такога цудоўнага калектыву. А маэстра Юрый Саульскі прама назваў аркестр Міхаіла Фінберга лепшым калектывам такога кшталту ў Еўропе.

Дарэчы, Юрый Саульскі, якога на «Залатым шлягеры-98» віншавалі з 70-годдзем, магчыма, яшчэ прыедзе ў Магілёў — але на гэты раз па сваіх асабістых справах. Ягоны дзед Васіль Іванавіч Саульскі быў калісьці віцэ-губернатарам Магілёва! Цяпер Юрый Сяргеевіч хоча знайсці дакументы і высветліць, дзе дзед жыў у абласным цэнтры. Магчыма, прыйдзецца папрацаваць кампазітару і ў Санкт-Пецярбургу, куды быў вывезены архіў Магілёва.

Мікалай Слічэнка, якога Эдзіта П'еха называе «зоркай без дурняў», усё ж такі неверагодна прыгожы, белазуба ўсміхаўся і нікому не адмаўляў у зносінах. Ён нават знайшоў час, каб праслухаць 17-гадовага падлетка з Магілёўскага вучылішча хімікаў Ваню Казіміроўскага. Бацькі-цыганы кінулі хлопчыка адразу пасля нараджэння, а зараз ён ужо вядомы ў горадзе як уладальнік выключных вакальных здольнасцяў.

І нарэшце, жанчыны «Залатога шлягера». Гэта ўвогуле асобная размова з мэтай напісання падручніка, як у «паважныя» (прабачце!) гады захаваць прыгажосць і стыль. Дарэчы, ніводная з прыгажунь свайго сапраўднага ўзросту і не хавала. Толькі, здаецца, Ксенія Георгіядзі жартам адмовілася назваць дакладны ўзрост свайго дарослага сына. А сама Ксенія, хоць і сцвярджае, што паветра ў Афінах вымушае жадаць лепшага, усё ж выглядае на «ўсе сто!»

Надзея Чапрага перажывае, што апошнім часам набрала некалькі лішніх кілаграмаў вагі. Гэта звязана з перанесенай аперацыяй, і ў хуткім часе спявачка мяркуе вярнуцца ў сваю нармальную форму. Чапрага лічыць, што ні ў якім разе не трэба мучыць сябе дыетамі і знясільваючымі фізічнымі практыкаваннямі, а проста есці ў меру.

Эдзіта П'еха лічыць сакрэтам сваёй чароўнасці і прывабнасці той факт, што ніколі не здраджвала самой сабе. Свой стыль яна ніколі не змяняла на моды і апранае толькі тое, што ёй асабіста пасуе.

Усіх проста неверагодна ўразіла 60-гадовая балгарская спявачка Лілі Іванава. Лілі расказала журналістам, што сёлета яна вырашыла плаўна змяніць стыль, маецца на ўвазе — і спевы, і адзенне, і паводзіны — на іншы, больш сучасны, каб прыцягнуць да сябе і сваёй творчасці ўвагу маладых людзей. Цяпер яна спявае рокавыя балады і, адпаведна, апранаецца ў чорнае, скуранoе і часам бліскучае адзенне. Прычым «максі» спявачка не носіць, і выглядае пры гэтым вельмі прыстойна. Але калі Лілі Іванава расказала, якія прадукты яна ўжывае ў ежу, каб захаваць здароўе і знешні выгляд, большасць прысутных пры гэтым развіталася з асабістай марай выглядаць такім чынам на схіле гадоў.

Нані Брэгвадзе нічога не гаворыць пра сакрэты сваёй прыгажосці, але, тым не менш, з'яўляецца прызнанай «каралевай прыгажосці» «Залатога шлягера». Княскія гены маці, інтэлігентнае грузінскае выхаванне, а таксама манера спеваў і, здаецца, жыцця пад дэвізам «Толькі з пачуццём!» зрабілі Нані Георгіеўну непаўторнай жанчынай.

Дарэчы, Нані Брэгвадзе пацвердзіла, што хоць зараз яе сябры прыязджаюць у Тбілісі нячаста — грошай няма, але грузіны прымаюць гасцей усё гэтак жа пышна і з размахам. Што можна па праву аднесці і да арганізацыйнага камітэта магілёўскага музычнага фестывалю «Залаты шлягер» — тут заўсёды рады гасцям. А нам, гледачам, застаецца толькі паверыць, што ў будучым годзе зноў загучаць пазыўныя фестывалю («Ландышы...») і мы зноў сустрэнемся са старымі сябрамі і пазнаёмімся з новымі.

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**

● **Сольны канцэрт Яраслава Еўдакімава стаў адным з самых папулярных мерапрыемстваў фестывалю.**

## УСЁ ПРА ЎСЁ

### ЖЫЦЦЁ СТАНОВІЦЦА ДАРАЖЭЙШЫМ

Згодна з апошнімі данымі статыстыкі, Ганконг стаў самым дарагім месцам на Зямлі. Токіо, які быў лідэрам да гэтага, займае зараз другую пазіцыю, за ім ідзе Кіота. Цюрыху, дзе цэны заўсёды былі неймавернымі, адведзена сёмае, а Лондану — адной з найбольш дарагіх еўрапейскіх сталіц — семнаццатае месца. Нават Нью-Йорк, самы «спусташальны» з амерыканскіх гарадоў, знаходзіцца на дваццаць першым месцы. Масква займае чацвёртае, Санкт-Пецярбург — шостае месца ў свеце.

* * *

- У Лос-Анджэлесе аўтамабіляў больш, чым жыхароў.
- У 1980 годзе ўсяго ў адной краіне на Зямлі людзі не мелі тэлефонаў — Бутане.
- Сорак працэнтаў амерыканцаў носяць у сваіх бумажніках фатаграфіі сваіх любімых сабак і катоў.

**По матэрыялах друку склала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

*Ад усяго сэрца віншуем нашу любімую матулю* ***Святлану Васільеўну НІКАЛАЕВУ*** *з 60-гадовым юбілеем. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага спакою, сямейнага дабрабыту, бадзёрасці, аптымізму. Няхай цябе заўсёды падтрымліваюць у жыцці любоў і павага да цябе тваіх блізкіх.*

**Твае дзеці.**

*Брыльянтавае вяселле — вялікае свята. 60 гадоў разам!* ***Галіна Мікалаеўна і Канстанцін Аляксандравіч ЛІСІЦЫНЫ****, мама і тата, бабуля і дзядуля, мы віншуем Вас! Дарагія нашы маладажоны, жывіце спакойна і шчасліва яшчэ доўгія гады, і няхай многія кіламетры і межы між намі не перашкодзяць Вам адчуць нашую павагу і любоў.*

**Мама Таня і ўнучкі Яна, Уля і Анюта.**



**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком, носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6567.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12